

# Літаратура і мастацтва

газета творчай інтэлігенцыі Беларусі

26 САКАВІКА 1999г. № 12/3992 КОШТ 12 000 РУБ.

## ЖЫЎ БЕЛАРУС І БУДЗЕ ЖЫЦЬ!

***Ігар ЗЕЛЯНКЕВІЧ: "Я з аптымізмам гляджу ў будучыню. У нашага народа яна ёсць. Я лічу, што на парозе трэцяга тысячагоддзя мы павінны пераасэнсаваць сваё прызначэнне ў гэтым свеце. Мы павінны зразумець, што ні доктар не дасць нам здароўя, ні Прэзідэнт, хоць, вядома ж, дзяржава павінна, абавязана стварыць умовы для прыстойнага жыцця сваіх грамадзян. Мы самі павінны змагацца за сваё здароўе і выбіраць паміж пляшкай гарэлкі і здаровым ладам жыцця".***

**5, 12**

## ЧАКАЎ. СПАДЗЯВАЎСЯ. ВЕРЫЎ. І — НЕДАРЭМНА.

***Ніл ГІЛЕВІЧ: "Кожны сур'ёзны мастак звяртаецца да далёкай ці не так далёкай мінуўшчыны не таму, што ў тым пражытым і перажытым за доўга да нас ёсць шмат уражлівага, інтрыгоўнага, незвычайнага, а перш за ўсё таму, што тое даўняе дапамагае лепш зразумець няпростае сучаснае, лёс асобнага чалавека і ўсяго народа..."***

**6—7**

## АНТЭК МЛОДЫ

***Апавяданне Аляксандра СТАНЮТЫ з цыкла "Трафейнае кіно"***

**9, 14—15**

## У ВІЛЬНІ І ЛІТОЎСКІХ МАЁНТКАХ

***Успаміны Габрыэлі ПУЗЫНЫ (1815—1843 гады)***

**13—15**

## "ЧАЛАВЕК — ГЭТА ВАМ НЕ МУМІЯ..."

***Да 90-годдзя з дня нараджэння Валерыя МАРАКОВА***

**16**





# "Спяваем з аркестрам..."

### АДБЫЎСЯ II БЕЛАРУСКІ ФЕСТЫВАЛЬ ДЗІЦЯЧАЙ ЭСТРАДНАЙ ПЕСНІ.

Панядзелак стаўся для іх і нялёгкім, і радасным: з раніцы — генеральная рэпетыцыя, увечары — урачыстае адкрыццё фестывалю, амаль двухгадзінны канцэрт, шматлікая публіка, зычлівае, але кампетэнтнае ў сваіх ацэнках журы, пільныя "вочы" тэлекамер... Іх было без малога чатыры дзесяткі — удзельнікаў гэтага самага юнага і самага кранальнага песеннага свята: салісты, вакальныя ансамблі, абраныя сярод соцень прэтэндэнтаў падчас папярэдніх праслухоўванняў. Прадстаўлялі яны ўсе вобласці і сталіцу краіны.

Дзяўчаткі ды хлапчукі ад 6 да 14 гадоў з Оршы ды Рэчыцы, Салігорска ды Вілейкі, Слоніма ды Ельска, Брэста ды Навапалацка спявалі пабеларуску: хтосьці спрычыніўся да рэпертуару вядомых артыстаў айчыннай эстрады, хтосьці падрыхтаваў зусім арыгінальныя творы сваіх мясцовых аўтараў. Ім выпаў шчаслівы шанц — паказаць сябе ў мастацтве жывога гуку, папрацаваць з сапраўднымі саліднымі майстрамі — заслужаным калектывам, Дзяржаўным канцэртным аркестрам Беларусі на чале з прафесарам Міхалам Фінбергам, ініцыятарам і мастацкім кіраўніком фестывалю, якога паэт Уладзімір Някляеў назваў падчас урачыстай цырымоніі адкрыцця "нястомным ратаем на беларускай культурнай ніве".

*(Працяг на стар. 2)*





# КОЛА ДЗЁН

***Учора, 25 сакавіка, у нашай краіне ўсе, каму дорага незалежнасць беларускай дзяржавы, адсвяткавалі Дзень Волі — 81-ую гадавіну абвяшчэння БНР. Свята прайшло хоць і незаўважна для вока, але гэта было свята, якое, як паветра нябачнае, і можна прызнаваць або не, але без якога б не было сённяшняга дня, не было б Рэспублікі Беларусь.***

## ПАЗІЦЫЯ ТЫДНЯ

24 сакавіка кіраўніцтва НАТА прыняло рашэнне аб прымяненні ваеннай сілы супраць Югаславіі. У гэты ж дзень ноччу па краіне былі нанесены ракетныя і бомбавыя ўдары. Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь выступіў з заявай супраць агрэсіі, у якой гаворыцца, што "прымяненне ваеннай сілы супраць СРЮ, увод на яе тэрыторыю любых замежных узброеных фарміраванняў насуперак жаданню ўрада Югаславіі з'яўляецца адкрытым актам агрэсіі, што ўскладае на агрэсара ўвесь цяжар адказнасці за яе вынікі." Рэспубліка Беларусь цалкам падтрымлівае пазіцыю Расійскай Федэрацыі па касоўскай праблеме. Толькі няўхільнае і безумоўнае прытрымліванне прынцыпаў захавання суверэнітэту Югаславіі, яе тэрытарыяльнай цэласнасці і непрымянення сілы можа з'явіцца гарантам трывалага і доўгачаканага міру ў гэтым рэгіёне..."

## БЯДА ТЫДНЯ

Прыйшла вада — прыйшла бяда. Сэнс гэтага выразу адчулі на сабе ўжо жыхары больш за 20 раёнаў нашай краіны. Падтопленымі аказаліся 200 населеных пунктаў, 4694 жылыя дамы, 6983 падворкі, вада ўжо заліла 193 588 гектараў сельскагаспадарчых угоддзяў. З зоны бедства адселены 2051 чалавек. Эвакуацыяй насельніцтва і ліквідацыяй наступстваў паводкі займаюцца 637 адзінак тэхнікі і 1560 чалавек. А вада ўсё прыбывае і прыбывае.

## ПАВЕДАМЛЕННЕ ТЫДНЯ

Апошнім часам шмат гаворыцца пра тое, што СНД патрабуе сур'ёзнага рэфармавання, каб надаць садружнасці новы жыццёвы імпульс. Але, здаецца, гэтыя размовы, на якім бы ўзроўні ні вяліся, застаюцца толькі размовамі. Да ўсяго, на днях афіцыйны Ашхабад паведаміў Расіі, якая старшынствуе ў Савеце кіраўнікоў дзяржаў СНД, пра тое, што Туркменістан з 9 чэрвеня выходзіць з Пагаднення аб бязвізавым перамяшчэнні грамадзян СНД па тэрыторыі яго ўдзельнікаў. Туркменскія ўлады аргументуюць сваё рашэнне тым, што магчымасці, прадстаўленыя гэтым пагадненнем, прывялі да прытоку ў краіну крымінальных элементаў. Так што з 9 чэрвеня ў Туркменістан без візы ніхто не трапіць, у тым ліку і беларусы.

## АБ'ЯДНАННЕ ТЫДНЯ

У друку з'явілася інфармацыя, што ў Маскве была створана каардынацыйная рада дэмакратычных сіл Расіі і Беларусі. Да такога рашэння прыйшлі ўдзельнікі грамадскіх слуханняў, прысвечаных праблеме інтэграцыі дзвюх краін. Мэтай стварэнай рады з'яўляецца аб'яднанае супрацьдзеянне антыдэмакратычным тэндэнцыям у Беларусі і Расіі. Але ці надоўга аб'яднаюцца дэмакраты?

## ПАДЛІКІ ТЫДНЯ

Скарачэнне колькасці насельніцтва і рэзкае зніжэнне працягласці жыцця ў нашай краіне адзначаецца з 1993 года. Калі і далей будзе назірацца такая тэндэнцыя, то па падліках удзельнікаў Першага міжнароднага кангрэса "Дэмаграфічныя праблемы Беларусі" насельніцтва краіны ўжо ў 2015 годзе можа зменшыцца на 1 млн. чалавек. Падлікі невясёлыя...

## ЦЭНЫ ТЫДНЯ

Паведамленнем, што растуць цэны, нікога цяпер не толькі не напалохаеш, але і не здзівіш. Здаецца нават, што слова цэны — гэта не назоўнік, а дзеяслоў, як, напрыклад, расці. Так, паводле дадзеных Міністэрства статыстыкі і аналізу Беларусі, за першы тыдзень сакавіка спажывецкія цэны ў нашай краіне ўзраслі на 5,6 працэнта. А з пачатку года спажывецкія цэны павялічыліся ўжо на 40 працэнтаў. Для параўнання: у сакавіку 1998 года рост спажывецкіх цэн складаў 3,3 працэнта.

## ПРЭЗЕНТАЦЫЯ ТЫДНЯ

21 сакавіка ў 9 гадзін раніцы на частаце 107,9 FM пачала сваю працу новая беларуская радыёстанцыя "Альфа-Радио". У рэкламе гэтай радыёстанцыі гаворыцца, што ў эфіры будзе гучаць толькі тая музыка, якая ўжо заслужыла права на вечнае жыццё, пры гэтым трэцюю частку часу будзе перадавацца лепшая рускамоўная музыка. А беларуская? Няўжо ў нас няма музыкі, якая вартая, каб гучаць на роднай зямлі?

## ВЫСНОВЫ ТЫДНЯ

Па высновах вучоных, калі ў нашай краіне пачаць будаўніцтва ўласнай АЭС, то на гэта пойдзе 19 гадоў і траціць трэба будзе па 250 мільёнаў долараў штогод. Маркуючы па нашых багацццях, у бліжэйшае дзесяцігоддзе будавацца электрастанцыя на ядзерным паліве ў Беларусі не будзе. А там, пабачым...

## АБМЕРКАВАННЕ ТЫДНЯ

Адным з пытанняў парадку дня пасяджэння сакратарыята Беларускага саюза журналістаў было абмеркаванне канцэпцыі стварэння Музея беларускай журналістыкі. Першую чаргу музея плануецца адкрыць ужо сёлета ў Дзень друку, які па традыцыі адзначаецца 5 мая.

## ЛІЧБЫ ТЫДНЯ

Падчас выступлення на Першым Міжнародным кангрэсе па дэмаграфічных праблемах Беларусі з вуснаў галоўнага акушэра-гінеколага Мінскай вобласці Антаніны Шмак прагучалі лічбы: у нашай краіне ў 1998 годзе было прынята родаў у колькасці 93772 і ажыццёўлены 141051 аборт. Інакш кажучы, на 100 родаў прыпадае 150 абортаў. Так што прыросту насельніцтва, відаць, няма чаго і чакаць!

## НАПАМІН ТЫДНЯ

Служба часу і Дзяржстандарту нагадала, што на перыяд з 28 сакавіка па 31 кастрычніка 1999 года ў краіне ўводзіцца "летні час". У сувязі з гэтым стрэлкі гадзіннікаў па ўсёй тэрыторыі Беларусі 28 сакавіка ў 2 гадзіны пераводзяцца на 1 гадзіну назад.

АНОНС

# Скрыпка гукае "Вясну"!

"Ад лістападаўскай "Беларускай музычнай восені" да красавіка ў нас снег ідзе. Няўжо на Беларусі 6 месяцаў зіма? Пэўна, вясна прыйдзе разам з музычнымі святамі!" — гэтая жартоўная заўвага мастацкага кіраўніка сталічнай філармоніі Ю. Гільдзюка падчас нядаўняй сустрэчы з журналістамі аказалася прарочай. З пачаткам фестывалю "Мастацтва — дзецям і моладзі" пачало мяняцца і надвор'е. А 30 сакавіка будзе афіцыйна адзначаны пачатак вясны — прынамсі, музычнай. Бо ў гэты вечар у Вялікай зале філармоніі адбудзецца першы канцэрт Міжнароднага фестывалю "Мінская вясна", які сёлета прадоўжыцца да 15 красавіка.

"У свеце скрыпкі" — такую праграму мае гэтае традыцыйнае свята мастацтва сёлета. Арганізатары тлумачаць выбар тэматычнага напрамку фестывалю тым, што скрыпка, каралева музыкі, аснова сімфанічных ды камерных аркестраў, акадэмічных ансамбляў, гераіня беларускага фальклору, — мае быць узведзена на п'едэстал годнай яе ўвагі ды пашаны. Тым болей, што нягледзячы на адчувальны дэфіцыт майстроў скрыпічнага выканальніцтва, на штогадовае скарачэнне набору навучэнцаў па гэтай спецыяльнасці ў ДМШ і музычных вучэльнях, на эміграцыю музыкантаў, захаваліся ў Беларусі і добрыя традыцыі, і таленты. І тое, і другое вымагае падтрымкі...

Падчас "Мінскай вясны" адбудуцца канцэрты з удзелам знаных у свеце скрыпачоў: народнай артысткі Грузіі Марынэ Яшвілі, народнага артыста СССР Эдуарда Грача, народнай артысткі Расіі Ірыны Бачковай, колішняга мінчука, лаўрэата міжнародных конкурсаў, які цяпер у Германіі, Аляксандра Крамарова. Прыедуць, дарэчы, і маладыя "беларускія замежнікі" — выхаванцы нашай скрыпічнай школы, якія працягваюць адукацыю або працуюць у іншых краінах. Выступяць і навучэнцы Рэспубліканскага каледжа пры БАМ, студэнты Акадэміі музыкі, славуты Камерны аркестр пад кіраўніцтвам У. Перліна. Маладыя скрыпачкі з Францыі завітаюць на "Вясну". А знаныя замежныя госці правядуць майстаркласы для сваіх юных мінскіх калег...

Скрыпка не будзе ў самоце. Яе голас падтрымаюць і канцэртмайстры-піяністы, і, вядома ж, аркестры: камерны калектыў з Расіі пад кіраўніцтвам Д. Зубава, "Маладая Беларусь" на чале з М. Казінцом, Акадэмічны сімфанічны — з Г. Праваторавым, камерны аркестр "Масковія" пад кіраўніцтвам Э. Грача. Памяці цудоўнага беларускага музыканта, маэстра, з імем якога доўгі час быў звязаны пос-пех айчыннага Камернага аркестра, — Юрыя Цырука прысвячаюцца канцэрты выдатных выканаўцаў з Масквы Наталлі Гутман ды Элісо Вірсаладзе.

У праграмах фестывалю — апрабаваная часам высокая класіка і лепшыя ўзоры музыкі XX стагоддзя.

**С. Б.**

ГОСЦІ

# Зазірнулі да нас зоркі...





Беларускі балет вандраваў па Іспаніі, але нашым паклоннікам Тэрпсіхоры сумаваць не выпадала. Дзякуючы прадпрымальнасці кіраўніцтва Магілёўскай абласной філармоніі да нас завіталі знаныя зоркі балета Украіны ды Расіі. Прынамсі, яны зіхацяць у спектаклях Данецкага тэатра, які паказаў на мінскай сцэне "Баядэрку" Л. Мінкуса, "Пер Гюнт" Э. Грыга ды "Вальпургіеву ноч" на музыку Ш. Гуно. Наша публіка ўжо ацаніла майстэрства і творчую форму народнай артысткі Расіі Ніны Сямізоравай ды народнага артыста Украіны Вадзіма Пісарава. Гастрольны тур гасцей па гарадах Беларусі прадоўжыцца да 3 красавіка.

*Фота А. ПРУПАСА*

ФЕСТЫВАЛІ

# Вось дык вакацыі!

Традыцыйныя школьныя вакацыі сёлета стануцца змястоўнымі і запамінальнымі для ўсіх, хто спрычыніцца да фестывалю "Мастацтва — дзецям і моладзі". З 22 па 28 сакавіка па ўсёй краіне праходзяць канцэрты і спектаклі з удзелам юных выканаўцаў і майстроў мастацтваў, ладзяцца разнастайныя выстаўкі, адбудуцца кінапаказы.

Сярод адметных імпрэз — II Беларускі фестываль дзіцячай эстраднай песні "Спяваем з аркестрам", што ладкуецца па ініцыятыве і пад кіраўніцтвам народнага артыста Беларусі прафесара М. Фінберга. 10-годдзю стварэння Узорнага эстрадна-сімфанічнага аркестра (кіраўнік В. Быкаў) Нацыянальнага цэнтра творчасці дзяцей і моладзі прысвячаўся канцэрт у Вялікай зале сталічнай філармоніі. Упершыню ў Мінску выступіць дзіцячы музычны тэатр "Галина Вишневская", створаны ў адным з вядомых маскоўскім вучэбным комплексе для адораных дзяцей. Будучыя спевакі, мастакі тэатра, артысты балета і аркестра, якімі апякуецца выдатная спявачка, пакажуць дзіцячыя оперы мінулых стагоддзяў — "Грыбны перапалох" і "Цар-Лядзяш", што цікава будзе і старэйшым. Завершыцца фестываль у нашай сталіцы аўтарскім вечарам знанага кампазітара, прэзідэнта Федэрацыі дзіцячых і юнацкіх хораў Расіі акадэміка Г. Струвэ. У канцэрце возьмуць удзел узорныя харавыя калектывы мінскіх школ.

**Н. К.**

# "Спяваем з аркестрам..."

*(Працяг. Пачатак на стар. 1)*

Для іх з густам пашчыравалі знаны музыкант аркестра і кампазітар Уладзімір Ткачэнка, зрабіўшы амаль тры дзесяткі арыгінальных песенных аранжыровак, у якіх адметнай фарбай уразіла партыя хору. Так, усю праграму, як і летась, апроч аркестра, суправаджаў узорны харавы калектыў "Фэст" мінскай СШ N 201 пад кіраўніцтвам Элеаноры Старажук.

Стваральнікі свята для дзяцей сталіся і кіраўнікі праграмы народная артыстка Зінаіда Бандарэнка, рэдактар папулярнага "Тэлебома" Таццяна Сінкевіч, вядучая (і саліства!) Ларыса Грыбалёва, удзельнікі студыі бальнага танца Дома друку, спецыялісты пастановачнай і адміністрацыйнай груп аркестра, арганізатары з боку Міністэрства культуры, Белтэлерадыё, Мінгарвыканкама...

А дзеці... Яны былі такія шчырыя і такія розныя ў эмацыйным выяўленні свайго творчага "я"! Хтосьці з малых нагадваў сваіх гарэзлівых песенных герояў — "коцікаў" ды "малпачак" з мульцікаў. Хтосьці выказваў праз песню сваё падлеткавае памкненне "быць падобнай да..." Шчодрую авацыю залы выклікала Саша Журомская з Мазыра — дзяўчынка-невялічка з не па гадах моцным, зычным "народным" голасам. Не ўстрымалася публіка ад воклічаў "брава!" пасля выступлення ўжо знанага пінчука Сашы Чаркаса, адзінага ўдзельніка, які, апроч таленту, паказаў і годную школу, і высакародную культуру спеваў на эстрадзе. Нельга было не заўважыць, як вырасла за год пястушка першага фестывалю — Насця Жук з Маладзечна і што нібыта ёй "на змену" з'явілася самая маленькая салістка вілейскай студыі "Экспромт" Даша Рогач.

Зрэшты, журы, у якім старшынявала вядомая кампазітарка, апякунка юных спеўных талентаў, Валянціна Сярых, працавала сімвалічна, ацэньвала многія выступленні на "5", зрэдчас карысталася карткамі з лічбай "4" і прызавыя месцы не размяркоўвала. Накont прызоў паклапаціліся спонсары — "Беларусбанк", Беларуская чыгунка і "Камунарка", зрабіўшы падарункі ўсім удзельнікам фестывальных канцэртаў.

Падчас вясновых вакацый нашы дзеці атрымалі не проста чарговае свята: яны займелі падтрымку і перспектыву ў сваіх цудоўных захапленнях, здатных напоўніць прыгожымі ўражаннямі і адметным сэнсам пачатак іх няпэўнага на сённяшні дзень, трывожнага жыцця.

**С. Б.**

ВІНШУЕМ!

# Сакрэт юбіляра

У чым сакрэт надзвычайнай прыцягальнасці асобы Генадзя Праваторава? Вядома ж, не ў тым, што ён апынуўся ў цэнтры ўвагі музычнай грамадскасці, узначаліўшы на пачатку канцэртнага сезона адзін з асноўных мастацкіх калектываў нашай краіны — Дзяржаўны акадэмічны сімфанічны аркестр. Калі той сакрэт наогул можна вытлумачыць словамі, дык гэтымі словамі будуць — "дырыжор ад Бога". А творчы геній, як вядома, узросту не мае. Таму, відаць, і не хацеў Генадзь Панцеляймонавіч ніякіх юбілейных афіш, быў крыху збянтэжаны ініцыятывай філарманічнага кіраўніцтва адзначыць 50-годдзе прафесійнай дзейнасці дырыжора.

"Дык няўжо яму 70?" — зрабіўшы няхітры матэматычны разлік, дзівіліся паклоннікі, дасведчаныя ў фантастычнай працаздольнасці Праваторава, у яго "шалёных хуткасцях" ды "тэрмаядзернай энергіі", якой, здаецца, надоўга хопіць, каб зараджаць і аркестр, і шматлікую публіку.

Так, юбілей. І становішча галоўнага дырыжора, як бы ні пратэставала супраць гэтага Боская сутнасць мастака, — становішча абавязвае да пэўнай публічнай акцыі, "справаздачы", дэманстрацыі творчых вынікаў...



Талент Г. Праваторава, падсілкаваны школай такіх карыфеяў, як К. Кандрашын ды А. Гаук, рабіў яскравым жыццё ўсіх калектываў, з якімі давялося супрацоўнічаць маэстра. Гэта Маскоўскі музычны тэатр імя К. Станіслаўскага і У. Неміровіча-Данчанкі, Ленінградскі Малы тэатр оперы і балета, Маскоўскі эксперыментальны музычны тэатр, Куйбышаўская філармонія. Працаваў ён у Адэсе, у Мінску (15 гадоў таму быў галоўным дырыжорам Акадэмічнага тэатра оперы і балета Беларусі)...

Генадзь Праватораў не зрабіў кар'еру скандальнага сталічнага дырыжора, што было ці не модай сярод ягоных калег. Ён зрабіў сабе Імя. Імя Музыканта, якога паважаюць калегі, аркестранты, вучні, якога любіць публіка, якога ведаюць і высока цэняць замежныя спецыялісты.

Народны артыст Расіі, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Беларусі, прафесар Беларускай акадэміі музыкі Г. Праватораў шчыра, інтэнсіўна і плённа жыве ў мастацкім асяроддзі нашай краіны. З цікавасцю працуе над партытурамі беларускіх аўтараў. Прапагандуе самыя розныя сімфанічныя творы сусветнай значнасці.

Пасля таго сакавіцкага канцэрта, што прымяркоўваўся да юбілею галоўнага дырыжора Дзяржаўнага акадэмічнага сімфанічнага аркестра Беларусі, абмяркоўвалі праватораўскую трактоўку Другой сімфоніі Г. Малера. Зацікавіць, захапіць, заваражыць Малерам?! Гэта не проста. На гэта здатны толькі энтузіяст, дырыжор ласкаю Божай...

**С. БЕРАСЦЕНЬ**

*Фота У. САПАГОВА*

ІМПРЭЗЫ

# Каб ведаць, хто мы

Якімі толькі эпітэтамі не вызначаем мы сённяшні час! Ён і скрутны, і бязладны, і парадаксальны, і проста цяжкі і беспрасветны... Аднак жа тройчы мае рацыю той, хто кажа, што нават усе згаданыя акалічнасці не могуць спыніць жыцця. Жыццё працягваецца. Больш за тое, яно часам выяўляе, паказвае такія прыўкрасныя ўзоры сваёй бессмяротнасці, што застаецца адно здзіўляцца і захапляцца.

Я спазнала такое пачуццё на выставе "Беларуская кніга-98". Госпадзе, колькі ўжо сказана пра варты жалю стан нашага, акурат беларускага кнігадрукавання! І яно ж праўда. Літаральна ўсе нашы дзяржаўныя выдавецтвы рэзка здалі свае пазіцыі як па колькасці выданняў, так і па тыражах. Гэта — мякка кажучы. Калі ж папраўдзе, дык і ад першага і другога засталіся толькі рожкі ды ножкі. І ўсё ж яны жывуць, і ўсё ж кнігі — выходзяць. І гэта красамоўна засведчыла згаданая выстава (тым больш, што пераважала на ёй, бадай, прадукцыя недзяржаўных выдавецкіх структур), і яна дае нейкі спадзеў на будучыню. І спадзеў гэты звязваецца найперш няхай з нямногімі, але проста выдатнымі, унікальнымі, адмысловымі ва ўсіх адносінах экспанатамі выставы, якія здымаліся са стэндаў і браліся ў рукі "с благоговейным трепетом" — інакш не скажаш.

Адна з такіх кніг — даследаванне Івана Саверчанкі "Aurea mediocritas". Гэты лацінскі выраз азначае: "залатая сярэдзіна". І адно, і другое наўрад ці скажа што недасведчанаму чытачу. А вось чытача дасведчанага, які ведае, што гэты аўтар даследуе ролю буйных палітычных і культурных дзеячаў у гісторыі Беларусі, старажытнае пісьменства (паэзія, царкоўна-павучальная і палемічная літаратура), духоўныя ўзаемадачыненні беларусаў з суседнімі народамі, назва безумоўна зацікавіць, спародзіць пытанне: якую "залатую сярэдзіну" мае ён на ўвазе? Тыя цывілізаваныя формы развіцця грамадства, тую "залатую сярэдзіну", якую знайшлі нашы продкі, каб пазбегнуць у шматканфесійнай краіне крывавых рэлігійных войнаў? Ці тую "залатую пару" нашай культуры, якая звязваецца з эпохай Адраджэння і ранняга барока? І гэты дасведчаны, здагадлівы чытач будзе мець рацыю, лацінскую назву кнігі можна разумець і так, і гэтак. Бо яна мае падзагаловак: "Кніжна-пісьмовая культура Беларусі. Адраджэнне і ранняе барока".

Так, продкі нашы знайшлі гэтую "залатую сярэдзіну". І баталіі разгортваліся найперш на старонках рукапісных і друкаваных кніг. Праблемы, што дыскутаваліся ў старабеларускім пісьменстве, ахоплівалі шырокі круг пытанняў: функцыянаванне інстытуцый улады, шляхецкая дэмакратыя, рэформа адміністрацыйнай і судовай сістэм, саюз з Польшчай, статус праваслаўнай царквы, эклесіялогія, антрапалогія і этыка — гэта будзе не зусім поўны пералік. Вось гэтыя дыскусіі і даследуе І. Саверчанка ў сваёй кнізе. Даследуе зацікаўлена, прыводзячы новыя факты, выказваючы свежыя ідэі, выкарыстоўваючы сучасную методыку, робячы працу сваю цікавай не толькі навукоўцам, але і самаму шырокаму колу чытачоў. Бо, як гаворыць сам у прадмове, "менавіта там, у мінулым, трэба шукаць адказу на асноватворныя пытанні фармавання адметнай беларускай культуры, лексічна багатай, гнуткай і вобразнай мовы, своеасаблівага прыгожага пісьменства, развітой філасофскай, грамадскай і юрыдычна-прававой думкі. Выяўленне шматстайных духоўна-культурных чыннікаў, што ўплывалі на фармаванне нацыі, этычных і эстэтычных ідэалаў беларусаў, бадай, найгалоўнейшая ўмова спасціжэння генезісу і эвалюцыі беларускай ідэі ад яе пачатковых праяў да выразна акрэсленых, завершаных і дасканалых форм". Пагадзіцеся, што сёння ўсё гэта мае для кожнага з нас асаблівае значэнне. Без ведання, хто мы і адкуль, мы наўрад ці зробім крок у сваю лепшую будучыню.

Кніжна-пісьмовую культуру Беларусі эпохі Адраджэння і ранняга барока вывучалі многія даследчыкі — ад П. Уладзімірава, Я. Карскага, У. Пяратца, М. Грушэўскага, С. Маслава, А. Весялоўскага, А. Сабалеўскага, М. Доўнар-Запольскага да М. Улашчыка, а таксама многія і многія іншыя навукоўцы Беларусі, Расіі, Украіны, Польшчы, Літвы, Італіі, Германіі. І. Саверчанка не ўпусціў нікога і нічога, франтальна вывучыў шырокі комплекс рукапісных і друкаваных твораў старажытнасці, нямала з якіх адшукаў сам у архівах ды кнігасховішчах Вільні, Масквы, Санкт-Пецярбурга, Мінска, Кіева, Кракава, Цюрыха, Адэсы і інш. У выніку нарадзілася гэтае фундаментальнае, усебаковае і ўсеахопнае выданне.

Навуковую ацэнку кнізе дадуць, вядома, спецыялісты. Я ж хачу найперш падкрэсліць тое, што выдадзена яна цудоўна, на мелаванай паперы, са шматлікімі каляровымі ілюстрацыямі, у каляровым супеpы, набрана, звярстана і надрукавана з высокім мастацкім густам. Яна не проста кніга, а — твор паліграфічнага мастацтва. Акурат гэтая кніга, поруч з некаторымі іншымі на выставе, і спараджалі тое светлае і аптымістычнае пачуццё, пра якое я гаварыла ў пачатку.

Падрыхтавана кніга ў выдавецтве "Тэхналогія". Даследаванне і выданне ажыццёўлена пры падтрымцы Беларускага рэспубліканскага фонду дакументальных даследаванняў, Інстытута "Адкрытае грамадства" і Інстытута літаратуры імя Янкі Купалы НАН Беларусі. Наклад яе — 2000 асобнікаў. Адрасавана кніга гісторыкам культуры і літаратуры, медыявістам, філосафам, кнігазнаўцам, выкладчыкам ВНУ, настаўнікам, студэнтам і... усім свядомым беларусам.

У часе выставы, якая яшчэ працуе ў мінскай кнігарні "Светач", адбылася прэзентацыя кнігі І. Саверчанкі. У ёй прынялі ўдзел аўтар, а таксама галоўны рэдактар выдавецтва "Тэхналогія" Зміцер Санько, рэдактар кнігі Наталля Санько, мастак Вадзім Масцераў і тэхнічны рэдактар Лідзія Масцерава.

**М. МІХАЙЛАВА**

АБСЯГІ

*БРЭСТ...*

## Не забыліся на юбілей Гётэ

Славутаму нямецкаму пісьменніку, як вядома, сёлета спаўняецца 250 гадоў. Першым у Брэсце на гэтую дату адгукнуўся выкладчык нямецкай мовы мясцовага дзяржуніверсітэта Яўген Бяласін. Лютаўскі выпуск бюлетэня "PROEVROPA", рэдактарам якога ён з'яўляецца, цалкам прысвечана Гётэ. У бюлетэні змешчаны звесткі з жыцця і творчасці нямецкага пісьменніка і ягоныя вершы ў перакладах Юркі Гаўрука, Алега Лойкі і самога рэдактара бюлетэня.

## Драздовіч і Берасцейшчына

У Брэсцкім краязнаўчым музеі экспануюцца арыгінальныя працы вядомага мастака Язэпа Драздовіча. Экспанаты прывезены з Нацыянальнага мастацкага музея Беларусі. Для наведвальнікаў выставы вельмі цікава адкрыць для сябе, што нямала пейзажаў і замалёвак Язэп Драздовіч стварыў на Берасцейшчыне, у прыватнасці, у Пінску і ў яго ваколіцах. Выстава будзе працаваць тры месяцы.

**Сымон АКСЕНІН**

*ГОМЕЛЬ...*

## "Сагрэтыя сэрцам..."

Гамяльчанін Станіслаў Дзмітрыевіч Дзьяканаў — вядомы жывапісец. З эцюднікам аб'ехаў розныя мясціны роднага краю. Менавіта палеская зямля дадае мастаку натхнення і жыццёвага аптымізму, множыць творчыя сілы. Больш за 45 гадоў працуе Станіслаў Дзмітрыевіч на ніве мастацтва. За гэты час напісаў сотні палотнаў: тэматычныя карціны, партрэты, пейзажы. У кожнай рабоце — дакладнасць кампазіцыйных рашэнняў, багаты каларыт, яркая вобразнасць. Як удзельнік абласнога пленэру на Тураўшчыне ён напісаў вялікі цыкл пейзажаў "Палессе". Стварыў серыю работ на Мазыршчыне. Нямала палотнаў майстра захоўваюцца зараз у Веткаўскім, Добрушскім, Гомельскім раёнах. Творы Дзьяканава вядомы і за межамі вобласці. У апошнія гады Станіслаў Дзмітрыевіч працаваў над новай серыяй "Мая Навабеліца" (раён Гомеля, дзе жыве мастак). Экспазіцыя пад такой назвай і адкрылася ў карціннай галерэі абласной арганізацыі Саюза мастакоў. Як сказаў Дзьяканаў, кожная работа — сагрэтая сэрцам.

## Вернісаж светлагорцаў

Выставачная зала Мазырскага музея лічыцца адной з лепшых у вобласці. Тут пастаянна адкрываюцца вернісажы як знакамітых майстроў, так і маладых мастакоў. Цяпер, напрыклад, працуе экспазіцыя светлагорскіх жывапісцаў Віктара Баранава і Мікалая Кухарэнкі. В. Баранаў належыць да старэйшага пакалення творцаў. На працягу 35 гадоў у сваіх работах ён адлюстроўвае прыгажосць краявідаў роднага горада. На выставе прадстаўлены яго палотны "Вясна на Бярэзіне", "Раніца", "Сланечнік"... Мікалай Кухарэнка на 20 гадоў маладзейшы. У Светлагорску ён узначальвае дзіцячую мастацкую школу, плённа працуе ў розных жанрах жывапісу.

Экспазіцыя светлагорскіх жывапісцаў з горада над Прыпяццю пераедзе ў Рэчыцу, а потым у пасёлак Акцябрскі.

## А сувязі жывуць

У Гомелі з гастролямі часта выступаюць вядомыя тэатральныя калектывы Масквы, Санкт-Пецярбурга. А нядаўна гамяльчане пазнаёміліся са спектаклем Дзяржаўнага акадэмічнага тэатра оперы і балета Украіны — "Баядэрка". У галоўных ролях былі заняты лаўрэаты міжнародных конкурсаў артыстаў балета, народныя артысты Украіны Вадзім Пісараў і Іна Дарафеева.

**Аляксей ШНЫПАРКОЎ**

*ГРОДНА...*

## Тыдзень кнігі

Тыдзень дзіцячай і юнацкай кнігі, прысвечаны 200-гадоваму юбілею А. Пушкіна, праходзіць у Гродне з 23 па 30 сакавіка. Яго арганізатары-супрацоўнікі цэнтралізаванай бібліятэчнай сістэмы. Вучні гродзенскіх школ сталі гасцямі і ўдзельнікамі ўрачыстага адкрыцця свята, на якім прысутнічалі таксама і ганаровыя госці — паэтка Марыя Шаўчонак і прадстаўнікі ДАІ, што выступіла спонсарам мерапрыемства. Юныя артысты з сярэдняй школы N 3 паказалі спектакль паводле "Казкі пра цара Салтана", пастаноўку якога ажыццявіла актрыса тэатра лялек Людміла Паўлоўская. Дзеці прынялі ўдзел у віктарынах па казках Пушкіна, а таксама (што немалаважна напярэдадні школьных вакацый) па правілах дарожнага руху. У межах тыдня кнігі адбудзецца цэлы шэраг конкурсаў, вечарын, літаратурных гасцёўняў і іншых мерапрыемстваў у бібліятэках горада.

**Лілія НАВІЦКАЯ**

*ВІЦЕБСК...*

## "Белая амфара" — у пяты раз

У пяты раз Віцебск рыхтуецца да рэспубліканскага конкурсу мадэльераў-дызайнераў і манекеншчыц "Белая амфара", які запланавана правесці на подыуме Культурна-дзелавога цэнтра ААТ "КІМ" з 19 па 23 траўня. Да старых заснавальнікаў (канцэрн "Беллегпрам", ААТ "КІМ", Віцебскі дзяржаўны тэхналагічны універсітэт) сёлета далучаецца Нацыянальная дзяржтэлерадыёкампанія. Свята моды традыцыйна пройдзе па дзвюх намінацыях — прамысловае і непрамысловае мадэляванне. Абазначаны такія тэмы, як "Гарадскі раман", "Трыкатажная сюіта", "Тынейджэр", "Пяшчота". Да ўдзелу ў конкурсе запрошаны студэнты і навучэнцы нават з-за мяжы. Упершыню плануецца паказ мадэляў абутку.

## Люблін вітаў барда

Віцебскі бард Яўген Савельеў з поспехам гастраляваў у Польшчы. Цёпла яго сустрэлі прыхільнікі песеннага жанру ў Любліне. Яўген выконваў песні са сваіх апошніх беларускамоўных альбомаў. Па словах барда, гучанне беларускага слова вельмі ўзрушыла палякаў. Асабліва спадабаліся слухачам песні на хрысціянскую тэматыку. На віцебскім тэлеканале можна ўбачыць зараз кліп Савельева "Стары храм". У гэтыя дні спявак разам з гуртам "Ньюкасмаполіс" заканчвае працу над беларускім калядным альбомам, у які ўключаны як традыцыйныя калядкі, так і песні на вершы Ларысы Геніюш, Міхаіла Арла.

**Святлана ГУК**

## Прэміі часопіса "Полымя"

Рэдакцыйная калегія старэйшыны сярод літаратурна-мастацкіх выданняў краіны прысудзіла прэміі за лепшыя творы, апублікаваныя на старонках "Полымя" ў 1998 годзе. Лаўрэатамі сталі: па намінацыі "Проза" — А. Кудравец (апавяданне "Баёк"), В. Карамазаў (эсэ "Жаваронкам бласлаўлёнае"), "Паэзія" — Н. Гілевіч (паэма "Ладачкі"), В. Зуёнак (вершы), "Старонкі нашай гісторыі" — Г. Кісялёў (артыкул "Фантомы тайных архіваў"), "Крытыка і літаратуразнаўства" — Д. Бугаёў (артыкул "Летуценніца на скразняках эпохі"), "Сярод кніг" — Г. Тычка (рэцэнзія "Ад славянскіх вытокаў — да XIX стагоддзя").

**Н. К.**

## *У вольным горадзе Менску*

**У мінулую пятніцу ў Нацыянальным музеі гісторыі і культуры пад 500-ыя ўгодкі атрымання местам над Свіслаччу Магдэбургскага права адкрылася выстава “Мінск, горад вольны”. Гучалі прамовы афіцыйных і неафіцыйных выступанцаў, было ўсё іншае, што належыць быць на такіх імпрэзах. Хачу ж сказаць пра вольны горад, няхай сабе і ўяўны, або, па цяперашняй модзе, віртуальны. На выставе пра гэты ідэал нагадала мне сустрэча з вольнымі людзьмі — руплівцамі нашага нацыянальна-духоўнага самапачуцця, грамадскае мужнасці й мастацкага хараства. І скажу вам — ніштавата награмадзілася гэтага люду вольнага, вабнага на невялічкай пляцовачцы, у дадатак густа “абсаджанай” студэнцкай, вучнёўскай моладдзю. Мы з прыяцелем мусілі падацца трошкі вышэй, па лесвіцы, каб зверху лепей бачыць. Было на кім засяродзіць узрушлівае вока ды перакінуцца ўзаемна зычлівым усмехам, згадаўшы ў думках мілага Купалу: “Мы людзі свабодныя, вольныя птахі...”. Мне не часта шчасціць наязджаць у сталіцу нашу, яшчэ радзей — спазнаваць цяпло ад поціскаў братніх далоняў так вось шчодра, адразу — у адным часе і месцы. Не пералічваю, але прашэптваю ўсхвалявана імёны знаныя, сустрэтыя мной на выставе ў “горадзе вольным”. Прашу спадара рэдактара не пашкадаваць газетнай плошчы дзеля тых самых вольных людзей, якія прыйшлі і былі акрасай на выставе: Радзім Гарэцкі, Ніл Гілевіч, Уладзімір Стальмашонак, Мікола Купава, Арсень Ліс, Ганна Сурмач, Яўген Лецка, Віталь Скалабан, Ганна Запартыка, Ірына Багдановіч, Алесь Анціпенка...**

**Паглядаў я на знаёмыя й незнаёмыя твары, аднолькава ўзбуджаныя, нібы азораныя супольным перажываннем, і думаў пра трывучасць высокую тае самае “плошчы свабоды”, якую “мінчане баранілі на працягу некалькіх стагоддзяў” (з выставачнага буклета І. Зварыкі, Г. Чыстага, А. Цітова). Добра сказана, але чаму мінчане, чаму не менчукі, мянчане, калі адэкватна й пашаноўна ставіцца да сваіх продкаў-абаронцаў? Ды і горад жа наш стольны 500 гадоў таму прымаў статус вольнага ў іншым, не ў цяперашнім назове. Нашчадкі, мяркую, яшчэ вернуць свой страчаны вобраз у першаснай саманазве. Як тое і прадказвае сябра мой экспромтам-вершасказам, агучаным, між намі, на прыступках музейных:**

**Толькі *Менск* будзе горадам вольным,**

**А героем — застанецца *Мінск*...**

**Увогуле і выстава ў музеі, і тыднем раней распачатае ў Скарынаўскім цэнтры асэнсаванне “майдэборскіх” угодкаў міжволі схіляюць да рэфлексій над нашай плошчаю Свабоды-Незалежнасці — месца не толькі параднага маршыравання й мітынгавання, але, як вучыць суровая пані Гісторыя, і ахвярнае абароны. Прынамсі, і гэты праніклівы сігнал з сівой даўніны я адчуў як надзённы і востры.**

**Застаецца падзякваць Захару Шыбеку. Яго бенефіс на пасадзе дырэктара Нацыянальнага музея гісторыі і культуры адбыўся, можа, й не на “біс”, але — уражальна.**

**А. КАЎКА**

## *Археаграфіі — быць!*

**Міжнародная навуковая канферэнцыя “Праблемы беларускай археаграфіі”, прымеркаваная да 175-годдзя выхаду ў свет “Беларускага архіва старажытных грамат”, прайшла днямі ў Мінску. Яна была арганізавана Дзяржаўным камітэтам па архівах і справаводстве Рэспублікі Беларусь, Беларускім навукова-даследчым інстытутам дакументазнаўства і архіўнай справы і гістарычным факультэтам Белдзяржуніверсітэта. У рабоце канферэнцыі прынялі ўдзел прадстаўнікі архіўных, музейных, бібліятэчных, акадэмічных устаноў і ВНУ, навуковых і грамадскіх арганізацый Беларусі, Польшчы, Расіі і Украіны.**

**На пленарным пасяджэнні заслуханы і абмеркаваны 6 дакладаў, прысвечаных розным аспектам гісторыі, тэорыі і методыкі беларускай археаграфіі. Большасць выступленняў мелі не толькі навуковае, а і прыкладное значэнне. У ходзе іх унесены канкрэтныя прапановы і рэкамендацыі па дапаўненні і ўдасканаленні распрацаванага БелНДІ дакументазнаўства і архіўнай справы сумесна з навуковымі і архіўнымі ўстановамі рэспублікі праекта Нацыянальнай праграмы публікацыі гістарычных крыніц. Было таксама прызнана вельмі неабходным аднавіць у Беларусі дзейнасць існаваўшай у 20-я гады Археаграфічнай камісіі пры Акадэміі навук.**

**Міхаіл ШУМЕЙКА,**
**вядучы навуковы супрацоўнік БелНДІ дакументазнаўства і архіўнай справы**

СПАДЧЫНА

# Знак еднасці

СЛАВУТЫ КРЫЖ Еўфрасінні Полацкай быў зроблены Лазарам Богшам у 1161 годзе. У геральдычнай навуцы такую форму шасціканцовага крыжа называюць **патрыяршым** ці **падвоеным крыжом**, пад якім разумеюць два грэчаскія крыжы, спалучаныя разам.

У гэты ж час на каралеўскіх пячатках і манетах пры каралі Венгрыі Бэле III (1173—1193 гг.) з'яўляецца, так званы **вугорскі крыж**, або патрыяршы крыж, або падвоены грэчаскі крыж, з верхняй папярэчынай, карацейшай за ніжнюю. Усе наступнікі караля Бэлы III чаканяць манеты з такім крыжом. Такая форма крыжа стала гербавай фігурай Венгрыі. Рэч у тым, што візантыйскі імператар Мануіл у 1163 г. заручыў сваю дачку з венгерскім прынцам Бэлам. Бэла прыехаў у Канстанцінопаль, хрысціўся, атрымаў імя Аляксея. Мануіл надаў яму тытул дэспата і абвясціў, што Бэла будзе ягоным спадкаемцам.

Аднак, неспадзявана для Мануіла, ягоная жонка нарадзіла яму сына ў 1169 г. Мануіл змяніў сваю пастанову і адмяніў заручыны сваёй дачкі з Бэлам і ажаніў яго з прынцэсай Ганнай. Пры гэтым дазволіў яму ўжыванне **імператарскага падвоенага крыжа**, які Бэлам III і яго наступнікамі дынастыі Арпадаў стаў ужывацца як герб Венгрыі. З цягам часу гэты герб замацаваўся ў залежнай ад Венгрыі Славакіі. І цяпер ён, дарэчы, з'яўляецца гербам незалежнай Славацкай дзяржавы.

Адсюль узнікае заканамернае пытанне, а ці не з'яўляецца знакаміты Крыж Еўфрасінні Полацкай правам на апякунства Полацкага княства з боку імператараў Візантыі і менавіта таго ж самага Мануіла? У жыцціі Еўфрасінні Полацкай чытаем: “І посла слугу своего Міхаіла ў Царьград, ко царю, нарицаемому Мануілу, и к патриарху Луце с дары многоценными, просящи от него святой Богородицы, еже бе евангелист Лука написал 3 иконы еще при жывоте светой Богородицы, постави едину во Ерусалиме, другую во Цариграде, и третюю во Ефесе”. Імператар Мануіл і патрыярх Лука Хрысаверх падманулі Еўфрасінню і перадалі не арыгінал іконы Багамацеры Эфескай, а копію з яе. Але згодна з хрысціянскімі канонамі копія з цудатворнай іконы не розніцца ад арыгінала, “новая аки старая” і мае тую ж цудатворную сілу. Еўфрасіння ўпрыгожыла ікону золатам і каштоўнымі каменнямі, паставіла яе ў Спасаўскай царкве. У 1239 г., калі ноўгарадскі князь Аляксандр Неўскі ажаніўся на дачцэ полацкага князя Брачыслава, яна ўзяла з сабою Эфескую ікону і паставіла яе ў Багародзіцкім саборы Тарапца, дзе яна вядомая пад імем Карсунскай і лічыцца цудатворнаю.

Мы ведаем, што імператар і патрыярх па просьбе Еўфрасінні, акрамя іконы, далі ўсё святое хрысціянскае начынне для крыжа, кроплю крыві Ісуса Хрыста, частку крыжа Гасподня, каменьчык ад труны Багародзіцы, частку мошчаў святых Панцеляймона і Стэфана і г.д. Але крыж у комплексе абазначаў нешта большае, чым хрысціянскія святыні, закладзеныя ў ім. Ён сімвалізаваў поўнае апякунства Полацкаму княству з боку імператара, а таксама апякунства і поўную юрысдыкцыю Спаса-Еўфрасіннеўскага манастыра з боку Візантыйскага патрыярха. Гэта значыць, што манастыр падпарадкоўваўся непасрэдна патрыярху Візантыйскаму.

Як жа трапіў Крыж св. Еўфрасінні Полацкай на дзяржаўны герб “Пагоня”? Пасля прымірэння стрыечных братоў Вітаўта і Ягайлы ў 1392 годзе Вітаўт атрымлівае паўнамоцтвы вялікага князя і робіць сваю пячатку, на якой — рыцар-князь на кані з узнятым мячом у правай руцэ, у левай трымае шчыт, на якім не крыж, а геральдычная фігура “Калюмны”.

Ягайла пасля каранацыі ў Кракаве зрабіў сваю пячатку, на якой вакол яго фігуры змешчана 7 шчытоў з гербамі, якія сімвалізавалі тыя землі, што знаходзіліся пад юрысдыкцыяй караля. Уверсе з левага боку ад сябе ён змяшчае герб “Пагоня”, на шчыце якога — Еўфрасіннеўскі крыж. Тое самае — на склепе Ягайлы на Вавелі ў Кракаве. На ёй з двух бакоў змешчаны герб “Пагоня”. На шчыце, які трымае рыцар — крыж той жа формы, што і Еўфрасіннеўскі.

Падвоены крыж быў гербам даўно вымершай полацкай дынастыі. Гэты крыж быў сакральнай рэліквіяй для Полацка, для Полацкага княства, і Ягайла паклаў яго на шчыт герба “Пагоня”. Гэтым актам Ягайла як бы падкрэсліваў свае права спадкаемцы Полацкай зямлі і яе дынастычнай мінуўшчыны, звязанай з Візантыяй.

Крыжы такой формы сустракаліся і на ўсходзе ад Беларусі. І нямала. Зроблены некалькі выдатных даследаванняў аб гэтай цікавай з'яве. Даследчыкі сведчаць, што форма шасціканцовага крыжа была вельмі пашыраная на ўсіх землях не толькі Полацкай дзяржавы, але і Маскоўскага княства. Форма шасціканцовага крыжа (праўда, з другой, касой папярэчкай) захоўваецца да нашых дзён як у царкоўным, так і ў паўсядзённым народным і абрадавым кульце пахавання памерлых і на Украіне.

Можна зрабіць вывад, што ў сярэднявечны экспансія падвоенага крыжа з Полацка на ўсходнеславянскія землі была вельмі моцнай. Можа, таму на Стоглавым саборы (1551 г.) маскоўскі цар Іван Жахлівы прымае рашэнне аб уніфікацыі крыжоў на купалах цэркваў, каб адмежаваць Маскоўскую дзяржаву ад “літоўскага” (полацкага) крыжа. У Стоглаве (глава 41, пытанне 8) запісана: “водружен бысть и поставлен святый крест благочестивым царем Иваном на соборной церкви пречистыя Богородицы... и таковые святые кресты на церквях и впредь да поставляются же”. Такім чынам, трэцяя дыяганальная папярэчына была зроблена па “благословению” Ивана Жахлівага.

Да нядаўняга часу ў Беларусі, на радзіме Крыжа святой Еўфрасінні Полацкай, ён нацыянальнай святыняй не лічыўся. Бо камунізм і хрысціянства — рэчы несумяшчальныя. Але крыж захавала беларуская дыяспара на Захадзе. Калі ў канцы 50-х гадоў у Кліўлендзе беларусы Амерыкі заклалі царкву Жыровіцкай Божай Маці, узнікла пытанне аб крыжы. Нават правялі навуковую дыскусію, у выніку якой тагачасны архіепіскап Беларускай аўтакефальнай царквы, што ў Паўночнай Амерыцы, даў сваё благаславенне на ўстаноўку Еўфрасіннеўскага крыжа на купал царквы. Гэты акт стаў прыкладам і для пазнейшых царкоўных пабудоваў.

5 верасня 1988 г. у Канадзе ў г. Мідлянт быў узведзены і пасвячоны Памятны крыж у гонар тысячагоддзя хрысціянства на Беларусі. Ён быў названы “Беларускім памятным крыжом”. Форма і прапорцыі яго цалкам паўтараюць Крыж Еўфрасінні Полацкай. Гэты знак стаў святым месцам для ўсіх беларусаў Паўночнай Амерыкі. Ва ўсе нацыянальныя ўрачыстасці і парафіяльня святы тут адбываюцца набажэнствы, паломніцтвы, праводзяцца штогадовыя пілігрымкі з усіх куткоў Амерыкі і нават з Бацькаўшчыны. У той час, калі беларусы адзначалі 1000-годдзе хрышчэння на Беларусі, у Беласточчыне Беларуская асацыяцыя студэнтаў (БАС) на знакамітай гары Грабарка, на якой стаіць царква Праабражэння Гасподня, паставілі сяміметровы крыж, які па форме адпавядае Крыжу Еўфрасінні Полацкай. Трэба адзначыць і тое, што на Беласточчыне на многіх праваслаўных цэрквах стаяць шасціканцовыя крыжы.

Сёння Крыж святой Еўфрасінні — гэта адзін з сімвалаў незалежнай Беларусі, сімвал Адраджэння. 26 красавіка 1991 г. у 6-ыя ўгодкі чарнобыльскай трагедыі беларускі народ ішоў па вуліцах Мінска пад сваім нацыянальным Еўфрасіннеўскім крыжам.

Выява гэтага крыжа актыўна скарыстоўваецца на Дзяды ды іншыя нацыянальныя святы. Шасціканцовыя крыжы былі ўстаноўлены на месцах змагання Слуцкіх паўстанцаў 1920 года.

На навуковай нарадзе ў Віцебску і Полацку, якую ладзілі многія грамадскія таварыствы Віцебска, у тым ліку і Полацка-Віцебская праваслаўная епархія, 16—17 лістапада 1991г. “Да 830-годдзя стварэння Лазарам Богшам крыжа для пр. Еўфрасінні Полацкае”, я прапанаваў Беларускаму экзархату рускай праваслаўнай царквы на ўсіх аднаўленых і нанава адбудаваных цэрквах узводзіць крыж па форме Еўфрасіннеўскага. На ўрачыстыя дні святкавання 1000-годдзя Хрысціянства ў Беларусі ў Віцебску на Успенскай гары намаганнямі Віцебскай епархіі быў пастаўлены жалезны шасціканцовы крыж. Самі ўрачыстасці ў Беларусі прайшлі пад эмблемай і знакам Крыжа Еўфрасінні Полацкай. Была выпушчана марка з выявай гэтага крыжа, паштоўкі, канверты, а таксама значкі.

У чэрвені 1993 г. у Мінску праходзіў З'езд беларусаў свету — таксама пад знакам Крыжа Еўфрасінні Полацкай. Эмблема гэтага з'езда — патронка Беларусі Еўфрасіння Полацкая з крыжом у руках. У 1997 г., дзякуючы мастаку Эдуарду Агуновічу, Крыж Еўфрасінні Полацкай зноў вярнуўся ў культавыя збудаванні. У Рэчыцы на беразе Дняпра па ягоным праекце была пастаўлена капліца-помнік. У цэнтры капліцы — Крыж з моранага дубу, які па форме адпавядае Крыжу Еўфрасінні Полацкай.

Нядаўна створаны грамадскі камітэт па ўзвядзенні помніка “Пакутнікам Беларусі” ў Курапатах у форме Крыжа Еўфрасінні Полацкай. У камітэт увайшлі “Мартыралог Беларусі”, Хрысціянская злучнасць “Курапаты”, Міжнародны дабрачынны фонд Крыжа Еўфрасінні Полацкай, клуб “Спадчына”, вядомыя гісторыкі, літаратары, грамадскія дзеячы, святары розных хрысціянскіх канфесій. Крыж Еўфрасінні Полацкай з выявамі святых — гэта, мабыць, найлепшы сэнсавы знак, які не толькі ўвасабляе курапацкую трагедыю, але адлюстроўвае пакутніцкі лёс мільёнаў беларусаў, што загінулі ад рэпрэсій.

Крыж Еўфрасінні Полацкай уяўляе сабой агульнанацыянальную Беларускую святыню, ён з'яўляецца сакраментальным сімвалам усіх беларусаў як на Бацькаўшчыне, так і ў замежжы. Сама Еўфрасіння Полацкая з'яўляецца патронкай і заступніцай усёй зямлі Беларускай, яе святасць прызнаюць усе канфесіі Беларусі.

Вось чаму помнік у выглядзе Крыжа Еўфрасінні Полацкай будзе аб'ядноўваць людзей, спрыяць вяртанню народу яго гістарычнай памяці.

**Анатоль БЕЛЫ**

## ГАЛОЎНАМУ РЭДАКТАРУ “ЛіМа”

Дазвольце праз Вашу газету выказаць сардэчную ўдзячнасць старшыні Жлобінскага гарвыканкама У. Ерафееву, старшыні гарсавета В. Байкачову, намесніку старшыні гарвыканкама В. Касейкаву, прадстаўнікам грамадскасці горада за падрыхтоўку і правядзенне мерапрыемстваў, звязаных з 75-годдзем з дня нараджэння незабыўнага Аляксандра Пятровіча Капусціна; старшыні СБП У. Някляеву, пісьменнікам, якія прынялі ўдзел ва ўрачыстасцях, а таксама галоўнаму рэдактару жлобінскай газеты “Новы дзень” П. Шутаву, работнікам выдавецка-паліграфічнага прадпрыемства “Тэхнічная кніга”, дырэктару Жлобінскага гісторыка-краязнаўчага музея Я. Карцаву і яго супрацоўнікам, Надзвычайнаму і Паўнамоцнаму паслу РБ у Румыніі А. Бутэвічу, усім, хто напісаў успаміны для кнігі “Аляксандр Капусцін. Старонкі памяці”.

**Эмілія КАПУСЦІНА**

ВАРУНКІ

***Ёсць дзве галіны чалавечай дзейнасці, у якіх усе лічаць сябе знаўцамі: літаратура і медыцына. Ці, можа, правільней будзе сказаць наадварот: медыцына і літаратура. Зрэшты, не медыцына, як галіна навукі, а ўсяго толькі — здароўе. Акурат яно — улюбёная тэма каляпад'ездных, вагонных, канторскіх (па-цяперашняму — офісных) і ўсялякіх іншых гаворак. Гэта і натуральна. Кожны чалавек хоча быць здаровым, хоча прадоўжыць маладосць і актыўнае даўгалецце, каб мець магчымасць атрымліваць асалоду ад жыцця без хвароб і пакут. Вядома, тут шмат чаго залежыць і ад самога чалавека. Скажам, калі ён будзе жыць у добрай згодзе і гармоніі з прыродай і сваёй чалавечай існасцю, дык зможа падняць імунітэт свайго арганізма і аберагчы сябе ад тых ці іншых непрыемнасцей, звязаных з хваробамі і заўчасным старэннем. Аднак як многае залежыць і ад дзяржавы, ад таго, спрыяльныя ці неспрыяльныя ўмовы стварае яна для здароўя сваіх грамадзян, як ахоўвае іх ад хвароб і наколькі паспяхова лечыць, калі хваробы ўсё ж апаноўваюць чалавека.***

***Жаданне хоць збольшага высветліць сітуацыю вакол гэтай апошняй акалічнасці ў нашай дзяржаве і падштурхнула мяне папрасіцца на аўдыенцыю да міністра аховы здароўя Рэспублікі Беларусь Ігара Зелянкевіча — хацелася пачуць думкі, меркаванні і ацэнкі спецыяліста, сапраўды дасведчанай асобы, а не дылетанцкія эмацыйныя разважанні на побытавым узроўні.***

# Жыў беларус і будзе жыць!



## З МІНІСТРАМ АХОВЫ ЗДАРОЎЯ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ Ігарам ЗЕЛЯНКЕВІЧАМ ГУТАРЫЦЬ НАШ КАРЭСПАНДЭНТ

**— Ігар Барысавіч, напачатку хочацца спытаць вас вось пра што: як вы ўвогуле ацэньваеце сённяшні стан нашага грамадства з медыцынскага пункту гледжання? Як выглядае наша агульная, скажам так, медыцынская картка?**

— Стан здароўя нашых людзей, вядома ж, трывожыць нас. Аднак жа зазначу, што сістэма аховы здароўя, хоць і працуе сёння ў складаных эканамічных умовах, усё ж не дапусціла пагаршэння асноўных паказчыкаў здароўя насельніцтва. Гэта галоўная выснова, якую я магу зрабіць паводле вынікаў мінулага года. Больш за тое, у нейкіх пэўных напрамках стан здароўя нашых людзей нават палепшыўся. Цяжка сказаць, паспрыяла гэтаму агульная сітуацыя ці старанная праца медыкаў. Мабыць, адно і другое разам.

**— Тым не менш, Ігар Барысавіч, лічбы статыстыкі сведчаць, што працаздольнасць жыцця нашых людзей — скарачаецца, смяротнасць перавышае нараджальнасць, змяншаецца агульная колькасць насельніцтва. Што гэта азначае? Няўжо й сапраўды беларусы вымiраюць? Ужо нават прагнозы складаюцца: калі гэтак будзе працягвацца, дык мы знікнем як народ недзе праз сто гадоў... Хаця нібыта апошнім часам сітуацыя, кажуць, трошкі паляпшаецца?**

— Адмоўная дынаміка пачалася недзе ў пачатку дзевяностых гадоў. Адразу пералемаць яе немагчыма. За працягласць жыцця, смяротнасць, нараджальнасць ахова здароўя нясе адказнасць на 18-20 працэнтаў. Усё астатняе залежыць ад таго, у якім асяроддзі чалавек жыве, як ён харчуецца, які яго маральны стан. Скажам, ці турбуецца ён, што заўтра яго могуць прагнаць з працы, ці не страціў ён веры ў будучыню — сваю і сваіх дзяцей... Наша галіна знаходзіцца не на бязлюдным востраве, мы — частка эканомікі нашай дзяржавы. Тым не менш, летась, напрыклад, у нас нарадзілася на 30 дзетак больш. Мізэр, вядома, але ўсё ж не мінус, і гэта ўжо нармальна. У нас няма смяротнасці немаўлят, зніжаецца мацярынская смяротнасць, а, значыць, павялічваецца і мяркуемая працягласць жыцця. Яшчэ адно. У нас упершыню адбылося зніжэнне колькасці сацыяльна-небяспечных венерычных захворванняў. Але, на жаль, расце колькасць сардэчна-сасудзістых захворванняў, а таксама анкалагічных, як, дарэчы, ва ўсім свеце. Рост гэты складае 3-5 працэнтаў за год. Такім чынам мы расплачваемся за даброты цывілізацыі. У нас вялікая колькасць чалавечых страт, звязаных з траўмамі, — найперш гэта вынік растучага алкагалізму.

Я не хачу пра ўсё гэта гаварыць ні ў ружовых, ні ў чорных танах. Хачу аб'ектыўна ацаніць сітуацыю, пакласці на шалі вагаў тое, што мы можам зрабіць, што мы маглі б зрабіць ды не зрабілі, і тое, што часам ад нас і не залежыць. Я па натуры аптыміст. Дык вось, ёсць рэчы, якімі можна кіраваць. Возьмем хоць бы гіпертанічную хваробу і яе лячэнне. Хвароба гэтая, як вядома, самым прамым чынам уплывае на інфаркт міякарда, на парушэнні мазгавога кровазвароту. Дык вось, калі мы наладзім дакладную сістэму выяўлення ранняй стадыі гіпертанічнай хваробы, прызначым своечасовае лячэнне, дадзім людзям незапозненыя рэкамендацыі, дык тым самым зможам папярэдзіць узнікненне больш цяжкіх захворванняў, дамагчыся зніжэння інваліднасці насельніцтва. Інакш кажучы, ёсць рэчы, на якія мы, медыкі, можам уплываць. І калі мы гэтага не робім, дык нам трэба займацца іншай справай, а сваё месца саступаць людзям, якія будуць гэта рабіць.

**— А цяпер, Ігар Барысавіч, пра некаторыя канкрэтныя праблемы. Пачну, не здзіўляйцеся, з вады, хоць, можа, гэта і не зусім па адрасе. Вы ж, канечне, ведаеце прымаўку аб тым, што без вады — і ні туды, і ні сюды. А ўсё ж — наколькі наша здароўе залежыць ад вады? Якую мы п'ём ваду? Кажуць, што пітная вада ў Беларусі вельмі слаба насычана фторам і ёдам, а гэта прыводзіць да захворвання зубоў і шчытавідкі. Ці сапраўды гэта так? І калі ў нашай вадзе не хапае ёду і фтору, дык чаго ў ёй занадта шмат, што атручвае людскія арганізмы? Урэшце, дзе вада лепшая, чысцейшая — у горадзе ці ў вёсцы? Цывілізаваны свет п'е ваду з бутэлек, а мы — з крана і калодзежаў, як і бацькі, дзяды нашы...**

— Пачну з канца. Наўрад ці заўтра ўсе мы пачнём піць ваду з бутэлек, як цывілізаваны свет, — на гэта трэба грошы, і немалыя. А ўвогуле ўрад, кіраўніцтва краіны праблемам вады надае шмат увагі і прымае канкрэтныя меры. Летась была прынята спецыяльная ўрадавая пастанова, накіраваная на паляпшэнне якасці вады, на ахову яе запасаў. Без вады сапраўды ні туды, ні сюды. Ад вады вельмі шмат залежыць. Жыццё на зямлі выйшла з вады, мы — дзеці вады, наш арганізм на 80 працэнтаў складаецца з вады. Ад таго, якую ваду спажывае чалавек, залежыць якасць яго і якасць жыцця. Такі сёння ёсць новы модны тэрмін — якасць жыцця. На вялікі жаль, якасць вады ў нас — не з лепшых. Асабліва на вёсцы, дзе прыкладна ў 60 выпадках са 100 якасць вады не адпавядае нормам, мякка кажучы. Нашы людзі, да ўсяго, часам вельмі безадказныя. Ёсць меры, якія не вымагаюць вялікіх затрат, але тым не менш могуць паспрыяць выпраўленню становішча. Узяць хоць бы тую ж накрыўку на калодзеж. Зрабіць яе пад сілу кожнаму, а ці ўсюды яны ёсць? А між тым пыл і іншы бруд у ваду не траплялі б. За водазабеспячэнне на вёсцы адказвае жыллёва-камунальная служба. А кантроль за якасцю вады вядзём, канечне ж, мы. У 1997 годзе мы, напрыклад, ліквідавалі ўспышку менінгіту ў Гомелі, якая была звязана акурат з дрэннай якасцю вады. Але кантроль — гэта не само водазабеспячэнне. А каб кардынальна палепшыць тут справы, патрэбны вельмі вялікія выдаткі, наскокам і адразу сітуацыю тут не выправіш. Патрэбна карпатлівая, сістэматычная, мэтанакіраваная праца.

**— Не так даўно па расійскім тэлебачанні я чула інтэрв'ю чыноўніка ад медыцыны. Была там прыведзена жахлівая лічба: кожны другі расійскі хлопчык ніколі не стане бацькам. Прычыны называліся розныя — курэнне, алкаголь, наркотыкі, якія разбураюць кволы дзіцячы арганізм. Але галоўнай прычынай называлася тое, што сённяшнія хлопчыкі, як, дарэчы, і дзяўчаткі, занадта рана пачынаюць палавое жыццё. У нас сітуацыя — падобная? Дарэчы, недзе чытала, здаецца, у "Звяздзе", што ў Віцебску больш чым 20 працэнтаў мужчын — бясплодныя. Што вы пра ўсё гэта думаеце?**

— Я не думаю, што ў нас 50 працэнтаў мужчын хварэюць на бясплоддзе. Тым не менш, праблема гэтая існуе і ў нас, як і ва ўсім свеце. Палавое выхаванне дзяцей і падлеткаў мы пусцілі на самацёк. Вось і маем тое, што маем. Зараз мы разам з Міністэрствам адукацыі распрацавалі, я б сказаў, нармальную праграму палавога выхавання школьнікаў. Тут мы не павінны карыстацца крытэрыямі 30-гадовай даўнасці. Мы жывём ужо ў іншым свеце, паток інфармацыі аграмадны, і не заўсёды яна носіць пазітыўны характар — часцей, наадварот, негатыўны, разбуральны. Усяму гэтаму мы павінны супрацьпаставіць сістэму разумнага, здаровага, пазбаўленага фальшу і ханжаства палавога выхавання падрастаючага пакалення. А што да алкагалізму, наркаманіі, іншых шкодных звычак, дык, на жаль, усе гэтыя з'явы вельмі маладзеюць. І зноў жа, самае эфектыўнае змаганне з гэтым — прапаганда, выхаванне здаровага ладу жыцця. Калі мы з самага малку не будзем дзецям даводзіць, што наркотыкі, алкаголь і курэнне разбураюць чалавечую асобу, што гэта вельмі дрэнныя звычкі, нічога добрага не будзе. У гэтым напрамку павінна весціся шырокая наступальная прапаганда, бязлітасная барацьба з гэтымі з'явамі з абавязковым удзелам маладзёжных арганізацый. Вынікам усяго гэтага будзе сапраўды працяг роду. Забыў згадаць фізкультуру і спорт. Паглядзіце, на якім нізкім узроўні праводзяцца сёння ўрокі фізкультуры ў школах, тэхнікумах, ПТВ. Гэтую праблему таксама трэба вырашаць. Пасля ўрокаў дзеці не павінны ісці ў падваротні ці на вуліцы, а ў спартыўныя залы, на заняткі ў самыя розныя секцыі, як хадзілі мы з вамі.

**— І яшчэ раз пра хлопчыкаў, Ігар Барысавіч. Паведамляецца, што за апошнія тры гады колькасць хлопчыкаў-дапрызыўнікоў, якія па стане здароўя не могуць служыць у арміі, вырасла на 20 працэнтаў. Што за гэтай лічбай? Чаму — не могуць? Вінаваты агульны фізічны стан ці нейкія канкрэтныя захворванні?**

— Стан здароўя нашых дзяцей — ад першакласніка да выпускніка школы — кепскі: канстатуецца парушэнне паставы, кепскі зрок, нервова-псіхічныя расстройствы. Гэта вынік чаго? Неадэкватнай, на маю думку, праграмы навучання фізічным магчымасцям дзяцей. Нашы дзеці павінны быць здаровымі і разумнымі.

**— У згаданым мною інтэрв'ю па расійскім тэлебачанні гаварылася пра імклівае распаўсюджанне СНІДу. Ужо ў самыя бліжэйшыя гады ў Расіі можа быць да мільёна ВІЧ-інфіцыраваных. У Беларусі лічбы таксама ўражваюць. Доўгі час усплёск захворванняў звязвалі з Гомельшчынай, найперш са Светлагорскам, цяпер жа загаварылі ўжо і пра Брэстчыну. Як вы пракаментуеце сітуацыю? Што робіцца ў нас для спынення распаўсюджвання чумы XX стагоддзя?**

— Летась у нас выяўлена 565 новых выпадкаў ВІЧ-інфіцыраваных. 80 працэнтаў з іх — шпрыцавыя наркаманы, але апошнім часам з'яўляецца і нямала выпадкаў перадачы інфекцыі палавым чынам. У 73 раёнах рэспублікі выяўлены выпадкі ВІЧ-інфіцыраваных, у Мінску — таксама. Знаходзім ВІЧ-інфіцыраваных нават сярод донараў. Такая кроў, вядома, лакалізуецца і не прымяняецца.

Праблема гэтая вельмі складаная. Мы не можам жыць ізалявана ад іншых сфер жыцця. Калі расце наркаманія, дык будзе расці і ВІЧ-інфекцыя. Тым не менш, дзеля вырашэння яе робіцца нямала: працуе Дзяржаўная камісія, працуюць не толькі наша міністэрства, але і іншыя міністэрствы і ведамствы — культуры, адукацыі, спорту, чыгуначнага транспарту... Трэба рабіць, вядома, яшчэ больш, актывізоўвацца на барацьбу з гэтым злом усяму грамадству, выхоўваць культуру паводзін людзей.

**— У друку паведамлялася, што вы падрыхтавалі для Прэзідэнта спецыяльны даклад, прысвечаны распрацоўцы нацыянальнай праграмы "Здароўе". У чым яе сутнасць, якія яе галоўныя параметры і накірункі? У якім стане яна сёння, ці працуе на здароўе нацыі, ці яшчэ чакае свайго часу?**

— Мы падрыхтавалі праект праграмы, якая будзе называцца "Здароўе народа". Гэта комплексная праграма. Скажам, ёсць рэчы, на якія сістэма аховы здароўя не ўплывае. Гэта стан атмасферы, вады, іншых параметраў навакольнага асяроддзя. Кожнае міністэрства і ведамства па пэўных праблемах робіць сваю справу, праводзіць мерапрыемствы, якія ў канчатковым выніку ўздзейнічаюць на стан здароўя народа, бо гэта — наш агульны клопат, наша агульная турбота. Усім нам не трэба забываць, што чалавек — асноўная, галоўная прадукцыйная сіла грамадства, і страты ў здароўі — гэта і страты эканамічныя. Таму кожная галіна гаспадаркі адказвае за стан здароўя людзей. Мінсельгасхарч — гэта чыстыя прадукты, у тым ліку прадукты дзіцячага харчавання, Міністэрства аховы прыроды — гэта чыстая вада і атмасфера і г.д. Усе агульныя мерапрыемствы і стануць складнікамі праграмы "Здароўе народа".

**— За апошнія гады, Ігар Барысавіч, у выніку цяжкай эканамічнай сітуацыі многія галіны сацыяльнай сферы панеслі немалыя страты. Скажам, зачыніліся нямала бібліятэк, клубаў, асабліва ў сельскай мясцовасці. А ў галіне аховы здароўя? Ці ўсё ўдалося зберагчы?**

— Нам удалося захаваць сістэму аховы здароўя насельніцтва. Мы практычна нічога не разбурылі, не зачынілі. А калі зачынялі, дык свядома. Сродкі найперш накіроўвалі на лячэнне хворых. Таму калі мы зачынялі, да прыкладу, вясковую бальніцу, дык пакідалі там урачэбную амбулаторыю. Інакш кажучы, людзі без медыцынскай дапамогі не заставаліся. Усё прыведзена ў дакладную сістэму. Мы ведаем, дзе трэба, скажам, ФАП размясціць, дзе — участковую бальніцу, а дзе — урачэбную амбулаторыю. Так, у шэрагу выпадкаў мы скарачалі бальнічныя ложкі, там-сям іх варта было б скараціць яшчэ больш, каб бальніца не была месцам для ляжання хворага, а каб ён тут мог падлячыцца, а затым праходзіць курс амбулаторнага лячэння, што найперш выгадней і зручней самому хвораму. Калі гаварыць коратка, даступнасць лячэння захавана для кожнага.

**— Мы выхаваны на прынцыпах, што медыцына павінна быць бясплатнай. І нас не цікавіла, адкуль браліся на гэта сродкі. У сувязі з гэтым хачу папытаць пра Закон аб абавязковым медыцынскім страхаванні, калі ён будзе прыняты і ўведзены ў дзеянне? Цывілізаваны свет жыве нібыта па такіх законах, але ж там жыццё, заробкі ў людзей — зусім іншыя. Дараслі мы да такога закона, правільней — да такой медыцыны? Як, у такім разе, будзе ажыццяўляцца прынцып: той, хто хоча і можа плаціць, хай плаціць?**

— У многіх цывілізаваных краінах, такіх, як Данія, Англія, Іспанія, Італія, ахова здароўя фінансуецца з бюджэту. І не трэба думаць, што бюджэтнае фінансаванне — гэта самае горшае. Урад Беларусі прыняў Канцэпцыю развіцця аховы здароўя ў краіне да 2005 года. Узнікла патрэба паэтапнага рэфармавання нашай галіны. Чалавек і грамадства на парозе 21-га стагоддзя ці ІІІ тысячагоддзя. Новае жыццё, новыя эканамічныя стасункі дыктуюць свае ўмовы. Пераўтварэнні ў сістэме аховы здароўя наспелі даўно, існуючая сістэма, якая функцыянуе па стратным прынцыпе, ужо не гатова ў поўнай меры стрымліваць усё тое негатыўнае, што цягне за сабою пагаршэнне асноўных паказчыкаў здароўя нацыі. Састарэла і сама мадэль медыцынскай дапамогі. І ўсё ж да 2005 года ўсё фінансаванне нашай галіны будзе ажыццяўляцца з бюджэту. Пры гэтым не выключаецца роля платных паслуг, добраахвотнага медыцынскага страхавання. Сёння ж пераходзіць на абавязковае медыцынскае страхаванне няма ўмоў. Што гэта такое, абавязковае медыцынскае страхаванне? Гэта дадатковы падатак для ўсіх нас. Хіба мы можам яго вытрымаць? Вядома ж, не. Так, сёння няма дасканалай сістэмы аховы здароўя, а ёсць адэкватная ці неадэкватная эканамічнай сітуацыі. Рэформы ў Расіі і на Украіне пацярпелі фіяска, і нам іхніх памылак паўтараць не трэба. Гэта не мая думка, а выснова Сусветнай арганізацыі аховы здароўя. Таму спяшацца з гэтым не трэба. Рэфармаванне дзеля рэфармавання нікому непатрэбна.

*(Працяг на стар. 12)*





## "Аляксандр Капусцін. Старонкі памяці"

Гэтая кніга пабачыла свет у выдавецка-паліграфічным прадпрыемстве "Тэхнічная кніга", што знаходзіцца ў Жлобіне. Да выхаду яе маюць дачыненне Жлобінскі гарадскі і раённы выканаўчыя камітэты, Саюз беларускіх пісьменнікаў, рэдакцыя жлобінскай аб'яднанай газеты "Новы дзень" і Жлобінскі гісторыка-краязнаўчы музей. А прымеркавана выданне да 75-годдзя з дня нараджэння вядомага пісьменніка, ганаровага грамадзяніна Жлобіна Аляксандра Капусціна (пра ўрачыстасці, што прайшлі ў сувязі з гэтым на Жлобіншчыне, "ЛіМ" ужо расказваў).

Па тэматыцы зборнік (складальнік і рэдактар яго П. Шутаў) у многім блізкі да аналагічных выданняў пра памерлых літаратараў, якія не так даўно больш-менш рэгулярна выходзілі ў выдавецтве "Мастацкая літаратура".

Разам з тым у кнізе ёсць і свая адметнасць. Асноўным матэрыялам папярэднічае невялікі ўступ "Вёрсты жыцця". Да таго ж, пад загалоўкам "Літаратурная спадчына пісьменніка" змешчаны вокладкі ўсіх 29 кніг А. Капусціна, што выйшлі ў арыгінале і ў




перакладзе на рускую, а таксама на татарскую мову, і лаканічныя, літаральна ў некалькі радкоў, найбольш цікавыя вытрымкі з кожнай.

У раздзеле "Самотнее на свеце без сяброў" — успаміны тых, хто добра ведаў Аляксандра Пятровіча. Згадкамі аб сустрэчах з ім дзеляцца старшыня Жлобінскага гарвыканкама У. Ерафееў ("Сяброў не выбіраюць, сябрамі становяцца"), Анатоль Бутэвіч ("Чалавек з пазіцыяй"), Уладзімір Ліпскі ("Колькі недагаворана, недажартавана ў нашай сябрыне"), Алесь Марціновіч ("Той лейтэнант маладзенькі..."), Леанід Леванові ("Усяму беламу свету"), Міхась Даніленка ("Месца ў шарэнзе"), Васіль Ткачоў ("Быць чалавекам"), Анатоль Зэкаў ("На водшыбе залішняй мітусні"), Алесь Карлюкевіч ("Пачуць сімфонію жыцця"), дырэктар Жлобінскага гісторыка-краязнаўчага музея Я. Карцаў ("Яго прыцягальная ўсмешка"). Цікавыя згадкі пляменніцы А. Капусціна З. Бібікавай "Наш любімы дзядзька Саша", з якіх Аляксандр Пятровіч раскрываецца такімі сваімі якасцямі, як душэўнасць, адкрытасць, шчодрасць. Тут жа і нататкі настаўніцы СШ N 10 г. Жлобіна Л. Гурачэўскай "Да роднай зямлі ён навечна прырос".

А раздзелу "Шчаслівыя душы закаханых" папярэднічае такі невялікі ўступ: "Без малога 50 гадоў пражылі разам Аляксандр Пятровіч і Эмілія Іванаўна. Да апошняга дня ён называў яе ласкавымі словамі, клапаціўся пра настрой, здароўе, аберагаў агонь сямейнага кахання. "Шчасце — гэта калі ў чалавека ёсць дом і дома — добрая, разумная, чулая жонка", — пісаў Аляксандр Пятровіч у адным з пісьмаў, арасаваных Эміліі Іванаўне". Асобныя з гэтых лістоў, дасланых А. Капусціным жонцы з рознай нагоды (а ён любіў падарожнічаць, пабываў у многіх кутках колішняга Савецкага Саюза), і прапануюцца ўвазе чытача. Пісьмы — сведчанне таму, наколькі блізкія былі гэтыя людзі, як моцна звязвала іх каханне, душэўная цеплыня. Перад лістамі прапануецца гутарка А. Марціновіча з Эміліяй Іванаўнай "Ведайце, якім ён быў...", у якой удакладняюцца асобныя моманты іх жыцця.

Знайшлося ў кнізе і месца раздзелу "З літаратурнай спадчыны Аляксандра Капусціна", у якім прадстаўлены неапублікаваныя творы пісьменніка. Кніга багата ілюстравана фотаздымкамі з сямейнага архіва Капусціна і А. Галіча.

Лявон ЮРЧЫК

ПАЭЗІЯ

Віктар ШНІП



# "Свой свет стварыць..."

●

*Сто гадоў гарадской адзіноты.*
*А навокал дамы, як балоты,*
*Праз якія іду я да Храма,*
*У якім мая моліцца мама.*
*Я іду — і дарогі не знаю,*
*Я іду — і сябе ўспамінаю.*
*Сябе ўспомніць хачу маладога,*
*Ды ўсё бачу сябе нежывога*
*Без бацькоўскае хаты, без Храма,*
*Да якога ідзеш ты таксама,*
*У якім твая моліцца мама,*
*У якой за дзяцей баліць сэрца...*
*І не можам з табой мы сустрэцца,*
*Бо навокал дамы, як балоты,*
*З павуцінай стагодняй самоты.*
*Ты ідзеш — і дарогі не знаеш,*
*І не знаеш, за што праклінаеш*
*Ты мяне...*
*І ці дойдзем да Храма,*
*У якім наша моліцца мама?*

●

*Мне хтосьці зноў стукае ў дзверы —*
*А гэта ўжо ноч на двары.*
*Счарнелі ў кватэры шпалеры —*
*Гнілыя, як восень, муры.*
*Жыву, не саромлюся мараў*
*І шэрае неба люблю.*
*Збяру пару соцень даляраў*
*І, можа, што-небудзь куплю.*
*А можа, зноў будзе, як сёння, —*
*Гарбата і дым цыгарэт,*
*І яблыкі на падваконні,*
*І кніжкі, і груда касет,*
*І музыкі ціхае гранне,*
*Нібыта анёлаў дыханне,*
*Якія дзесь побач жывуць,*
*Якія мяне берагуць...*
*Ды хтосьці зноў стукае ў дзверы*
*І нельга іх не адчыніць.*
*Стаяць ля дзвярэй піянеры*
*І просяць сабаку купіць.*
*Навошта сабака мне сёння,*
*Я неба люблю за вакном*
*І яблыкі на падваконні,*
*І музыку з белым віном...*

●

*У гэтым свеце мы жывём,*
*Як матылі па-над агнём.*
*І свету іншага — няма.*

*І нашыя малітвы — дым —*
*Плывуць у галасе начным,*
*Дзе, нібы плач, гучыць сурма.*

*І хочаш ты свой свет стварыць,*
*Нібыта сонца запаліць.*
*І тухнуць свечкі ля ікон.*

*І ў холад і святло зімы*
*Вяртаемся, як рэха, мы,*
*Пачуўшы карканне варон.*

●

*Нібыта фінка пад рабро,*
*Нібы паэзія Рэмбо, —*
*Святло маланкі ў цемнаце,*
*Агонь у вечнай пустаце.*
*І ты, зняверány ва ўсім,*
*Будуеш свой Ерусалім.*
*І дзень пусты, нібы сасуд,*
*Што быў напоўнены жыццём,*
*Якое выпіта быццём,*
*Больш не ўратуе ад пакут.*
*І паўстаеш ты, нібы крыж,*
*Над светам, што ляціць, як глыж,*
*Да Бога ў сумнае вакно,*
*З якога раю не відно,*
*Дзе нам ніколі век не быць,*
*Бо свет ляціць, бо свет ляціць,*
*Нібыта фінка пад рабро,*
*Нібы паэзія Рэмбо...*

## Хата

### 1. ПАДМУРАК

*падмурак гэта каменны востраў*
*у зялёным моры травы*
*на якім рана ці позна ўзнікне жыццё*
*падмурак гэта пачатак*
*які нічога не абяцае*
*але сваёй каменнасцю*
*ён здольны настаяць на сваім*
*і даць нам веру*
*што мы тут ёсць невыпадкова*
*бо ў нас ёсць свой падмурак*
*як карэнне радаводнага дрэва*

### 2. СЦЕНЫ

*сцены забіраюць у нас волю*
*але забіраючы волю*
*сцены бароняць нас*
*і даючы нам сілу*
*слухаюць усе нашы таямніцы*
*і мы верым у сцены і сценам*
*і вешаем на сцены абразы і зброю*
*і ставім да сцен сваіх ворагаў*
*і б'ёмся аб сцены*
*і стаім ля сцен*
*як ля саміх сябе*

### 3. ДЗВЕРЫ

*замкнёныя дзверы супакойваюць*
*і самі супакойваюцца*
*яны нам служаць*
*але не прыслужваюцца*
*бо яны ведаюць хто і што*
*за імі*

### 4. ВОКНЫ

*мы падыходзім да вокнаў*
*каб бачыць і быць бачнымі*
*вокны зачыняем аканіцамі*
*нібы хаваемся ў сваё я*
*адчыняем аканіцы*
*нібы адчыняем клетку*
*у якой жыве цяпло*
*і вокны да пары да часу*
*чыстыя і светлыя*
*як думкі дзяцей*
*якія вераць у казкі*

### 5. СТРАХА

*страсе бывае страшна*
*калі ўздымаецца буран*
*але страха нас страхуе*
*хоць і сама безабаронная*
*як наша жыццё пад ёй*

### 6. ГАРЫШЧА

*гарышча гэта гарэм павучыны*
*напоўнены змрокам і пылам*
*і самотны матыль*
*які ад холаду ўцёк на гарышча*
*ляціць да майго ліхтара*
*як да анёла свайго*

### 7. КОМІН

*комін заўсёды на вышыні*
*бо ён комін*
*бо ён дае волю дыму*
*бо ён дыхае небам*
*бо ў ім грэюцца вятры*
*і ён добры*
*хоць нутро ў яго чорнае*

### 8. ПАДЛОГА

*падлога не любіць смецця*
*і яна холадна на ўсё рэагуе*
*і мы дагаджаем ёй*
*і мыем яе і шаруем*
*і сцелем на яе дываны*
*але падлога рыпіць незадаволена*
*бо яна ведае нас*

### 9. СТОЛЬ

*столь гэта наша тутэйшае неба*
*пад якім нам светла і сумна*
*столь гэта наша доля*
*і ў кожнага яна свая*

### 10. ПЕЧ

*печ у цэнтры*
*як сэрцавіна радаводнага дрэва*
*на печы грэецца кот*
*а ў запечку цыркуны*
*і ўсім добра*
*і ў печы трымаецца цяпло*
*як душа ў чалавеку*

### 11. ПАРОГ

*парог пераступаем*
*нібыта баімся што ён укусіць*
*а ён бяскрыўдны*
*хоць часам бывае вельмі высокім*
*і парог раздзяляе свет*
*на наш свет і запарожжа*

### 12. СЕНЦЫ

*у сенцах кашы*
*як гнёзды*
*у сенцах крыху змрочна*
*як восенню*
*сенцы даюць магчымасць падумаць*
*ці ісці ці вярнуцца*

### 13. ГАНАК

*ганак ганарлівы*
*і яго не трэба ганіць*
*бо калісьці на залатым ганку сядзелі*
*цар царэвіч кароль каралевіч*
*і ганак памятае пра гэта*
*і на ганку любяць сядзець дзеці*
*як на краі свету*

З цыкла "Чырвоны ліхтар"

## Балада нясмелага

*У хіповай спадніцы —*
*аж майткі відаць —*
*Па вячэрнім праспекце ты любіш гуляць.*
*І на ножкі твае паглядае шпана,*
*Як стары алкаголік на пляшкі віна.*
*І на твой фанабэрліва кругленькі зад*
*Ён таксама па-воўчы кідаў свой пагляд*
*І хадзіў за табой, як германскі шпіён,*
*І ў кішэні яго быў няшчасны мільён,*
*За які ён хацеў тваю ласку купіць*
*І ўсю ночку цябе звар'яцела любіць.*
*Ды не змог падысці да цябе да такой*
*І ўсю ноч прахадзіў, як твой сон,*
*за табой.*
*А на ранку стамлёны і сумны, як слон,*
*Накупляў ён віна аж на цэлы мільён*
*І напіўся і здох, як сабака стары,*
*І ляжаў цэлы месяц у цёмным двары...*
*Ну а ты ўсё ў спадніцы —*
*аж майткі відаць —*
*Па вячэрнім праспекце ўсё ходзіш гуляць.*

## Балада мулаткі

*Прыляцела з Кубы юная мулатка*
*Да бабулі мінскай роднай і старой.*
*"Не сябруй з хлапцамі, —*
*ёй казала матка. —*
*Насмяюцца толькі хлопцы над табой".*

*Не хадзіць з хлапцамі матцы абяцала*
*Юная мулатка — кава з малаком.*
*Ды яна ў дванаццаць год ужо гуляла*
*У Гаванскім порце з рускім мараком.*

*І ля нас мулатка*
*ў першы ж вечар села*
*Пад кустамі бэзу, што адцвіў даўно.*
*І яе па травах расцяклося цела*
*Водарам нязвыклым, быццам бы віно,*
*Тое, што мы снілі і што ў снах пілося...*

*З'ехала мулатка з нашае сталіцы,*
*Каб сваю Гавану чорную любіць.*
*Мы ж ляжалі месяц у адной бальніцы*
*І клялі мулатку на чым свет стаіць.*



Фота А. Клешчука

ПРОЗА

Аляксандр СТАНЮТА

# АНТЭК МЛОДЫ



АПАВЯДАННЕ

*З цыкла "Трафейнае кіно"*

КАЛІ ПАЧАЛО світаць, ім пашанцавала: вызвалілася адразу пяць ці шэсць месцаў. Карчэўскі з дачкою пайшлі калідорам, дзе рэзка і холадна, як і ў шпіталі, адкуль ён забіраў яе ўчора, патыхала пабелкаю. Няўклюдаю высілася ля сцяны драбіна, і белыя плямы ляжалі на шчыльным глянцавым лісце фікуса.

У цесным пакойчыку гэтай аэрафлотаўскай гасцініцы было чатыры ложкі. Карчэўскі паказаў дачцэ на дальні, у кутку:

— Займай вунь той.

— А гэтыя таксама нехта зойме?

— Можа, і не. Бачыш, туман радзее, самалёты цяпер паляцяць.

— Значыць, і мы?..

— А нам яшчэ гадзіны са тры, — чула ж, як аб'яўлялі?

— Тата, ты праўда жыў калісьці тут, у гэтым горадзе?

— Праўда, ты ж ведаеш. Ну, засынай.

Сам ён адчуваў, што не засне. Была ўжо тая ўзбуджанасць, што заўсёды наступала пасля некалькіх начных гадзін без сну. Круцілася на сваім ложку і малая, але Карчэўскі бачыў, што лячэнне тут яўна пайшло ёй на карысць, настрой у яе добры, і непакоіцца не было падстаў.

Так, у гэтым горадзе, падумаў ён. Даўным-даўно... Дачакацца сваёй чаргі і пайсці да няроўна праведзенай на зямлі рысы, гэтак абыякава і незалежна перакідваючы з далоні на далонь уласнаруч адлітую свінцовую бабку. Стаць ля рысы і ўглядацца ў дробненькі слупок манет наперадзе, на пляцовачцы гладка ўбітай падэшвамі гліны, што паблісквае пад нудным дажджом. Цэліцца не спяшаючыся, доўга, і старацца быць спакойным. Ну, і яны там не вытрымліваюць:

— Дулю ўбачыш. Не цягні, кідай.

— Пайшлі вы.

А яны скаляцца:

— Дык будзеш кідаць сёння?

— Маўчы, сказаў, а то накрыю чарапок. — І тут ужо кідаеш хутка і лёгка, нібы наўздагон, быццам пляваць на промах, але ж дакладна ведаеш, што блізка, вельмі блізка ўпадзе — бліжэй, чым у астатніх.

Чуеш, як пляснулася. Нехта працяжна, са здзіўленнем свіснуў.

— Зараза, га?

Апускаешся на калені, бабка зноў у руцэ, толькі злёгку абчысціць ад гліны. Дождж усё сеецца. Штаны ліпнуць да ног, халодныя, затое шанц твой — ты першы б'еш. Замахваешся, а сіні гумавы тапак Міленькага накрывае грошы, уціскае іх у слізкую гліну.

— Ідзі зноў кідаць. Занадта цэлкі.

Астатнія абступаюць ззаду. Тапак Міленькага ледзь ссоўваецца ўбок, бачны краі верхніх манет. Рукі ягоныя расшпільваюць гузікі пад рэменем, што з'ехаў уніз.

— А калі я змачу, пагрэбуеш, чысцюля?

— Чысцюля не даткнецца, яму не дазваляюць дома...

— Пацан яшчэ ён... Хопіць, пажартавалі.

— Я не жартую.

— Ну хопіць, Міля! Мы ж таксама ставілі сваё.

— Дык што — яму аддаць?

Лепей бы ўстаць, пайсці, а нешта ўсё трымае і трымае.

— Ну?! — і зноў замахваешся, не ўздымаючы галавы. І яны разумеюць.

— Са бзікамі. Яшчэ і праўда, Міля, урэжа.

— А вы што з ім тады?..

— Ну, зразумела. Толькі глядзі сам.

— Дасі мне біць ці не? — і ў горле ўжо сушыць, а да вачэй раптоўна прылівае гарачая і цёмная весялосць. — Ну!..

— ... гну! — раве ён зверху, там, дзе свінцовая бабка як на адцягнутай гуме просіцца ўніз, хоча ўляпіцца ў ягоны тапак з усяго размаху: свінец у руцэ болей жывы, чымсьці сама рука. — ... гну, зразуме-еў?!

— Так... ыэхх! — і сам не верыш: "Няўжо я гэтак во яму?" І тут адразу ж яркая ўспышка ў галаве, вачах, і давішся нечым спякотным, цвёрдым, не можаш гэта выдыхнуць... Пасля як ватны ўвесь і быццам бы плывеш.

Курчыцца Міля на зямлі, схапіўшыся за нагу, і прападае. А яны трымаюць за рукі Рэму — "Адкуль? І як спаймалі?" — ёйны партфель ляжыць у лужыне, і нібы праз тоўстую ваду Міленькі крэкча некаму:

— Пагладзь, пагладзь, памацай яе там, каб ён пабачыў усё, зараза.

А ўстаць не атрымліваецца, па-ранейшаму плывеш. Усё дрэнна.

— Кідайся, рыцар, што ж ты не кідаешся?

І галасы другія:

— Ну, скончылі. Пусціце камсамолачку.

— Дык спадабалася табе, красючка?

— А ты паўзі дахаты, гад, дзядзька такім і намалюе.

— Гэта ж не дзядзька ў яго.

— Ну дзед.

...Карчэўскі прыўзняўся, паглядзеў на дачку. Тая салодка спала. "Ну дзед", — яшчэ раз паўтарыў ён у думках і здзівіўся — як выразна прыгадалася! Чаго тут болей — памяці, а мо ўяўлення? І галоўнае — не твар, не голас, а тон, якім гэта было там сказана, тон абыякава-дапушчальны. Дзедава існаванне менавіта дапускалася ў той момант, дзед дазваляўся — безуважна і паблажліва...

Дзед не любіў яго. Ва ўсякім разе, ён, Юрык Карчэўскі, быў упэўнены, хоць і зусім гэтым не нудзіўся, не шкадаваў: тады пра дзеда амаль ніколі і не думалася. Ён аддзяляўся ад звыклага, заўсёдняга вельмі рэдка: з часам часцей, больш прыкметна, але кожны раз па-ранейшаму толькі на нейкае імгненне, быццам спяшаючыся некуды вярнуцца і не жадаючы пакідаць за сабою следу. Вось і цяпер, калі дзед прыгадаўся, здалося, што ўзнікае ён неахвотна, як бы з сумневам — а ці ж трэба?..

У той, парою непрыкметнай, нібы з жаданнем схавацца, ягонай прысутнасці ў сям'і, дзе ён, дзед, быў тады адзіным дарослым мужчынам, зараз бачылася не толькі старэчая і сціплая звычка не надакучаць, але і адыход кудысьці да аднаго сябе, патрэба адчуць сябе нават і не ва ўтульнай задуменнай адзіноце, а хоць бы на колькі хвілін асобна сярод заблытанага, цеснага, з хламу сабранага побыту першых пасляваенных гадоў, з чужымі ржавымі ложкамі, жалезнай печкаю, ейнай бляшанай выгнутай трубою, працягнутай хобатам да акна, з лямпачкай на доўгім шнуры і кардонкаю замест абажура.

Бадай, дзеду часцяком выпадала-такі заставацца аднаму, думаў Карчэўскі цяпер. І бачыў, як у цьмяна-жоўтым святле вечароў, сярод скончаных да чарговага свята партрэтаў сусветных правадыроў ("Заказ! Работа!") дзед марудна, цэлымі гадзінамі асцярожна адмервае і пілуе нажоўкаю брускі да новых падрамнікаў, перастаўляе з месца на месца фанерныя кавалкі, шкрэбаючы імі па падлозе, або, нацягнуўшы на сябе нейкі страхалюдны балахон з заскарузлага брызенту, адзін у восеньскай цемры падворка ўпарта водзіць пілою па безнадзейна тоўстым намоклым бервяне, упэўнены, што яму там залішне светла ад акна за спіною... І як уранку, у шырачэзных, на шлейках, з калашынамі-гармонікамі штанах, ён стаіць над электрычнаю пліткаю і смажыць ім са стрыечным братам Андрэем тонка нарэзаныя лустачкі хлеба, растапіўшы на патэльні малюпасенькі кавалачак сала і націскаючы на хлеб нажом, каб ён лепей набрыняў тлушчам.

Гэты смачны цёплы пах яны чулі, не паспеўшы яшчэ як след прачнуцца. Ад блізкасці знаёмага ласунку, ад дурной сваёй, дзёрзкай радасці і жвавасці, што патрабавалі нейкага выйсця, і невядома ад чаго яшчэ яны адразу ж пачыналі чапляцца да дзеда, кпіць з яго, перашкаджаць. Дзед злаваў, хутка распаляўся і крычаў з нервовым імпэтам у голасе, з гатоўнасцю да скандалу:

— А-а! Графы нарэшце падняліся да грэнкаў! Што, ужо заягліла? Ужо свярбіць? Так, бурсакі?..

Яны баяліся яго весела і з задавальненнем. А ён сіпеў у белыя вусы:

— Ыш, с-ссвалата...

І таксама сіпела на патэльні, і таксама водаправодны кран сіпеў у прамерзлым калідоры, дзе да перакручанага струменьчыка вады цягнуліся складзеныя, нібы ў малітве, далоні іхніх шкодных, бурсацкіх — або нават графскіх! — рук.

Праўда, здаралася, што дзед быў вельмі ім патрэбны — проста не абысціся без яго. Узімку, калі яны на санках з'язджалі па адхоннай вуліцы да парку, ён тырчэў семафорам унізе, падаючы рукою знак, што няма пагрозы ад машын на скрыжаванні. А ўлетку яны яго цягнулі ў парк, калі там быў футбол. І дзед спакойненька рабіў неверагоднае: неяк праціснуўшыся ў страшэннай калатнечы да кантралёраў са сваёй вялікай папкаю й пукам алоўкаў у нагруднай кішэні пінжака, ён казаў, што ён мастак і што яму трэба сёе-тое замаляваць. Цуд адбываўся, іх прапускалі, і заставаліся ззаду ўсе перашкоды, нават і конная міліцыя на чале з рыжавусым капітанам "Лео" Гінзбургам.

Аднак нейкая ўпартая і незразумелая сіла штурхала іх да вечных сварак з дзедам. Яны яго дражніді, рагаталі з ягоных звычак, слоўкаў, адзежы. Тут былі дурата, хлапчуковая бяздумная жорсткасць, нешта яшчэ. А дзед так раз'юшана кідаўся ў гэтыя свары, так з'едліва і люта — галоўнае, як роўны! — біўся з імі, быццам толькі і чакаў гэтага ў тым сваім асобным жыцці, калі моўчкі корпаўся ў калідорным хламе, стаяў ля падаконніка, малюючы надпісы да шыльдаў, дошак гонару, або сядзеў з якой-небудзь старой кнігай.

Ён прымушаў іх перад тым, як сесці за стол, мыць рукі. Ваду піць можна было толькі кіпячоную. І часта, нібы раззлаваны іхнім прыходам са двара, ён кіпеў ад раздражнення і браўся выразаць ім кардонныя вусцілкі для змакрэлых чаравікаў... Тут нешта не стасавалася з усім тым, што яны пакідалі ў двары і што чулася адтуль то непрыгожым і крыху палохаючым п'яным жаночым спяваннем, а то і радасным для іх звонам разбітага шкла.

Не стасавалася, ніяк не звязвалася між сабою і шмат іншага. У доме былі драўляныя кеглі, купленыя дзедам з надзеяй прывучыць іх да добрых гульняў; ягоны высокі танканогі мальберт, які яны тузалі, пакуль не звальвалі, прывязаным да ножкі рамянём, па-партызанску лежачы пад ложкамі; і дзіўны дзедаў музычны інструмент — цытра, якая выклікала смех сваёю назваю. У доме былі і белыя гіпсавыя галовы Лаакаона і Данатэлавага конніка Гатамелаты на сценах. А па-за сценамі дома заставалася ўсё тое, што чакала заўтра: пушчаныя пад адхон ваганеткі пленных немцаў, што разбіралі руіны, рэйкавая вайна з "фрыцамі" і завісанне разам з імі на тросах, якімі яны расхіствалі абгарэлыя цагляныя сцены, коміны, і бясконцыя, з ранку да цёмнага, асадныя абстрэлы каменнем двухпавярховага будынка дзіцячага дома, чыіх жыхароў рэдка калі бачылі, але заўсёды пабойваліся, добра ведаючы пра іхнюю хітрасць і жорсткасць.

А вечаровы змрок па-за вокнамі ўсё гусцеў, ярчэй свяціла лямпа, спакойнае цяпло прыемна адчувалася ў целе, і, нібы змогшыся, дзед пускаў іх у свой нябачна акрэслены круг зацішнай адасобленасці, дзе перагортваліся старонкі вялікай кнігі з адных чорна-белых малюнкаў, што прыцягвалі, быццам магніт.

— Хто маляваў, га?

Незадаволена хмыкнуўшы, дзед мармытаў:

— Дарэ, Густаў Дарэ. Гэта Майсей... Каін і Авель... Ноеў каўчэг.

— А хто вось гэта? Разрывае льву зяпу.

— Самсон.

— Ён разарваў ці не?

— Гэта Самсон! Мацней за яго не было!

— Ну, а пасля? Гартай, гартай яшчэ.

Дзед зноў спыняўся на Самсоне:

— Ноччу, адзін, знёс на спіне браму ад горада.

— А тут? Яна адрэзала яму валасы?

— Ён спаў. Уся моц ягоная была ў доўгіх валасах, па плечы...

— Што, ён абвальвае гэта на сябе?

Самсон, хаця і з кароткімі, абрэзанымі валасамі, рассоўваў у бакі рукамі і каленам таўшчэзныя высокія калоны палаца, зверху ўжо валіліся каменныя глыбы, балконы з людзьмі, а ўсе ўнізе, узняўшы галовы, у жаху ўскідвалі рукі.

— Яны яго асляпілі і вывелі, каб здзекавацца, насміхацца, — казаў дзед. — Дык ён сабраў апошнія сілы, упёрся во — і абваліў агромністы палац з крыкам: "Памры, душа мая, разам з філісцімлянамі!"

— Сіла... Такіх людзей болей і не было, напэўна?

У адказ дзед ізноў хмыкаў, здзіўляючыся, як гэта можна яшчэ пытацца пра такое. І хтосьці з іх звыкла пачынаў:

— А Лурых?

— Лурых! — дзед нават на хвіліну адварочваўся, даючы зразумець, што пра гэта і расказаць нельга таму, хто сам не бачыў. — Ён у цырку выступаў. Барцом. Увесь як выліты з бронзы. І хоць бы кропелька якая тлушчу — толькі мышцы!..

— Мускулатура, так?

— Ат! Няма вам чаго рабіць.

Бывала нават, што ён браў сваю, яшчэ даваенную, калі не дарэвалюцыйную гітару і, пашчыпваючы дзве струны, самую тоўстую і тонкую, паказваў, як скрыпка з кантрабасам вяртаюцца ні з чым з п'янага вяселля:

— Ні елі, ні пілі, ды яшчэ пабілі, — плаксівым голасам вёў дзед за скрыпку, а кантрабас ягоны з дакорам бубніў басам: — Я казаў, што так будзе, я казаў, што так будзе...

Тады яны крычалі: "Антэк млоды!" — і дзед, каб адчапіцца, гаварыў:

***— Ну, Антэк млоды...***

***...Носіў лёды***

***На Беляны, жэ аж страх;***

***Гды яму горонцо было,***

***Танцовал польку: рах-чах-чах!..***

І яны так і бачылі перад сабою гэтага дзівака Антэка, які цягаў марожанае некуды ў страшэнна далёкае месца горада, ці не Варшавы, аж на Беляны, а калі яму рабілася горача, дык ён, узмакрэўшы, пачынаў яшчэ і польку танцаваць: рах-чах-чах! — грымелі шпоры афіцэраў у бальнай зале...

Але ні вось гэтыя гутаркі з дзедам, ні ягоныя песенькі, ні вусцілкі з кардону — і ўжо, зразумела, ні грэнкі — не маглі яны ўявіць там, дзе прападалі пасля школы кожны дзень.

Дзед выдаваў іх з галавою. Як толькі ён набліжаўся да іх на вуліцы, яны адразу ж адчувалі сабе нібы выяўленымі шпіёнамі ў чужым лагеры. Патыхала здрадніцтвам да астатніх, хай сабе і здрадніцтвам міжвольным. Усё непадабенства, дзіўнасць іхняга хатняга жыцця-быцця рабілася відавочным для ўсіх.

Ні маці Юры, ні маці Андрэя з гэтага боку не выклікалі непакою. Гэта былі жанчыны — звычайны свет, што меўся дома ва ўсіх, і настолькі звыклы, зразумелы, што яго амаль што і не заўважалі. Але дзед і парусінавы ягоны картуз, верх якога быў заўсёды ўзняты і адкінуты скамечаным каўпаком назад, ці насоўка, што звісала з-пад картуза на патыліцу, каб сонца не пякло галаву, — не, гэта было ўжо занадта.

І яны ўмомант адступаліся і адхрышчваліся ад яго, паказваючы сваім выглядам, што яны — тут, з усімі, па-ранейшаму і назаўсёды, а дзіўны, смешны дзед, які з'явіўся немаведама адкуль і нашто, — усяго толькі прыкрая недарэка, нейкае непаразуменне, не болей.

Да гэтага адступніцтва яны былі заўжды гатовыя. Можа, таму і прымаліся, каб неяк апраўдаць сябе, так злосна высмейваць убоства свайго жытла. Сам жа Карчэўскі ведаў тады, што ў выпадкова ацалелых кварталах горада ёсць кватэры "сапраўдныя", як ён іх назваў. Нездарма ж бадзяўся ў марознай сіняватай цемры па вуліцах, гледзячы на вокны, у якіх мякка, роўна залацілася цёплая, хвалюючая ўтульнасць, — і нават рабілася сорамна за гэтую сваю зайздрасць, калі хто-небудзь заўважаў яго з намерам запаволеныя крокі.

(Працяг на стар. 14—15)

## Непаўторны Багінскі

**Пры падтрымцы Польскага інстытута ў Мінску Ансамбль салістаў "Класік-Авангард" пад кіраўніцтвам Уладзіміра Байдава распачаў новы канцэртны цыкл. Гэтая цікавая культурніцкая акцыя атрымала назву "Сілуэты польскіх кампазітараў XX стагоддзя", і яе пачатак меў добры розгалас на старонках "ЛіМа". На пачатку сакавіка ў Мінск завітаў герой другой канцэртнай праграмы цыкла "Сілуэты польскіх кампазітараў XX стагоддзя" — знаны творца, педагог і музычны дзеяч Збігнеў Багінскі. Адбыліся яго сустрэчы з калегамі ў Беларускім саюзе кампазітараў. А ў праграме канцэрта "Класік-Авангард" з удзелам салістаў-інструменталістаў цэлае аддзяленне прысвячалася вынаходлівай і непаўторнай музыцы Збігнева Багінскага. У той вечар яна гучала ў гожым суседстве з творамі незабыўнага і прызнанага Вітальда Лютаслаўскага — класіка і наватара польскай музыкі нашага стагоддзя.**

**Н. К.**

## "БГ" і яго "Акварыум"



**Пры "крутой" спонсарскай падтрымцы ў канцэртнай зале "Мінск" быў зладкаваны паказ праграмы Барыса Грабеншчыкова і групы "Акварыум". Праграма мела назву "Электрический пес", якая расшыфроўвалася — "лепшае са старога", што гаворыць само за сябе...**

**Знаны госць з Расіі — гітарыст, вакаліст, складальнік песень, арганізатар групы таленавітых музыкантаў Барыс Грабеншчыкоў — на здымку.**

*Фота А. ПРУПАСА*

## "Мастацтва", № 2

**Нумар адкрываецца артыкулам У. Конана "Казімір Малевіч: філасофія і эстэтыка мадэрнізму". Л. Грамыка ("Апладысменты пад заслону") дзеліцца ўражаннямі ад тэатральнага фестывалю "Белая Вежа-98". Гэтая ж тэма гучыць і ў артыкуле Т. Ратабыльскай "Лялькі на "Белай Вежы". А. Лабовіча ("Фестывальныя назіранні") цікавіць аматарскі тэатр у кантэксце фестывалю "Беларусь — мая песня". Пра творчасць Г. Вашчанкі разважае І. Мятліцкая ("Дыялогі з людзьмі і часам"). А. Давыдчык запрашае на выстаўку "Гасціннасць, або Мастацтва абмену". А. Казлоўская ("Зімовыя нататкі пра летнія ўражанні") гутарыць з дырэктарам Нацыянальнага акадэмічнага тэатра оперы С. Картэсам, а А. Кабановіч ("Я не кампазітар-інтуітывіст") — з В. Войцікам. Сярод іншых матэрыялаў — артыкулы В. Дадзіёмавай "XVIII стагоддзе. Замежныя музыканты ў Беларусі". М. Ізворскай-Елізар'евай "XX стагоддзе, міф і "Чарадзейная флейта" Моцарта", Г. Нячаевай "Ручнік — шлях", А. Марачкіна "Імпрэсіі пленэрных замалёвак", Д. Падбярэзскага "Твар музычнага свята", рэцэнзія Б. Бур'яна на спектакль "Вечны Фама" ("У паядынку — сіла зла і сіла дабрыні") на купалаўскай сцэне. Ёсць "Хроніка мастацкага жыцця".**

ЮБІЛЕІ

# І ў нашай хаце — святы...

### ЧАРОЎНАЯ СІЛА ПАПАРАЦЬ-КВЕТКІ

1999-ы год Беларускі рэспубліканскі тэатр юнага гледача распачаў юбілеямі. Ужо на першы дзень года прыпаў юбілей актрысы Людмілы ЦІМАФЕЕВАЙ. Праўда, сапраўднае свята і свой бенефіс яна наладзіла 22 студзеня. Гэтым вечарам у Гасцёўні Галубка для сяброў, блізкіх і прыхільнікаў тэатральнага мастацтва яна паказала (з дапамогай acёра Тэатра юнага гледача М. Лявонцьева) свой любімы спектакль — "Эдзіт Піяф" паводле п'есы В. Легентава...

Прыйшла Л. Цімафеева ў Тэатр юнага гледача ў 1955 годзе адразу пасля сканчэння Беларускага тэатральна-мастацкага інстытута разам з іншымі выхаванцамі свайго педагога Л. Мазалеўскай, якая ўзначаліла тэатр. І на працягу 35-гадоў была вядучай актрысай тэатра. Іграла шмат. Амаль што ўсе маладыя героі ў спектаклях 1950—60-х гадоў былі яе. Яны кранялі шчырасцю, непасрэднасцю, маладосцю, абаяльнасцю актрысы, святлом і харством душы, верай у перамогу справядлівасці, дабра, кахання. Часам яе гераіні былі безабаронныя, але найчасцей актыўныя, рашучыя, здольныя справіцца з усімі перашкодамі і выстаяць, перамагчы, адстаяць сваё каханне. Пералічыць усіх гераінь Л. Цімафеевай проста немагчыма. Таму прыгадаем толькі дзве, але тыя, якія яна іграла на працягу дзесяцігоддзяў і якія прынеслі актрысе сапраўднае прызнанне і любоў гледача. Гледача не толькі беларускага, бо тэатр у той час гастраляваў і па ўсёй рэспубліцы, і далёка па-за яе межамі.

У 1957 годзе Л. Цімафеева ўпершыню сыграла сваю незабыўную Яніну ў спектаклі "Папараць-кветка" І. Козела, а ў 1958 годзе ў Маскве за гэтую ролю была названа лаўрэатам Усесаюзнага фестывалю тэатраў юнага гледача. У яе Яніне нібыта ўвасобілася чароўная сіла кветкі папараці, светлых мараў, паэтычных уяўленняў і жорсткай рэчаіснасці. Л. Цімафеева стварыла своеасаблівы варыянт беларускай Джульеты: палкай, шчырай, самаахвярнай да самагубства ў імя кахання. Яе вочы то ззялі, выпраменьваючы каханне, то гарэлі пачуццём гневу, агіды, болю. Яна ўзрушвала гледачоў сілай свайго пачуцця.

Больш за 500 разоў сыграла Л. Цімафеева Ядзю ў спектаклі "Над хвалямі Серабранкі" І. Козела. Актрыса надзвычай пераканаўча малявала характар сваёй гераіні ў развіцці, паказвала пералом у яе характары, асэнсаванне немагчымасці ўратаваць каханне. З болем, пакутамі яна расставалася з любімым чалавекам — мужам, бо не магла скарыцца з ладам жыцця ў яго доме, не магла адмовіцца ад самой сябе, сваіх ідэалаў, не хацела і не магла падпарадкаваць усё ў жыцці толькі сіле грошай, як ад яе патрабавалі. Гэта была ўжо сталая работа майстра, выкананая на самым высокім прафесійным узроўні. Тут ужо нельга было абысціся адной прывабнасцю, шчырасцю, маладосцю, якімі часам даводзілася карыстацца ў іншых ролях.

У 1967 годзе Л. Цімафеевай было прысвоена ганаровае званне заслужанай артысткі БССР.

Іграла Л. Цімафеева і дзяўчынак, і такіх казачных істот, як Кот у спектаклі "Кот у ботах" паводле Ш. Перо (надзвычай жаноцкі, гнуткі, хітры і прывабны каток), Злосную царыцу і Люстэрка ў "Пушкінскіх казках". Былі ў Л. Цімафеевай і цікавыя характарныя ролі, як Мар'я Антонаўна ў "Рэвізоры" М. Гогаля, Купавіна ў "Ваўках і авечках" А. Астроўскага, Міледзі ў "Трох мушкецёрах" паводле А. Дзюма-бацькі. У спектаклі "З любімымі не расставайцеся" А. Валодзіна яна сыграла не такую ўжо і выйгрышную ролю Суддзі. А між тым атрымаўся надзвычай выразны вобраз гэткага раўнадушнага прадстаўніка ўлады. Часам у яе Суддзі прарывалася чалавечае, і тады ёй самой рабілася смешна ад тых слоў, што механічна, завучана прамаўляла. Але яна хутка падаўляла хвілінную "слабасць", авалодвала сабой — і зноў перад намі быў непрабівальны, "правільны" чыноўнік.

Але ішлі гады. У тэатры з'явіліся новыя, маладыя акцёры. Л. Цімафеевай даводзілася ўжо іграць маці, нават бабулю. Ды і ў рэпертуары была ўжо не так занятая. А яна ж адчувала сябе ў душы гераіняй. І актрыса не скарылася. Яна адшукала п'есу "Эдзіт Піяф", напісаную па кнігах-успамінах самой спявачкі, захапілася ёю і перадала сваё захапленне акцёрам-энтузіястам. Дзякуючы іх самааддана́й працы (спачатку самастойнай, потым з рэжысёрскай дапамогай) спектакль адбыўся. Ішоў ён на лесвіцы ў фае тэатра, а пазней, калі перакаНаліся, колькі шмат жадаючых яго ўбачыць, — на асноўнай сцэне.

Л. Цімафеева стварыла адухоўлены вобраз славутай спявачкі-жанчыны. Крытыка і гледачы былі аднадушныя ў сваёй самай высокай ацэнцы работы актрысы. Пра "тонкі, адухоўлены артыстызм" яе пісаў крытык А. Сабалеўскі. А вось як напісалі ў лісце, дасланым у тэатр, гледачы аднаго з навукова-даследчых інстытутаў пра "сваё захапленне, сваю радасць" ад спектакля: "Усе акцёры ў гэтым спектаклі іграюць вельмі добра... Але ігра Цімафеевай! Гэта — выдатна, гэта цудоўна! Такая аддача, такая шчырасць у кожнай сцэне!"

І цяпер Л. Цімафеева ўспамінае, як цяжка давалася роля, але яна заставалася і застаецца дагэтуль яе самай любімай. Гэтай роляй яна развіталася з калектывам тэатра ў 1990 годзе, калі вырашыла пакінуць сцэну, і вось цяпер адзначала свой юбілей. Прысутныя гэтым вечарам на спектаклі пераканаліся, што талент актрысы, прыгажосць і маладосць душы непадуладныя гадам.

### МАЙСТЭРСТВА І ЖЫЦЦЁВАЯ ПРАЎДА

6 студзеня споўнілася б 80 гадоў актрысе Апалоніі РОТАР (гучыць неяк урачыста і нязвыкла — усе называлі яе Поляй). Яна працавала яшчэ ў даваенным Тэатры юнага гледача БССР, а акцёрскую школу праходзіла ў студыі Польскага дзяржаўнага вандроўнага тэатра БССР у Мінску ў 1935—36-м гадах. Загадчык літаратурнай часткі А. Вольскі яшчэ хлапчуком бачыў "Цудоўную дудку" свайго бацькі В. Вольскага ў Тэатры юнага гледача БССР і запомніў абаяльную, прывабную, лірычную Марынку, якая так хораша спявала.

Былі потым і іншыя тэатры, таму ў сучасны Тэатр юнага гледача А. Ротар прыйшла ўжо вопытнай актрысай, прапрацавала ў ім (раза з даваенным часам) больш за 30 гадоў. І адразу вельмі актыўна была занятая ў рэпертуары. Не будзе перабольшаннем сказаць, што кожная яе роля была пазначана непаўторнай акцёрскай індывідуальнасцю. Пры гэтым яе вострыя, кідкія вобразы ніколі не парушалі ансамбля спектакля.

Яе шматлікія сялянкі заўсёды былі такія непадобныя і запамінальныя, нават калі гэта былі невялічкія ролі. Яны, як трапна заўважыў крытык Б. Бур'ян, былі нібыта "выхапленыя" з жыцця. У спектаклі "Папараць-кветка" была вельмі натуральная вясковая кабета — яркі, сакавіты, жывы народны характар. І Альбжэту А. Ротар заўважылі і ацанілі: актрыса стала лаўрэатам Усесаюзнага фестывалю тэатраў юнага гледача. Гэта было адзінае званне, якое мела такая самабытная нацыянальная актрыса. Праўда, тэатр прадстаўляў яе на званне заслужанай артысткі — у яе асабістай справе захоўваецца падрыхтаваная ў Міністэрства культуры БССР характарыстыка (за подпісам дырэктара У. Стэльмаха), але... І было гэта яшчэ да таго, як яна сыграла сваю каронную ролю — Ярыну Жыгліцкую ў спектаклі "Над хвалямі Серабранкі".

А. Ротар стварыла страшны па сіле ўздзеяння тыповы вобраз. Які моцны характар!

МУЗЫКА

# Сучаснік наш... баян

***Феномен ансамбля... Цікавыя перспектывы музіцыравання адкрываюцца ў саюзе творчых індывідуальнасцяў. Ці не такі саюз стварылі 10 гадоў таму педагогі Беларускай акадэміі музыкі, баяністы Таццяна Брагінец, Валянціна Пісарчык і Генадзь Мандрус!***

***Першыя ж канцэрты выразна вызначалі іх імкненне да свайго шляху ў мастацтве. Потым былі выпрабаванні ў конкурсах, залатыя медалі, званні лаўрэатаў, прызнанне...***

***Але смерць Генадзя Мандруса прынесла нечаканую страту. Ён быў тым чалавекам, маральная і творчая моц якога аб'ядноўвала музыкантаў. Без яго ансамбль распаўся...***

***І ўсё ж з часам Валянціна Пісарчык знайшла аднадумцаў, і вось ужо загучала трыо ў новым складзе.***



Сёння ансамбль, як бы прадаўжаючы традыцыі, пераконвае ў шчырасці і неабходнасці свайго існавання. Былыя студэнты — Уладзімір Гудзей і Сяргей Бандаровіч зрабіліся дастойнымі аднадумцамі свайго кіраўніка. Аднак Валянціна Пісарчык менш за ўсё прэтэндуе на правы настаўніка ў складзе трыо. Няма ў творчай працы гатовых, дакучлівых меркаванняў. Ёсць гатоўнасць пераждаць і асэнсаваць тое, што будзе гучаць са сцэны.

Ансамбль выступае на розных канцэртных пляцоўках Еўропы. Пра яго пішуць газеты, яго ўзнагароды, дасягненні становяцца набыткам беларускай культуры. А кожнае выступленне пацвярджае захопленасць мастацтвам.

І. С. Бах, І. Альбеніс, Т. Альбіноні, В. Залатароў... Самыя розныя жанрава-стылістычныя кантэксты гучаць красамоўна і цікава. Разнастайныя паводле эстэтычных ідэалаў і мовы, разнастайныя паводле нацыянальных кампазітарскіх школ, мастацкага зместу творы складаюцца ў арганічныя праграмы, драматургія якіх дазваляе выявіць пераемнасць паміж музыкай, здавалася б, узаемавыключнай.

На пытанне пра тое, як фарміруецца канцэртны рэпертуар, Валянціна Пятроўна адказвае:

— Стварэнне праграм заўсёды звязана з працэсам зносін са слухачом. Узнікае нейкая сістэма, дзе ўбачыць галоўнае можна толькі дзякуючы "рэакцыі на гучанне". Тады прыходзіць разуменне таго, што трэба слухачу і адпавядае нашаму мастацкаму густу.

Так, досвед калектыву ўсё больш спрыяе раскрыццю выканаўчых якасцей. Але ж досвед і прызнанне прыйшлі не адразу і замацоўваліся не адным-двума канцэртамі, а доўгай працай.

Валянціна Пісарчык першыя крокі ў трыо ўспамінае з хваляваннем. Менавіта тады калегі-музыканты знаходзілі тое, што цяпер мы называем мастацкім абліччам калектыву.

— То быў час напружанай працы, — успамінае Валянціна Пятроўна. — Першыя перамогі, пошук новага. Незабыўныя дні... А з якім таленавітым і высакародным чалавекам давялося супрацоўнічаць! Генадзь Мікалаевіч Мандрус так таленавіта складаў наш рэпертуар, што наўрад ці тады хто з нас так мог. І цяпер, у новым трыо, асаблівую ролю мы аддаём падбору рэпертуару.

Пры гэтым кіраўніца ансамбля заклапочаная пераладжэннем музыкі для інструментаў, розных паводле сваіх акустычных якасцяў, уключэннем вядомых арыгіналаў у сістэму мастацкіх магчымасцей баяна. У гэтым — вялікая даследчая праца, што пацвярджае кожнае выступленне калектыву, якому даступная сёння самая розная музычная стылістыка.

Валянціна Пятроўна лічыць, што культура ўвасаблення музычнага твора, "дыяпазон інтэлектуальных эмоцый", як яна кажа, вызначаюць узровень ансамбля. "Індывідуальнасць кожнага ўдзельніка, яго тэхнічныя вартасці мы выкарыстоўваем як мага па-

Як пераканаўча, з якім майстэрствам, жыццёвай праўдай, псіхалагічнай дакладнасцю паказвала яна, як цяжкае сялянскае жыццё, спрадвечная мара аб уласнасці, прага да грошай, багацця выціснулі з яе душы ўсе іншыя пачуцці. Нездарма крытык Г. Колас назваў яе Жыгліцкую беларускім Габсекам, увасобленым у трагікамедыйнай манеры.

Але А. Ротар былі падуладныя не толькі беларускія народныя характары. Надзіва блізкай аказалася ёй і стыхія разнявольнага карнавальнага прадстаўлення. Яе гратэскавая каралева-маці Тартальёна з іранічным стаўленнем да вобраза як нельга лепш адпавядала яркаму, гарэзліваму відовішчу "Зялёная птушка" паводле К. Гоцы. Як успамінае шматгадовая загадчык трупы тэатра К. Малюціна, А. Ротар казала: "Ну вось, думала, што ўжо нічога болей не сыграю. А Тартальёна — гэта мая лебядзіная песня". Сваё ўражанне ад Тартальёны А. Ротар выказала вобразна: "Як пырскі шампанскага!" Незвычайная рухавасць і характарнасць, народнасць актрысы добра клаліся на глебу італьянскай камедыі масак. Па словах А. Вольскага, які непасрэдна займаўся камедыяй дэль артэ, адбылося поўнае супадзенне простанароднасці, беларускасці А. Ротар з італьянскай камедыяй масак. Роля Тартальёны А. Ротар яшчэ раз пацвердзіла, што творчыя магчымасці і майстэрства актрысы бязмежныя.

А. Ротар працавала ў тэатры да канца сезона 1983 года. Пайшла ад нас назаўсёды ў красавіку 1996 года.

## НА РОДНАЙ СЦЭНЕ

28 студзеня ў тэатры адбыўся творчы вечар з нагоды 60-годдзя РыгораБАРАВІКА. Ладзіла яго кафедра тэатральнай творчасці Беларускага універсітэта культуры, дзе ён працуе ўжо амаль 20 гадоў. Але месцам правядзення быў абраны Тэатр юнага гледача нездарма. Тут Р. Баравік паставіў (і быў мастацкім кіраўніком) 14 спектакляў, а ў 1974—78 гадах з'яўляўся галоўным рэжысёрам тэатра. Ды і цяпер не парывае з ім сувязі. Вось і на вечары хор удзельнікаў з яго апошняй пастаноўкі "Пінская шляхта" В. Дуніна-Марцінкевіча аб'ядноўваў у адзінае святочнае юбілейнае прадстаўленне: віншаванні, жартоўныя і афіцыйныя, урыўкі з пастаўленых у тэатрах і універсітэце спектакляў. Разам з юбілярам мы парадаваліся выступленням яго студэнтаў і былых вучняў, а фрагменты-маналогі нагадалі пра яго ранейшыя пастаноўкі ў Тэатры юнага гледача: "Чатыры кроплі" В. Розава, "Чайка" А. Чэхава. Вельмі дасціпна прагучалі капуснікавае віншаванне В. Кавалераца і Ю. Вуты, уласныя вершы М. Лявончыка. У фае тэатра была разгорнута выстава — афішы і фатаграфіі з ажыццёўленых Р. Баравікам пастановак у тэатрах Беларусі, Украіны, Малдовы, Расіі, напісаныя ім карціны (пейзажы, нацюрморты). А універсітэт культуры паспеў яшчэ і выдаць прысвечаную дзейнасці юбіляра брашуру.

## НЕПАЎТОРНАЯ ЛАСТАЎКА

На дзейнасць Р. Баравіка прыпалі першыя крокі на сцэне ТЮГа актрысы Наталлі ЯКАЎЛЕВАЙ, — 12 сакавіка яна адзначала свой юбілей.

Н. Якаўлева, так бы мовіць, ўварвалася на цюгаўскую сцэну пад барабанны дробат — піянеркай Бэлачкай Клімавай у спектаклі "Дождж ліў, як з вядра" А. Хмеліка і М. Шатрова. Потым была цэлая чарада самых розных дзяўчынак: прыгажуня Ліля ("Пойдзем у кіно?" А. Хмеліка), якая пачынае адчуваць сілу свайго характа і карыстаецца ёю, Строгая дзяўчынка ("А ўсё-такі яна круціцца, або Гуманоід у небе мчыцца" А. Хмеліка), непрадказальная Надзька ("Уся надзея" М. Рошчына), якая шукае сябе, свой шлях у жыцці, разважлівая Сяброўка ("Надзея" Г. Радзіёнавай), мужная Валя Бруз жак ("Як гартавалася сталь" паводле М. Астроўскага), Ніна Іванцова ("Маладая гвардыя" паводле А. Фадзеева).

Вельмі добра пачуваецца Н. Якаўлевай у спектаклі-казцы. Музычная, пластычная, яна знаходзіць уласцівыя казачныя істотам звычкі і ненавязліва іх перадае. За 25 гадоў работы ў тэатры колькі разнастайных казачных персанажаў яна сыграла: лісіц, сабак, была і малпа, і дзьмухавец, і муха. Нагадаем хаця б не прывабнае, гаваркое і такое цікаўнае аленяня Фаліну ў славутым "Бэмбі" паводле Ф. Зальтэна, адданага сабаку Джыпса ("Як выкралі Сафі" В. Белшавіцы), даверлівую дзяўчынку Вольгу ("Шышок" А. Аляксандрава), якая пераканана ў існаванні цудадзейнага Шышка.

У казцы-прытчы "Гісторыя кахання Паласатага Ката і сеньярыты Ластаўкі" паводле Ж. Амаду Н. Якаўлева сыграла і сваю зорную ролю — непаўторную Ластаўку. Яе Ластаўка прагла кахання, яна нібыта ўся спявала ад гэтага нязведанага раней пачуцця. Шчаслівая, трапяткая, даверлівая, яна не вытрымала асуджэння і абгавораў з боку жыхароў птушынага двара. На такой шчымлівай ноце і абрывалася яе выпакутаванае каханне.

І зараз на сцэне тэатра Н. Якаўлеву можна пабачыць у спектаклях-казках "Кошчын дом" С. Маршака і "Анчутка" Б. Мятальнікава. Яна іграе абаяльную, какетлівую, напатчаку ганарыстую, эгаістычную, а напрыканцы чулую і спагадлівую Кошку. І ўжо каля 10 гадоў захапляе дзятву незвычайнай лясной жыхаркай Анчуткай, якая ператвараецца ў шчырую добразычлівую дзяўчыну, што цэніць сяброўства, ласку, клопат, любоў. А не так даўно ў спектаклі "Пінская шляхта" была свавольнай жонкай Івана Цюхая-Ліпскага. З задавальненнем, смакам, гарэзлівым настроем іграла яе актрыса.

Н. Якаўлева ўвогуле любіць працаваць і працуе самааддана. А акцёрскую працавітасць і адданасць тэатру яна атрымала ў спадчыну ад бацькоў — акцёраў Брэсцкага драматычнага тэатра Лідзіі і Аляксея Беражных.

**Д. УЛАДЗІМІРАВА**

КАНЦЭРТЫ

# Гэта нават больш за аншлаг!

***Філарманічныя канцэрты з цыкла "Настаўнікі і вучні" — з'ява ў нашым культурным жыцці прыкметная. Вось і нядаўні канцэрт вучняў Ліліі Умновай, вядомага педагога Беларускай акадэміі музыкі і Рэспубліканскага каледжа пры БАМ, прыцягнуў вялікую ўвагу аматараў скрыпічнага мастацтва. У Зале камернай музыкі, дзе ён адбываўся, былі заняты ўсе месцы, сёй-той мусіў слухаць стоячы, бо выступалі сапраўдныя "зорачкі" — таленавітыя скрыпачы розных узростаў.***



*На здымку: лаўрэат Міжнароднага конкурсу Алег ЯЦЫНА.*

Асабліва чакала публіка выступленне вучня 7-га класа каледжа Алега Яцыны — лаўрэата прэстыжнага Міжнароднага конкурсу Ягудзі Мянухіна. І ў кожным з выкананых твораў — ці то Рамансе Бетховена, ці то Інтрадукцыя і Рондо капрычыёза Сен-Санса, непаўторна раскрыўся талент юнага скрыпача. Ён быў ва ўладзе Музыкі. Пакарыў і яго чароўны гук.

Разам з таленавітым піяністам, "чалавекам-аркестрам" Цімурам Сергяенем, які ў маленстве і сам быў знаным вундэркіндам, а цяпер паспяхова канцэртуе па Беларусі і за мяжой, Алег тварыў цуд. Абодва музыканты тонка адчуваюць партнёра, складаючы сапраўдны ансамбль, у якім кожны — раўнапраўны саліст і ў той жа час — частка адзінага цэлага. Скрыпка то размаўляла з раялем, то каларытна саліравала руладамі, то замірала пад прыгожы напеў фартэпіяна.

Слухачы доўга не адпускалі таленавітых музыкантаў. І "на біс" у іх выкананні прагучаў фрагмент з оперы "Оргі і Бес" Гершвіна. Невыпадкова ў праграму была ўключана музыка амерыканскага кампазітара, 100-годдзе якога нядаўна адзначыла музычная грамадскасць свету: неўзабаве разам з іншымі юнымі таленавітымі музыкантамі, якім дапамагае Фонд Уладзіміра Співакова "Новыя імёны", Алегу давялося выступаць у ЗША. Дарэчы, удалося вырашыць праблему інструмента: цяпер наш юны скрыпач карыстаецца унікальнай скрыпкай французскага майстра XIX стагоддзя, якую Алегу ўручыў Уладзімір Співакоў.

У той вечар на сцэну выходзілі адметныя таленты. Вядома ж, іх родныя — бацькі, дзядулі, бабулі — асабліва хваляваліся за самых выканаўцаў. Трэба было бачыць, як заблішчэлі вочы вядомага паэта Уладзіміра Карызны, калі ён слухаў выступленне сваёй унучкі — трэцякласніцы каледжа Настассі Карызны! Яна яшчэ толькі на пачатку музычнага шляху. А вось пра студэнтку І курса БАМ Ліду Дабрыжнец, скрыпачку ў трэцім пакаленні, загаварылі даўно. Ліда — лаўрэат Міжнароднага конкурсу імя Б. Дварыёнаса, у яе вялікая практыка выступленняў з аркестрам...

Студэнт V курса БАМ Аляксандр Афанасьеў, які выканаў другую і трэцюю часткі Канцэрта П. Чайкоўскага для скрыпкі з аркестрам і Фантазію А. Сарасатэ на музыку оперы Дж. Бізэ "Кармэн", паказаў сябе ўдумлівым скрыпачом з непаўторным творчым аблічам. А музыкантам ён стаў, можна сказаць, выпадкова — калісьці педагогі Сярэдняй спецыяльнай музычнай школы пры БДК заўважылі таленавітага хлопчыка ў дзіцячым садзе, і гэта вызначыла яго лёс.

Сямікласніца каледжа Ксеня Бельцюкова (яна вылучылася на Міжнародным юнацкім конкурсе імя скрыпача Яраслава Кацыяна ў Чэхіі, на конкурсе музычных ансамбляў у Смаргоні) пад кіраўніцтвам Л. Умновай падрыхтавала вялікі рэпертуар, а на канцэрце ў Зале камернай музыкі, які дзяўчынцы выпала адкрываць, яна грала творы Сарасатэ, Вяняўскага.

На думку саміх яе выхаванцаў ды іх бацькоў, Лілія Уладзіміраўна глыбока адчувае псіхалогію вучня, умее падсцці да кожнага — то пажартуе, то ўгаворыць, а можа быць і строгай. Вельмі патрабавальная да сябе — сама ж цудоўны музыкант, канцэртуе, — яна дапамагае вучню раскрыцца, і той пачынае адчуваць стыль, характар твора. Шмат гадоў старшы выкладчык Лілія Умнова дае школу скрыпачам Беларусі, выхавала многіх таленавітых музыкантаў. З нядаўняга часу загадвае струнным аддзяленнем Рэспубліканскага каледжа пры БАМ. Педагогам па прызванні называе яе калега — знаны музыкант, мастацкі кіраўнік Камернага аркестра каледжа Уладзімір Перлін: "Не ведае, што такое адпачынак, бясконца адданая сваёй справе. Заўсёды ў пошуках".

У той вечар прыгожую, таленавітую, самаадданую Лілію Умнову літаральна засыпалі кветкамі. Ёй уручылі столькі прыгожых букетаў, што яна нават не магла іх трымаць! А ў зале быў больш чым аншлаг. Усім хацелася паслухаць маладых скрыпачоў — музыкантаў надыходзячага XXI стагоддзя.

**Вера КРОЗ**

ней у працэсе размеркавання матэрыялу для творчасці, — удакладняе яна.

Значыць, арганічнасць выступленняў калектыву — вынік выбару таго, што можа ўразіць слухача. Музычныя палотны, увасобленыя трыо, інтанацыйна асэнсаваныя і адточаныя. Уменне слухаць адно аднаго ў найтанчэйшых дэталях робіць ігру артыстаў выразнай. І ёсць поспех у публікі. Але...

Валянціна Пісарчык лічыць, што сёння проста неабходная дыскусія пра майстэрства выканальніцтва на баяне.

— У мастацтве выканальніцтва на баяне ёсць частка праблем усяго нашага мастацтва, яго перспектыў і далейшага зацвярджэння ў сучасным духоўным жыцці. Баянная мастацтва дае той матэрыял, на аснове якога можна тэарэтычна асэнсоўваць спецыфічныя выразныя магчымасці музыкі ўвогуле, — разважае яна.

Так, сам гэты інструмент — яркая з'ява у музычным мастацтве. І сярод мноства пытанняў, якія ўзнікаюць "вакол баяна", ёсць і такое: якім чынам найбольш актуальна выкарыстоўваць тое, што дадзена гэтаму інструменту? Тут можна гаварыць пра ўзровень мастацкага мыслення сучасных музыкантаў і праблему з адпаведным рэпертуарам. Сапраўды: ці заўсёды наша выканаўчая практыка ў суладдзі з тым, што прапануюць кампазітары сёння?

А наогул, высакакласныя выступленні ансамбля баяністаў наводзяць на думку пра тое, што ён варты стварэння сапраўды ўрачыстай атмасферы вакол кожнага канцэрта. Шырэйшы розгалас — гэта стымул да творчасці і музыканта, і кампазітара. Гэта жыццядайная атмасфера, неабходная прыхільнікам мастацтва.

"Галоўнае — мець магчымасць захапленне тым, над чым працуеш", — лічаць удзельнікі трыо. Рэпертуар абнаўляецца. Вось ужо і вакальная музыка гучыць. Не так даўно баяністы таленавіта (як і ўсё, што робяць) акампанавалі ў сваім канцэрце знанаму салісту Міхаілу Жылюку. Складаюць і планы на будучыню. Многа рэпеціруюць.

У гэтых музыкантаў ёсць вельмі важная рыса — цяга да прафесійнай супольнай працы. Кожны мае свой творчы досвед. Разам зыходзяць з тых задач, якія вызначаюцца магчымасцямі інструмента.

Калі слухаеш праграму ансамбля, то адзначаеш для сябе выразнае імкненне артыстаў падкрэсліць магчымасці сваіх інструментаў, высветліць іх выразныя рэсурсы ў розных вобразах і формах музычнага мастацтва. Кожная інтанацыя, кожны рытмічны рух поўняцца зместам. Фразіроўка, меладычная лінія — па-мастацку абгрунтаваныя. І пры ўсім гэтым заўсёды мы, слухачы, наноў адкрываем для сябе выразныя магчымасці інструмента.

Вось гучыць "Сіцыліяна" Баха, уражваючы надзвычай тонкім адчуваннем тэмбральнай палітры. А як пранікнёна разгортваецца "Гатычная сюіта" Л. Бельмана! Малітва... Пры першых гуках "Адажыо" Т. Альбіноні, твора, выкананне якога ансамбль шторaз прысвячае памяці Г. Мандруса, зала напаўняецца незвычайнай цішынёю, а кожная музычная фраза набывае высокі сэнс і нібыта ўзнімае душу. А калі душа адчувае і пранікаецца мастацтвам, — гэта і ёсць той цудоўны набытак, які дорыць нам выканаўцы.

Сённяшні поспех ансамбля (а ён суправаджаецца перамогай на Міжнародным конкурсе ў Італіі (1994 г.), удзелам у Міжнародным фестывалі ў Даніі (1995 г.), званнем лаўрэатаў і ганаровым тытулам у Даўгаўпілсе) — гэта працяг таго, што закладалася ў творчы падмурак першымі ўдзельнікамі трыо. Ад канцэрта да канцэрта яго ігра робіцца ўсё больш выразнай і ўжо сведчыць пра мастацкую сталасць.

**Альбіна ЦАРОВА**

ВЫСТАВЫ

# На радзіме Бялыніцкага-Бірулі

Славуты пейзажыст нарадзіўся ў апошні дзень апошняга зімовага месяца. Землякі Вітольда Бялыніцкага-Бірулі памятаюць пра гэты дзень і ўжо на працягу некалькіх гадоў адзначаюць яго цікавымі імпрэзамі.

Да гэтага дня прымеркаваны дзве выставы ў Бялыніцкім раённым мастацкім музеі. Сябра Саюза мастакоў Беларусі бялынічанка Ларыса Журавовіч экспануе на адной з іх больш за трыццаць сваіх работ — партрэты, пейзажы, нацюрморты. Бадай, усе творы яе прасякнуты шчымлівым роздумам аб месцы чалавека на зямлі, паэтычнай усхваляванасцю ад пазнання прыгажосці прыроды.

Выхаванец вядомых майстроў выяўленчага мастацтва Беларусі А. Бембеля, А. Анікейчыка, Л. Гумілеўскага Аляксандр Крахалёў паказаў землякам Бялыніцкага-Бірулі шаснаццаць сваіх работ — скульптурныя партрэты і кампазіцыі. Дарэчы, Аляксандр Пятровіч з'яўляецца аўтарам манументальнага помніка "Землякам, якія не вярнуліся з вайны", што колькі гадоў таму быў устаноўлены ў Бялынічах.

Здаецца, на Магілёўшчыне становіцца традыцыяй адзначаць дзень нараджэння В. Бялыніцкага-Бірулі паказам спектакля па п'есе бялынічаніна Міхася Карпечанкі "На парозе блакітнай вясны", у выкананні акцёраў народнай студыі "Машэка" Магілёўскага гарадскога цэнтра культуры на чале з заслужаным дзеячам культуры Беларусі Валянцінам Ермаловічам.

Прэм'ера яго адбылася яшчэ два гады таму, падчас правядзення Міжнароднага пленэру па жывапісе памяці Вітольда Бялыніцкага-Бірулі.

Напрыканцы мінулагодняга лютага маэстра Ермаловіча знаёмілі са спектаклем сяброў клуба творчай інтэлігенцыі Магілёва, старшакласнікаў абласнога цэнтра, настаўнікаў і вучняў Цяхцінскай сярэдняй школы, што ў Бялыніцкім раёне. Сёлета драматычныя аповед пра апошнія дні жыцця Вітольда Каятанавіча прагучаў і ў сценах Бялыніцкага раённага мастацкага музея. У спектаклі былі заняты Валянцін і Вячаслаў Ермаловічы (бацька і сын), Марыя Лебедзева, Яраслаў Клімуць, Раіса Галушка.

**Надзея ПАЛОННІК,**
**дырэктар Бялыніцкага раённага мастацкага музея імя В. К. Бялыніцкага-Бірулі**





## Сустрэчы ў Зэльве



Аўтографы паэта — землякам.

**Гарадскі пасёлак Зэльва даўно пазначаны на літаратурнай карце Беларусі. Тут жыла вядомая паэтэса Ларыса Геніюш. У Зэльве атрымалі атэстаты сталасці паэт Юрка Голуб і празаік Уладзімір Ягоўдзік.**

**Тут нарадзіўся і закончыў школу паэт Уладзімір Мазго. А нядаўна ў Зэльвенскім раённым Доме культуры адбыліся літаратурныя сустрэчы з ім сённяшнім — ужо вядомым паэтам і рэдактарам Дзяржаўнага выдавецтва "Юнацтва". Спачатку школьнікі малодшых класаў з усіх школ райцэнтра слухалі вершы, песні, казкі, разгадвалі загадкі падчас прэм'еры кнігі земляка для дзяцей "Смехапад". А потым старшакласнікі і наогул мясцовая моладзь вялі з паэтам дыялог аб сакрэтах творчасці, аб новых кнігах, марах і задумах, аб ролі мастацкай літаратуры ў жыцці сучаснага чалавека.**

**Ініцыятарамі і арганізатарамі сустрэчы былі бібліятэкар Зэльвенскай сярэдняй школы N 2 Яніна Шматко і дырэктар Юрый Лізуноў.**

**Тэкст і фота В. МАКОЎСКАГА**

## "Беларусь", N 1

**У сёлетнім годзе ў часопісе "Беларусь" нямала добрых пачынанняў. Адно з іх — прэм'ера рубрыкі "Разварот падзей", з якой у першым нумары можна даведацца, як разгортваліся падзеі ў нашай краіне напрыканцы мінулага года. В. Ждановіч ("Не здраджвайце і не прадавайцеся!!!") знаёміць са старшынёй Дзяржаўнага камітэта па друку Рэспублікі Беларусь М. Падгайным. В. Яроменка ("Нашчадкам у прыклад") расказвае пра вядомага марскога афіцэра, якому пастаўлены помнік у Севастопалі, — пра А. Казарскага. Т. Песнякевіч падрыхтавала пяць маналогаў кампазітара Г. Гарэлавай — "Душа імкнецца да гармоніі..." Я. С. рэцэнзуе кнігу В. Фадзеевай "Беларускі ручнік" ("І набожнік, і сцяг"). Змешчаны вершы В. Зуёнка, апавяданне І. Навуменкі "Падарожжа ў Бабінавічы". "Ленінградскае брацтва" Г. Грыгаровіч — вяртанне ў блакадны Ленінград і гаворка пра сённяшні дзень яго блакаднікаў. В. Ждановіч ("Калі двое ці трое сабраліся ў імя маё...") апавядае пра былога артыста ансамбля "Сябры" А. Шчытава, які ў 1980 годзе пакінуў гэты калектыў і стаў знакамітым разьбяром. М. Нарушэвіч ("Храм нашай памяці") запрашае ў Беларускі дзяржаўны архіў навукова-тэхнічнай дакументацыі. Цыкл артыкулаў пад рубрыкай "Як жыве народ" распачаты першым матэрыялам І. Ждановіча "Нешта ёсць..."**

## "Маладосць", N 1

**Вершы С. Крычко, Д. Хвастоўскага, Г. Сянькоўскага, Ф. Качановіч, В. Корбута, Э. Граковіча, С. Сцяпана склалі "паэтычны сшытак". Змешчаны апавяданні Т. Супрановіч, А. Бычкоўскага, навелы А. Жалязоўскага, аповесці "Лішняе дзіця, або Амплітуда жаданняў" У. Дамашэвіча і "Квецень пад інеем" А. Емяльянава, публіцыстычны роздум У. Глушакова "І гэта ўсё — мы", падарожны нарыс А. Мяснікова "Тайны Тайваня". Пад рубрыкай "Нашы славутыя землякі" прапануецца нарыс А. Марціновіча "Птушкі вяртаюцца да гнёздаў", герой якога І. Копаць. Ю. Станкевіч ("Песня — застаецца") прапануе матэрыялы "Круглага стала" "Маладосці", удзельнікамі якога былі беларускія барды Э. Акулін, С. Мінскевіч, Л. Сом. Назва артыкула А. Ненадаўца сама гаворыць за сябе — "Скарбы". А. Кліменка ("Боскае свято "Мадонн...") гутарыць з вядомым мастаком А. Кузьмічом. У раздзеле "Усмешка "Маладосці" надрукаваны гумарэска А. Фомчанкі "Пераўвасабленне па Станіслаўскаму" і пароды Г. Юрчанкі на Г. Пашкова, А. Пісьмянкова, Л. Сільнову, С. Шах.**

"ЛіМ"—ФОТА

***Мы не бачыліся***
***цэлае каханне.***
***На маёй трывозе —***
***сівізна.***
***Там, дзе ўспомню***
***пра твае дыханне,***
***Там і пачынаецца вясна...***

**Леанід ДРАНЬКО-МАЙСЮК**



Фота А. КУШНЕРА

# Жыў беларус і будзе жыць!

*(Працяг. Пачатак на стар. 5)*

**— Сёння ўжо нямала медыцынскіх устаноў прыватнага характару, асабліва ў стаматалогіі, касметалогіі, фізкультурналячэбнай медыцыне. Якое ваша стаўленне да іх, як і да прыватных фірм, што закупляюць і прадаюць лекі? Як яны ўпісваюцца ў сістэму дзяржаўнай медыцыны?**

— Прыватная ўрачэбная практыка дазволена законам. Права на жыццё яна мае. Галоўная ўмова — высокая кваліфікацыя, наяўнасць ліцэнзіі, методыка і ўмовы лячэння. Калі нехта парушае гэтыя прынцыпы, тады прыватнік не мае права лячыць людзей. Прыватныя клінікі, лабараторыі, кабінеты павінны даваць нам справаздачу гэтаксама, як і дзяржаўныя медустановы. Пры кожным трывожным сігнале мы прымаем меры і пры неабходнасці такіх гора-лекараў пазбаўляем ліцэнзіі.

Адносна прыватных аптэк заўважу вось што. Агульнае спажыванне медыкаментаў па Беларусі ў грашовым вылічэнні складае 270 мільёнаў долараў. Ці можа дзяржава закупіць лекаў на такую суму? Сёння, на жаль, не можа. Таму і ўзніклі прыватныя аптэкі — як падмога дзяржаўным.

**— А пра лекі, Ігар Барысавіч, дык страшна і гаворку ўсчынаць. Сёння ў нашых аптэках імпартных лекаў куды больш, чым айчынных, але ж і цэны на іх у дзесяткі разоў вышэйшыя. А наколькі лепшая іх якасць? Звыклых, вядомых здаўна лекаў часта ўвогуле не знойдзеш, а новыя, шырока разрэкламаваныя — страшэнна дарагія, большасці з нас не па кішэні. Патлумачце, калі ласка, сітуацыю.**

— Праблема тут сапраўды складаная. "Белфармацыя" цэнтралізаваныя закупкі вядзе буйнымі партыямі. Гэта што дае? Гэта зніжае кошт лекаў. Міністэрства аховы здароўя супрацоўнічае з фірмамі, якія рэалізуюць медыкаменты і медтэхніку, на ўмовах эканамічнай выгады. Зроблены яшчэ адзін крок: вытворцы айчынных медпрэпаратаў атрымалі дзяржзаказ пад гарантыю за пастаўкі.

Зараз недзе 70 працэнтаў лекавых сродкаў жыхары рэспублікі атрымліваюць бясплатна ці на льготных умовах. Ільготы мусім рабіць "адрасныя", гэта значыць, прадастаўляць іх людзям, якім яны найбольш патрэбны — інвалідам, ветэранам вайны і працы. Асноўныя лекі ў аптэках ёсць. Ёсць розныя вітаміны: і дарагія, і танныя. Ёсць у вас грошы — купляйце заморскія лекі і вітаміны, няма — можна абысціся айчыннымі. Некаторыя раней дэфіцытныя лекі сёння можна купіць у любой аптэцы — дзяржава пра гэта паклапацілася. Станем жыць лепш — забяспечым ільготнікаў і дарагімі лекамі, а пакуль што не можам.

**— Вядомае выслоўе пра тое, што ўрача, як і настаўніка, не павінна быць благога, непрафесійнага. З воблікам урача, наогул медыцынскага работніка не стасуюцца такія паняцці, як грубасць, хамства, хабарніцтва. Якая ў нас сітуацыя з медыцынскімі кадрамі, іх прафесійнай і маральна-душэўнай, скажам гэтак, падрыхтоўкай?**

— Такая, як і ў ва ўсім грамадстве. Мы ж таксама частка гэтага грамадства, і ў нас ёсць розныя людзі. Для таго, каб змагацца з негатыўнымі з'явамі ў нашай сферы, на з'ездзе ўрачоў былі прыняты кодэкс "Аб урачэбнай этыцы", які ўсе павінны выконваць. Гэта — першае. Другое — трэба пастаянна павышаць прафесійны ўзровень урачоў, таму па шэрагу спецыяльнасцей мы ўвялі двухгадовую стажыроўку. Трэба займацца рэзервам кадраў. Для гэтага мы стварылі факультэт падрыхтоўкі рэзерваў кіруючых кадраў сістэмы аховы здароўя: галоўурачоў, загадчыкаў аддзяленняў бальніц і г.д. А ўвогуле ўрача, як і любога іншага спецыяліста, трэба зацікаўліваць матэрыяльна, каб высокі спецыяліст атрымліваў і адпаведную высокую зарплату.

**— Яшчэ год-два назад бальніцы, паліклінікі былі кепска забяспечаны лекамі, іншымі лячэбнымі, санітарнымі сродкамі, бялізнай, пасцельнымі прыналежнасцямі, посудам і г.д. Апошнее выклікала і здзіўленне: усё было і раптам прапала? За 3-4 гады раптам парвалася ўся бялізна, халаты, ручнікі, прадзіравіўся посуд? У чым прычына? Сітуацыя палепшылася? Ці па-ранейшаму трэба ісці ў паліклініку да гінеколага са сваёй пялёнкай і пальчаткамі, а ў бальніцу — са сваімі лекамі і ўсім іншым?**

— Калі мы прааналізавалі сітуацыю з мяккім інвентаром — прасцінамі, накоўдранікамі, ручнікамі і г.д., то ўбачылі, што з 1993-га па 1996 год мала што закуплялася. Мы прынялі меры, каб пасцельныя прыналежнасці былі ўсюды, і я не ведаю выпадкаў, каб хворы ішоў у бальніцу са сваёй прасцінай. Тое самае тычыцца і посуду. Калі некаму прыемней піць са свайго кубка, калі ласка. У некаторых бальніцах на сталах нават нажы ёсць, чаго не знойдзеш у сённяшніх агульнадаступных сталовых. Сітуацыя з лекамі больш складаная. Аднак па жыццёва важных медыкаментах усе пазіцыі, як мы кажам, зачынены. Само сабою, дарагія лекі нам даводзіцца траціць эканомна, таму падыход тут дыферэнцыраваны — для цяжкіх хворых ёсць практычна ўсё.

**— "Притчей во языцех" заўсёды была стаматалогія, асабліва — пратэзіраванне зубоў. Сёння тут шырокая сетка платных паслуг, дзе і самыя навейшыя матэрыялы і тэхналогіі, і высокая культура абслугоўвання. Але ж — і вышэйшыя кошты, што зачыняе туды дзверы для многіх з нас, асабліва пенсіянерам. Падляцыць жа, а найперш "падрамантаваць" зубы па старой савецкай завядзёнцы бясплатна — па-ранейшаму праблема, асабліва ў сельскай мясцовасці. Чэргі — даўжэзныя. Прыходзіць бабуля да зубнога, а ён: яшчэ ваша чарга не падышла! "Дык я не дажыву, дзіцятка!" Плаці, бабка, грошы, і заўтра будзеш з зубамі! А бабка заплаціць не можа, пенсіі на пражыццё не хапае... Ці, можа, я занадта згушчаю фарбы, Ігар Барысавіч?**

— Вы абсалютна згушчаеце іх! Для ўсіх пенсіянераў зубапратэзаванне робіцца бясплатна. Практычна сёння для ўсіх чаргі на зубапратэзаванне няма, а ёсць толькі менавіта для пенсіянераў. Чаму? Па-першае, гэта звязана са складанасцю і асаблівасцю зубных пратэзаў для старых людзей, а, па-другое, грошы з бюджэту не заўсёды своечасова паступаюць. У бальшасці краін свету стаматалогія каштуе немалых грошай. І там людзі куды больш, чым мы, клапоцяцца аб сваіх зубах. Каб грошы былі ў кішэні, зубы трэба чысціць, і не толькі раніцою. Не хочацца своечасова хадзіць да стаматолага, не хочацца чысціць і берагчы зубы — тады плаціце. А як жа інакш?

**— Забіраю ў вас час, але не магу не запытаць і вось пра што. У выніку чарнобыльскай аварыі была забруджана тэрыторыя, на якой жыло 2 мільёны беларусаў, у тым ліку 350 тысяч дзяцей. Сёння гэта лічбы, на жаль, не паменшыліся, а пабольшалі, радыяцыя "распаўзаецца". Сёння мы ўсе па сутнасці — чарнобыльцы. Але я маю, тым не менш, на ўвазе перш-наперш саму так званую чарнобыльскую зону. Якая там сітуацыя з медыцынскага пункту гледжання? Як наладжана, як функцыянуе там сістэма аховы здароўя, прафілактыкі захворванняў, аздараўлення дарослых і дзяцей? Якія існуюць цяжкасці? Якая перспектыва завяршэння славутага гомельскага даўгабуда — радыелагічнага цэнтра?**

— Адносна завяршэння Гомельскага радыелагічнага цэнтра. Грошы выдзелены, будаўнікі працуюць. Добра працуюць ці кепска — гэта іншае пытанне. Я лічу, што працуюць кепска. Сітуацыя ж у зоне — кіруемая, трымаецца пад кантролем. На жаль, ідзе рост раку шчытападобнай залозы. Вядзецца аздараўленне дзяцей: 837 тысяч іх прайшлі аздараўленне.

**— Ігар Барысавіч, на завяршэнне — "рэкламная паўза". Як вы ставіцеся да тэлерэкламы на медыцынскія тэмы? Ці ёсць ад яе якая-небудзь карысць? Глядзець і чуць тое, што гаворыцца, бясконца паўтараецца на экране — часта нясмачна і агідна. Уражанне сапраўды такое, што ў нас няма аніякіх іншых захворванняў, акрамя карыесу зубоў, не кажучы ўжо пра памперсы, тампексы і многае іншае.**

— Я катэгарычна супраць рэкламы медпрэпаратаў. Я за рэкламу здаровага ладу жыцця. Замест усяго таго, пра што вы кажаце, хай бы рэкламаваліся лыжы, канькі, веласіпед, тэнісныя ракеткі...

**— Як вы ставіцеся да таго, каб у кожнага з нас быў свой сямейны доктар? За ім можна было б замацаваць, напрыклад, адзін дом, 100 сем'яў, ён бы лячыў іх, сачыў за станам здароўя цягам гадоў, быў бы сябрам і дарадцам сям'і...**

— За гэтай справай — будучыня. Мы адкрылі курсы падрыхтоўкі ўрачоў агульнай практыкі ў інстытуце ўдасканалення. 122 сямейныя ўрачы атрымоўваюць дыпломы ўжо сёлета. Мяняем сістэму фінансавання, аплаты працы. Адным словам, працуем у гэтым кірунку.

**— Дык што, Ігар Барысавіч, будзем жыць? Перапаўзуць беларусы ў трэцяе тысячагоддзе ці адкінуць ногі на яго парозе?**

— Беларусы не поўзалі ніколі і поўзаць не будуць. Як казаў паэт, жыў беларус і будзе жыць! Я з аптымізмам гляджу ў будучыню. У нашага народа яна ёсць. Я лічу, што на парозе трэцяга тысячагоддзя мы павінны пераасэнсаваць сваё прызначэнне ў гэтым свеце. Мы павінны зразумець, што ні доктар не дасць нам здароўя, ні Прэзідэнт, хоць, вядома ж, дзяржава павінна, абавязана ствараць умовы для прыстойнага жыцця сваіх грамадзян. Мы самі павінны змагацца за сваё здароўе і выбіраць паміж пляшкай гарэлкі і здаровым ладам жыцця. Сёння гэта, на жаль, вельмі актуальна, мо як ніколі раней. Цвярозы лад жыцця — здаровы лад. І для чалавека, і для сям'і, і для калектыву, і для краіны наогул.

**Гутарыла Марыя МІХАЙЛАВА**

ВІНШУЕМ!

# Кастусю ЦВІРКУ — 65



***Свaё 65-годдзе Кастусь Цвірка сустракае ў росквіце жыццёвых і творчых сіл. Нарадзіўся ў вёсцы Зялёная Дуброва цяперашняга Старадарожскага раёна. Скончыў аддзяленне беларускай мовы і літаратуры філалагічнага факультэта беларускага дзяржаўнага універсітэта, настаўнічаў на Капыльшчыне, быў літаратурным супрацоўнікам колішняй раённай газеты "Рудзенская праўда", рэдактарам на рэспубліканскім радыё, старшым метадыстам рэспубліканскага Дома народнай творчасці, старшым інспектарам Упраўлення па распаўсюджванні друку Міністэрства сувязі БССР. Пасля заканчэння ў 1972 годзе аспірантуры пры Інстытуце мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору АН БССР абараніў кандыдацкую дысертацыю і працаваў навуковым супрацоўнікам гэтай установы. З 1981 года — старшы рэдактар выдавецтва "Юнацтва", з 1984-га — рэдактар аддзела паэзіі часопіса "Полымя". Цяпер — прэзідэнт Міжнароднага фонду "Беларускі кнігазбор".***

***Кастусь Цвірка — аўтар кніг паэзіі "Такія сэрцы ў нас", "Бягуць раўчукі", "Чарназём", "Каласы", "Сцежка дадому", "Зялёная Дуброва", "Лодка долі тваёй" і іншых. Выдаў шэраг зборнікаў вершаў і казак для дзяцей. Шырокі водгалас атрымалі мастацкія нарысы К. Цвіркі, звязаныя з літаратурнымі мясцінамі Беларусі — "Дарога ў сто год", "Той курган векавечны", "Лісце забытых алеяў", манаграфія "Слова пра Сыракомлю", даследчыцкія працы па фальклоры.***

***Віншуем Канстанціна Аляксеевіча з юбілеем! Жадаем яшчэ доўгіх год жыцця Вам, нязменных творчых поспехаў!***

# Вяртанне літаратуры

Калі паводле прац нашых літаратуразнаўцаў знаёмішся з беларускай літаратурай XIX стагоддзя, міжволі адзначаеш яе незвычайную беднасць у параўнанні з літаратурамі суседніх народаў. Няўжо і праўда такая ўжо "сціпленькая" наша літаратура аднаго з важнейшых перыядаў у гісторыі беларускага народа? Няўжо Беларусь, якая некалі несла святло культуры ўсяму ўсходняму славянству, якая дала чалавецтву такіх волатаў Асветы, як Францішак Скарына, Сымон Будны, Мікола Гусоўскі, Леў Сапега, Сімяон Полацкі, раптам анямела, перастала нараджаць вартыя яе працавітага і мужнага народа талентаў? Ды вядома ж — не! Проста мы самі з лёгкасцю незвычайнай адлучылі ад уласнай культуры, ад літаратуры самых выдатных сыноў, яе гонар і славу. Адлучылі толькі за тое, што яны вымушаны былі пісаць свае творы на польскай мове. Але ж гэта была мова тагачаснага пісьменства і справаводства Беларусі. Якраз на ёй і стваралася ў сваёй аснове беларуская літаратура XIX стагоддзя, асабліва ў першай яго палове. Тое ж трэба сказаць і пра рускамоўных пісьменнікаў Беларусі другой паловы XIX стагоддзя, калі дзяржаўнай мовай зрабілася руская мова.

Штучна выключыўшы іншамоўную творчасць пісьменнікаў Беларусі з тагачаснага літаратурнага працэсу, гісторыкі-літаратуразнаўцы аб'явілі адзінымі прадстаўнікамі беларускай літаратуры толькі тых пісьменнікаў, што пісалі па-беларуску. Вядома, іх, літаратуразнаўцаў, трэба зразумець: ва ўмовах, калі беларускі народ цярпеў нацыянальны прыгнёт чужаземцаў, як усходніх, так і заходніх, калі нацыянальная свядомасць беларуса была зведзена да нуля, патрэбна было ў першую чаргу паказаць самабытнасць яго культуры, адметнасць і самастойнасць яго мовы, інакш кажучы, трэба было сцвердзіць саму беларускую нацыю, вывесці яе на ўласную дарогу.

Сёння беларус выйшаў на гэтую дарогу, заняў, хай, можа, і з пэўнымі агаворкамі, "свой пачэсны пасад між народамі", займеў сваю, прызнаную ў свеце дзяржаўнасць. Вядома, гэта не азначае, што мы ўжо можам ставіць кропку ў сваім самапазнанні і сцвярджанні. Літаратура ніколі не перастане сцвярджаць і ўмацоўваць нацыю. Але, атрымаўшы сваю дзяржаўнасць, мы ўжо можам і павінны па-гаспадарску агледзець усю нашу немалую спадчыну, вярнуць у лона нашай літаратуры імёны тых іншамоўных пісьменнікаў Беларусі, якія былі з ёю звязаны не толькі паходжаннем, але і сваёй творчасцю, прымалі ўдзел у літаратурным працэсе Беларусі. Хіба ж можна ўявіць развіццё беларускай літаратуры без польскамоўнай творчасці Адама Міцкевіча, Тамаша Зана, Яна Чачота, Ігната Ходзькі, Яна Баршчэўскага, Тадэвуша Лады-Заблоцкага, Рамуальда Падбярэзскага, Уладзіслава Сыракомлі, Адама Плуга, без рускамоўных пісьменнікаў беларусаў Якуба Брайцава, Паўла Шпілеўскага, Станіслава Акрэйца і іншых, якія раскрывалі перад светам жыццё беларуса свайго часу, малявалі жывую гісторыю нашай Бацькаўшчыны, праслаўлялі яе ў сваіх вершах, паэмах, раманах, драмах?

Вярнуць у родную літаратуру важнейшыя творы разнамоўных пісьменнікаў Беларусі — адна з задач, якую паставіла перад сабой выдавецтва "Беларускі кнігазбор". Гэта ж — кроўныя дзеці Беларусі, гэта, як казаў Вацлаў Ластоўскі ў дачыненні да самых славутых з іх — Фёдара Дастаеўскага і Адама Міцкевіча, — "слава крыўская (г. зн. беларуская. — **К. Ц.**) нацыянальнага генія".

Выдавецтва заклікае ўсіх прыняць удзел у падрыхтоўцы тамоў "Беларускага кнігазбору". Асабіста я, апрача выбраных твораў Адама Міцкевіча ў дзвюх кнігах, узяўся рыхтаваць аднатомнік зусім забытай, але вельмі цікавай нашай пісьменніцы Габрыэлі Пузыны (1815—1869).

Прадстаўніца заможнай беларускай шляхты з сям'і Адама Гюнтара і Аляксандры Тызенгаўз, жыла яна ў бацькоўскім маёнтку Дабраўляны Свянцянскага павета (цяпер — Смаргонскі раён) і ў Вільні. Выйшаўшы ў 1851 годзе замуж за Тадэвуша Пузыну, яна стала гаспадыняй маёнтка Гарадзілаў Ашмянскага павета (цяпер — Маладзечанскі раён). У гэтых двух маёнтках частымі гасцямі былі славутыя пісьменнікі і дзеячы культуры Ігнат Ходзька, Уладзіслаў Сыракомля, Станіслаў Манюшка, піяністка Марыя Шыманоўская, мастакі Ян Дамель, Ян Рустэм, вучоны Андрэй Снядэцкі, паэт Тамаш Зан. Сустрэчы з такімі славутасцямі схілялі да літаратурнай творчасці і Габрыэлю Пузыну. Захапіўшыся паэзіяй свайго сучасніка Адама Міцкевіча, яна ў 1842 годзе ў знак павагі да паэта-выгнанніка і, ведаючы яго тугу па радзіме, паслала яму ў Парыж бутэльку вады з Нёмана, кветкі з родных палёў і напісаны спецыяльна верш "Да Адама Міцкевіча". Габрыэля Пузына — аўтар зборнікаў паэзіі "У імя Бога" (1843), "Далей у свет!" (1845), кніг "Дзеці літоўскія, іх слоўкі, адказы, назіранні" (1847), "Малыя, але праўдзівыя апавяданні" (1857), зборніка драматычных твораў "Аматарскі тэатр" (1861) і інш. У яе творах выдатна адбілася жыццё тагачаснага беларускага грамадства, як вышэйшых яго слаёў, так і сялянства, да якога яна ставілася са шчырай павагай і спагадай.

Вялікую цікавасць маюць для нас успаміны Габрыэлі Пузыны "У Вільні і літоўскіх маёнтках". Яны як бы вяртаюць нас у адшумелае XIX стагоддзе, у атмасферу таго часу, перад намі ўстаюць жывыя вобразы зніклай эпохі, убачаныя вачыма чулай і разумнай жанчыны.

Тут даецца ўрывак аднаго з раздзелаў кнігі Габрыэлі Пузыны ў маім перакладзе з польскай мовы.

**Кастусь ЦВІРКА**

СПАДЧЫНА

Габрыэля ПУЗЫНА

# У Вільні і ў літоўскіх маёнтках

## УСПАМІНЫ З 1815—1843 гадоў

Памятная дата! Яна адбілася глыбока ў сэрцах, у душах, у памяці асабліва тых, хто вітаў яе як новую эру, а цяпер успамінае як узлёт духу, як абуджэнне з летаргічнага сну, абуджэнне дзеля таго, каб ізноў заснуць на трыццаць гадоў!..

Вясной гэтага ж года ўбачылі мы першую польскую манету, на якой была адбіта побач з Арлом і Пагоня. Была гэта простая дзесятка, але віталі мы яе са слязамі на вачах, цалуючы, як рэліквію, бо з яе дапамогай былі вернуты ўдовін грош, шлюбны абручальны пярсцёнак і сімвал працы — напарстак швачак.

Пад знакам дзесяткі, пад яе сімвалам абуджаўся грамадскі рух. У кожным маёнтку збіралі сялян, заклікаючы іх да паўстання. У кузнях выкоўваліся пікі. У салонах рабіліся корпі[1] і нідзе не драмалі. У Свянцянах устанавілася наша ўлада. У Вілейскім павеце Станіслаў Радзішэўскі, у Ашмянскім Парфіры Важынскі, становячыся на чале паўстання, збіралі добраахвотнікаў. Караль Прэздзецкі, забыўшыся на свае даўнія раны з былых баявых паходаў, апрануў вайсковы мундзір і пачаў збірацца ў Ашмяну, дзе яго намерыліся абвясціць галавою. Імкнучыся не засмуціць жонку, якую нельга было браць з сабою, ён сказаў ёй, што яго чакае цывільная служба, і выслаў яе ў Дабраўляны. Адным сакавіцкім вечарам і завітала да нас Карнелія. Дагэтуль я ніколі не бачыла ў яе таких спалоханых вачэй. Завітала яна разам з паняй Мікуловіч дому Бакшанскіх, жонкай прыдворнага лекара са Смаргоні. Яна пад сакрэтам расказала на вуха кожнай з нас усю праўду: пана палкоўніка прызначылі на чале павета як адзінага, хто добра ведаў вайсковую тактыку, і гэтае прызначэнне было сапраўднай прычынай выезду пані графіні. Хоць муж і заспакойваў яе перад ад'ездам, пачцівая пані Карнелія сэрцам чула, што яе падманваюць, і круцячыся з непакоем у коле здагадак, па разоў сто на дзень пыталася у нас: "Як вы думаеце, ці будзе мір? Ці не будзе крыві?" Але не знайшоўшы ў нас заспакоенасці, дадавала як бы ў адрас самой сабе: "Сам не вытрымае! Ён пойдзе! Бачыла: калі адзеў мундзір, як свяціліся яго вочы..." І, паніжаючы голас: шаптала: "...яго нічога не спыніць, ён пойдзе". "Ці пойдзе?" — пыталася раптам. — Ён казаў мне, што будзе цывільным, але я яму не веру". І бедная жанчына задумвалася, уздыхала і засынала з трывогаю, каб, прачнуўшыся, пытацца пра тое ж самае. Трэба было хаваць ад яе весткі, якія градам сыпаліся адусюль, прытым не ўсе былі вясёлыя, бо ў канцы красавіка заявілася расійскае войска.

У Смаргонях уланы, а ў Ашмяне чаркесы, прысланыя Храпавіцкім, выганялі з дамоў местачкоўцаў і сонных сялян. Ад Ашмяны да Дубаўлян міляў сем, але да нас далятаў адтуль глухі гук, падобны на далёкія грымоты. А неўзабаве прыйшлі страшныя весткі пра забойствы, рабункі, пра тое, як выганялі з касцёлаў і з-пад касцёлаў жанчын, дзяцей і старых, якія там хаваліся, як засеклі доктара Закрэўскага і г.д. Ні адзін ашмянскі эпізод нагадаў асаду Іерусаліма. Напрыклад, у старога, які прасіў не забіваць унука, кіргіз стрэліў з такімі словамі: "Ты честный, старичок!". І яшчэ: у гаспадара сям'і, які выходзіў са сховы з толькі што народжаным дзіцем на руках, адабралі немаўля, каб лаўчэй было страляць у яго нага бацьку. І гэта ўсё адбывалася на вачах слабой яшчэ ад родаў жонкі. І інш. На дарогах казакі нападалі на падарожных, рабавалі жанчын, выкручваючы ім пальцы, каб адабраць пярсцёнкі, і кідаючы іх трупы ва ўзбочныя канавы. Некалькі дзесяткаў такіх ахвяр, якіх трэба было пахаваць, узяла пад сваю адказнасць жыдоўка, крамніца Гана, дачка якой Баська і сёння трымае карчму ў Ашмяне — тое, што ў яе ўсё ідзе добра, трэба прыпісаць галоўным чынам Божаму благаславенню за дабрыню і самаахвярнасць яе маткі.

Тым часам палкоўнік Прэздзецкі, пакідаючы сваю прыгожую Смаргонь помсліваму і хіжаму ворагу, мусіў уцякаць бакавымі дарогамі, каб дабрацца да Жмудзі, дзе знаходзіўся корпус Дэмбінскага. Праз пасыльных палкоўнік наладзіў сустрэчу з маім бацькам. Ва ўмоўлены час бацька чакаў яго на беразе Свірскага возера. Там, прысеўшы на камені, сябры і кузіны развіталіся, пасля чаго ніколі ўжо не ўбачыліся! Пра гэтае спатканне з палкоўнікам нават не ведала яго жонка, якой нельга было перадаць і развітальныя слова мужа. Але пасля яго знікнення яна не магла быць у бяспецы: даходзілі звесткі, што ў нас збіраюцца яе шукаць, каб даведацца ад яе пра мужа і помсціць жанчыне за яго. Было вырашана адвезці яе адсюль далей. Не лёгка было схіліць бедную жанчыну на гэты пераезд, бо тут яна была, як ёй здавалася, бліжэй да свайго мужа. Але ўрэшце яна згадзілася і ў апошнія дні красавіка выехала ў Дзісненскі павет, у маёнтак маёй маткі — Ігуменава. Адвозіў яе туды наш добры Бахматовіч, які заўсёды ахвотна згаджаўся паслужыць нам у такіх выпадках.

І добра зрабілі, бо праз дзве ночы з усходам сонца наш двор і сад з усіх бакоў абляжыла царская конніца, а маёр з двума афіцэрамі і атрадам уланаў (іх было дзвесце чалавек) уязджаў на дзядзінец, каб схапіць жонку палкоўніка Прэздзецкага. Я моцна спала ў маміным пакоі, калі ўвайшла сюды Іда з гэтай весткай. Яна паведала яе не адразу, каб не вельмі нас палохаць. Спачатку села пры ложку. Калі я запыталася, чаму яна гэтак рана ўстала, Іда адказала, што ў нас госці і што яны п'юць у таты чай. І праўда — пан маёр трымаў сябе прыстойна. Калі бацька сказаў, што пані графіня Прэздзецкая і праўда была тут, але выехала ўжо адсюль, маёр не захацеў надта шукаць яе па ўсіх пакоях — агледзеў толькі пўніцу і частку дома. Уланы тым часам стаялі на сваіх месцах у садзе і за садам, пільнуючы, каб ніхто не ўцякаў. Яны думалі нават, што ў Дабраўлянах хаваецца сам палкоўнік Прэздзецкі. Так што спакойны дагэтуль наш маёнтак стаў тэатрам вайны. Пасля ад'езду атрада кожны з дворных спяшаўся расказаць пра сваю прыгоду, бо нават той, хто добра такі быў напалохаўся, хацеў цяпер паказаць сябе героем...

*(Працяг на стар. 14—15)*

**ЛіМ ЧАСАПІС**

## Свята мастацтва



**Выстава твораў народнага мастака Беларусі, заслужанага дзеяча мастацтваў, лаўрэата Дзяржаўнай прэміі, прафесара Васіля Шаранговіча ў Мінску, прымеркаваная да яго 60-годдзя, безумоўна, стала значнай падзеяй у культурным жыцці краіны. І гэта вельмі натуральна, бо ён — народны не толькі па ганаровым званні, а па ўсёй сутнасці сваёй творчасці, свайго жыцця. У маім асабістым уяўленні (спадзяюся, што яго падзяляюць многія) гэта мастак, які зрабіў беларускую літаратурную класіку — класікай выяўленчага мастацтва. Дарэчы, не толькі беларускую, бо, скажам, за акварэльныя ілюстрацыі да паэмы Адама Міцкевіча "Пан Тадэвуш" яму прысвоена званне "Заслужаны дзеяч культуры Польшчы". Між іншым, у маёй хатняй бібліятэцы цяпер ёсць гэты шыкоўны фаліянт, выдадзены Беларускім фондам культуры па заказе Дзяржаўнага камітэта па друку на польскай, беларускай і рускай мовах да 200-годдзя Адама Міцкевіча. Проста не верыцца, што ілюстрацыі акварэльныя, а не напісаны алейнымі фарбамі...**

**Шчыра кажучы, асаблівай надзеі на тое, што Васіль Пятровіч адразу ж пасля юбілейнай, мінскай выставы пажадае мець яе працяг у Светлагорску, у мяне не было. Але ён пагадзіўся, — ды так, быццам даўно чакаў гэтай прапановы. І пачаліся звычайныя тэлефонныя ўдакладненні, у час якіх праяўляліся многія яго якасці: шчырасць, абавязковасць, сціпласць, бескарыслівасць, адданасць адраджэнню беларускай духоўнасці...**

**140 твораў мастака было на юбілейнай выставе. Мы ж змаглі паказаць толькі 42. Мастак сам дэталёва вызначыў праект экспазіцыі і прыехаў у Светлагорск на ўрачыстае адкрыццё выставы. Ды не адзін, а з намеснікам міністра культуры Беларусі В. Гедройцам, намеснікам старшыні праўлення Саюза мастакоў Беларусі У. Басалыгам, з жонкай Галінай Андрэеўнай і братам, выкладчыкам Акадэміі мастацтваў, Канстанцінам.**

**Выстава ж атрымалася цэласнай і пры ўсёй сваёй графічнай прыналежнасці — разнажанравай. Гэтаму, як мага лепш, спрыяў тэматычна-цыклавы характар экспазіцыі: ілюстрацыі да паэм Я. Купалы, да кнігі Я. Коласа "З майго летапісу", да паэмы А. Міцкевіча "Пан Тадэвуш", серыі графічных работ "Думы аб зямлі" ("Дзе крыўда адвечная спела"), "Мацярынская трывога", "Памяці вогненных вёсак". Пра адметнасць яго таленту і майстэрства сказана і напісана столькі, што адзначыць нешта новае, незаўважанае, вельмі складана. Амаль усе ілюстрацыі Васіля Пятровіча — самастойныя творы выяўленчага мастацтва. Ён ілюструе не толькі і не столькі тое, што знайшло літаратурнае ўвасабленне, а канкрэтызуе, стварае яшчэ адну, уласную мастацкую рэальнасць. Найвыдатнейшы майстар малюнка В. Шаранговіч пашырае і магчымасць акварэлі. А колькі непераўзыдзенага майстэрства адчуваецца ў партрэтах Ф. Скарыны, Я. Купалы, Я. Коласа, А. Міцкевіча.**

**Сустрэча з вялікім мастацтвам — заўжды свята. Таму святочны настрой панаваў у Светлагорскай карціннай галерэі "Традыцыя" імя Г. Пранішнікава. Атрымаўся натуральны працяг юбілейных урачыстасцей. І мне хочацца спадзявацца, што па душэўнай шчырасці ён нікольні не саступаў таму, што адбывалася ў Мінску.**

**Да Васіля Пятровіча ад імя светлагорцаў звярнуўся старшыня гарадскога выканаўчага камітэта Б. Пірштук. Свой верш, напісаны пад уражаннем ад карціны В. Шаранговіча "Пасля сходу", прачытала Соф'я Шах. Цудоўна спявала беларускія песні Вольга Цярэшчанка, якая спецыяльна прыехала з гэтай нагоды ў наш горад з Гомеля.**

**Раніцай наступнага дня гасцей прымаў у гарвыканкаме яго старшыня Б. Пірштук. Яны зноў завіталі ў карцінную галерэю, дзе зрабілі добразычлівы аналіз твораў трох светлагорскіх мастакоў: Міхаіла Пранішнікава, Барыса Пяршая, Генадзя Лазарэнкі.**

**— У маім жыцці было нямала выстаў. Кожная з іх па-свойму памятная. Але гэтая, светлагорская, асабліва ўзрушыла тым, з якой шчырасцю паставіліся да яе і да мяне, — сказаў на развітанне Васіль Шаранговіч.**

**Ізяслаў КАТЛЯРОЎ,**
*г. Светлагорск*

*На здымку: на адкрыцці выставы.*
*Фота В. СТРЫБУКА*

# АНТЭК МЛОДЫ

*(Працяг. Пачатак на стар. 9)*

О, там, зразумела ж, было жыццё сапраўднае! Там не было і ценю дзедавых перагародак з фанеры, штоператваралі пакой у каморы, дзе ўсё тырчэла, валілася, падвязвалася дротам ці падпіралася стосам кніг. Аднойчы дзед нават змайстраваў нейкія груваскія "палаці", на якія нельга было ўзлезці, як нельга было і зайсці пад іх, не сагнуўшыся ў тры пагібелі. Тут старадаўняе крэсла без адной нагі, крыва нахіліўшыся ўбок, усё роўна як на каленях у сябе ўтрымлівала падлакотнікамі скрыню з бляшанкамі, а кут сырой сцяны слізка блішчэў, колькі б ні палілі. І тут, канешне, толькі дзед мог цэлымі днямі, стоячы ля падаконніка, маляваць жоўтую фарбаю на сіняй блясе шыльду з нікім ніколі не чутай, незразумелай, проста дурной нейкай назвай "Консервлес". Той "Консервлес" пасля быў як знарок прыбіты да сцяны дома, і выходзіла, што гэта так іхні дом завецца, а не сутарэнне пад ім, куды прывезлі сталы, лічыльнікі і бездань папак...

...Яны глядзелі на чужыя вокны па дарозе ў лазню. Надзеўшы на сябе ўсё, што было можна, дзед рухаўся наперадзе вялікім мяккім камяком, быццам набіты ватаю, а яны цягнуліся ззаду, ужо загадзя сароМеючыся яго пры сустрэчы са знаёмымі.

Пішчаў пад абцасамі цвёрда ўбіты на вузкім тратуары снег. Рэдкія лямпачкі злёгку пагойдваліся ўверсе на слупах. Настылымі свежымі дошкамі патыхала ад новага плота ў канцы вуліцы, мерзлі ў кішэнях рукі, а ў глыбіні ўтульных, з зайздрасцю адзначаных акон ужо было разліта цёплае густое святло, і там віселі маленькія купалы малінавых або зялёных абажураў.

І тут раптам дзед, быццам ледзь утрымліваючыся на нагах, рабіў свой нечаканы крок-выпад у бок людзей, што ішлі, як ён быў упэўнены, ужо з лазні, і, узмахнуўшы рукою, гулка крычаў:

— Ну як, завозна сёння там?

Людзі адхістваліся, потым нешта адказвалі, а яны ўжо трымалі яго за рукавы:

— Не мог па-людску запытацца?..

— Не мог! Не мог, вашы вялікасці! — ускіпаў зараз жа дзед, строячы грымасы і ледзь не прытанцоўваючы са сваім вандзэлкам. — Ну навучыце вашага слугу, ну навучыце! І каго вы толькі з сябе корчыце!..

Аж да гэтай пары ўсё бачыцца так выразна, быццам адбывалася ўчора: бачна нават, як злосна моршчыцца тонкі гарбаты дзедаў нос, як разбягаюцца маршчыны ад маленькіх вачэй пад белымі бровамі. Але праз хвіліну гэта адыходзіць, растаючы ў часе, саступаючы месца іншаму, — і, выйшаўшы з сіняватага паўзмроку кухні, дзед прыпыняецца ў шырокай косай паласе вечаровага сонца ў пакоі, узняўшы бровы з падкрэсленым неўразуменнем: "Гэты Барыска з нашага двара... Гляджу — ён напалову з хварткі ўсунуўся сюды і цягнецца да посуду на падваконніку..." — "А ты?" — "Я? Плюнуў і пайшоў, чорт яго ведае... Дык ён тады: "А, дзядзя Міша, добры дзень!.."

Але і гэта растае, прападае, і думаецца пра тое, як аднаго дня ён, Юрык, сядзеў, высільваючыся нарэшце неяк скончыць свае ўрокі, а за акном ішоў той дождж, што нудзіў ужо з тыдзень, не перастаючы, і на сценах камяніцы ў двары насупраць слаі старой фарбы праступілі бруднымі плямамі з разводамі, нібы камяніца тая маскіравалася ад бамбёжкі. Так, ён глядзеў на гэта, а з кухні тхала газаю, і дзед, які вярнуўся тады са сваёй першай, мабыць, і ўжо апошняй вандроўкі на поўдзень, у дом адпачынку, раптам паклаў яму на стол вялікую прыгожую кнігу пра Ціля Уленшпігеля і сам сеў побач. І не кніга ў той момант была галоўным, не-не, а тое, як яны з дзедам удваіх сядзелі моўчкі за сталом, і той, гледзячы перад сабою ў акно, злёгку ківаў круглай блішчастай галавою і паціху ўсміхаўся, крыху разгублены, быццам чалавек, які да ўсяго знаёмага павінен быў цяпер прывыкаць нанава.

Тыя частыя дзедавы адыходы на вачах усіх хатніх у нейкае асобнае сваё жыццё былі ў чымсьці і крыху сарамлівымі. Мо дзед не хацеў, каб гэта заўважалі? Сутыкнуўшыся з імі ў вузкім калідорчыку, ён рабіў хуценькую ўсмешку пад белымі вусамі, нягучна трубіў сваё "пум-пуру" і праходзіў, саступіўшы асцярожна, акуратна, і адразу ж — твар збянтэжаны і ў той жа час незадаволены тым, што збянтэжанасць гэта прыкметная...

Цяпер ужо шмат пра што застаецца толькі гадаць, думаў Карчэўскі. Можа, дзеду было няёмка ад свайго жадання проста адпачыць, ад усёй той стомы, што назбіралася ў ім за нядаўнія ваенныя гады. Стомы, якая цяпер, калі ўсім так хацелася яркасці і моцы новага жыцця, цягнула яго да старэчай прыстані зацішку і адасаблення. Можа, яму здавалася, што ён не мае яшчэ права на такую прыстань. Але чаму? Усе ў сям'і, хаця і нейкім цудам, аднак жа засталіся жывымі. А астатняе — што ж астатняе? — жывыя, значыцца, і надалей будуць неяк жыць.

І неяк жылі.

А потым надышоў час, калі дзед ужо амаль перастаў прыкмячацца. Ён не ўзнікаў болей нават як дзівацкая мішэнь для нязлосных кпінаў, якія шпурляліся ў яго па звычцы.

Ужо іншымі сталі і горад, і іх дом. О, усё было зусім, зусім іншае! І гарачым летам, калі сонца хавалася за вершаліны высокіх таполяў, яны кавалеравалі за знаёмымі дзяўчынкамі, стараючыся выглядаць бывалымі, ужо ўсё зведаўшымі людзьмі, і танцавалі з імі ў дварах.

Знаёмыя аж да пакут і сораму, адзіныя на свеце белыя тапкі даверліва і асцярожна шархалі так блізка ад начышчаных чаравікаў або старанна вытрымлівалі паўзу ў канцы. А то Коля Піляцкі познім цёплым вечарам граў на акардэоне і падпяваў ціхім баском — святло з расчыненага акна падала на перламутр клавішаў і на цяжкія галовы вяргіняў, павявала першымі, нясмелымі духамі і папяросным ветлівым дымком. Усё поўнілася гарачым юнацкім хваляваннем і ненатольнай прагаю штодзённай, штохвіліннай навізны — футбол, трафейнае кіно, джаз Эдзі Рознера...

А потым, праз адно ці два леты, нахлынула ўжо ўсё тое, што п'яніла, чым жылося тады з радаснай прагаю, узахлёб і чаму былі гатовыя аддавацца, не шкадуючы сябе і нічога не помнячы. Пранізлівы халадок шчаслівай рызыкі, аскомісты смак патаемнай, забароненай удачы, — усё ўпершыню і востра, ажно хваравіта, да дрыжыкаў і слабасці ў нагах, — зімой і летам. Матавыя міндаліны вечаровых ліхтароў праз грывозныя слёзы і боязь чагосьці не паспець, не ўхапіць і не паспрабаваць... І вось аднойчы ён прыйшоў дадому ўжо на світанні другога дня. Злёгку хістала, кружылася галава, цела не важыла ніколькі, скуру на твары, асабліва ля вачэй, суха сцягнула. Ціхенька адчыняючы дзверы сваім ключом, амаль не верачы, што ўжо нарэшце дома, ён праклінаў сябе і быў гатовы ледзь не падлашчвацца да дзвярэй, каб яны не рыпелі і каб за імі ніхто яго не сустрэў.

Шэрае святло стаяла ў акне і асвятляла пакой невыразна і цьмяна. Начныя цені неахвотна і ленавата, толькі таму, што ён увайшоў, адсунуліся да сцяны, кутоў і зноў ляглі там у глыбокай дрымоце. Пакой выглядаў меншым за ўчарашні. Ён здзівіўся гэтаму, не ведаючы яшчэ, што так могуць выглядаць звыклыя месцы, калі ў іх вяртаешся, і што справа тут неабавязкова ў часе тваёй адсутнасці, а можа, у тым, што з табою было і якім ты быў.

Рыпнула ззаду дошка ў падлозе: дзед усміхаўся, як заўсёды, крыху збянтэжана, але ў ягоных вачах можна было разгледзець і добрую хітраватасць, падбадзёрванне, калі ён колькі разоў паківаў, нібы кажучы: "Так, што тут зробіш..."

— Ат, усё бывае, — у той жа момант сказаў дзед з нейкай нават палёгкаю, можа, адчуваючы, што гаварыць пра гэта яму болей не трэба будзе. — Кажуць жа людзі: ні ад чога ў жыцці не заракайся — ні ад торбы, ні ад турмы, ні ад жонкі. Ну, ідзі ж снедаць, — і першы пайшоў у кухню, склаўшы рукі за спіною быццам у задумлівай прагулцы.

# У Вільні і ў літоўскіх маёнтках

*(Працяг. Пачатак на стар. 13)*

У гэты самы час казацкі палкоўнік Банцэнтхаль рабаваў паветы, гойсаючы ад аднаго да другога на чале арэнбургскай міліцыі, што складалася з дзікіх: татараў, кабардзінцаў, кабыляў[2], чачэнцаў, манголаў і нават кітайцаў. Ён зруйнаваў ужо ў Вілейскім павеце Ілью Радзішэўскіх, у нашым павеце абрабаваў Лынтупы, вёску Бучынскага, які з хворай жонкай быў якраз у Вільні (казакі ўзрывалі там паркет, шукаючы зброю і грошы). У Шэметаве ён задаволіўся тым, што пастраляў ланяў у парку. Загадаўшы зрабіць сабе з адной лані смажаніну, другую пакінуў у маёнтку — "для пана, калі ён вернецца з лесу". На трэці дзень Банцэнтхаль уязджаў ужо на дзядзінец Дабраўлян. Не ведаючы, чым заняцца, ён выслаў адсюль свайго ад'ютанта ў Вільню, каб атрымаць там якія весткі і загады. Тым часам трэба было дзвесце дзікіх людзей пракарміць. Палкоўнік шчасліва ўладкаваўся ў нашым маёнтку, сам з дзесяццю афіцэрамі заняў увесь паверх гасцёўні. Казаччына ж тулілася па прыгуменні, з'ядаючы кожны дзень па некалькі валоў... Так што калі праз тыдзень такога частавання пачалі правяраць кладоўкі, то выявілася, што не было чаго даваць ужо нашай службе, а коні першы раз асталіся тут без аўса аж да новага ўраджаю. Быў гэта як бы "дадатак" да ссыпных складоў, куды трэба было звозіць збожжа, да сухароў і палатна, якіх ад самай вясны вымагала ў маёнтках войска.

Перад ганкам, у адкосе, стаяла ў нас гармата з порахам. З яе ўдзень і ўночы страляла варта. А за панам палкоўнікам, куды б ён ні ішоў, след у след ступаў жаўнер у белым кіцелі, з пісталетам на поясе. Кожны дзень перад заходам сонца прыходзіў на наш дзядзінец увесь полк, каб памаліцца пад гукі барабана, і тады можна было наглядзецца на тыя жоўтыя, чорныя, плоскія, без аніякай думкі твары з малымі і косымі вачамі, у якіх спала душа і толькі блішчалі тыгрыныя жаданні, што стрымліваліся адной жалезнай дысцыплінай, такой, што нават ад'ютант пана палкоўніка жаліўся нашым панам: "Чаму гэта палкоўнік не дазваляе нам пагуляць?" Палкоўнік гэты быў француз...

Здавалася, страшны ўраган прайшоўся па краі, паруйнаваў дамы, павынішчаў цэлыя сем'і. Ніхто не чакаў такога сумнага канца. Тыя, што помнілі амністыю цара Аляксандра І пасля 1812 года, не думалі што Мікалай зробіць іначай. Але ж гэта была паўторная віна, і яна не магла астацца беспакараная. Да таго ж Мікалай быў чалавек жалезнай волі і жалезам, а не губкай, праводзіў па нас — каб сцерці, а не толькі пагладзіць. Незлічоныя сціжмы людзей ішлі ў Сібір, натоўпамі ўцякалі за мяжу, ніхто не чакаў літасці. Кожны, як мог, суцяшаў сябе, наведваючы турмы, гледзячы на выгнаннікаў і г.д.

Толькі ў Мінску дыхалася лягчэй, бо сам начальнік (г. зн. губернатар) з паблажлівасцю ставіўся да ўсіх людзей, спачуваў ім і, як мог, памагаў кожнаму. Гэта быў генерал Строганаў, пазнейшы куратар Маскоўскага універсітэта. Гэты высакародны чалавек, праўдзівы хрысціянін, зрабіўся сапраўдным бацькам насельнікаў Мінскай губерні, і яго да сённяшніх дзён успамінаюць людзі са слязамі ўдзячнасці, ужо ў другім пакаленні. Увесь год мы жылі ўспамінамі пра яго невычэрпную дабрыню, за якую яго можна параўнаць з імператарам Цітусам[3], бо гэтак жа, як і ён, ніводнага дня не пражыў марна. Кожны яго дзень быў пазначаны не адным, а некалькімі добрымі ўчынкамі... Ён з самага сэрца чэрпаў міласэрнасць да людзей, прыпісваючы яе загадам імператара, а сваю

I са здзіўленнем падумалася: як жа даўно людзі ведалі ўсё гэта, калі нават прыдумалі такую пагаворку. “А, дык яны, выходзіць, нібы загадзя дапушчалі гэта і ў выпадку са мною?.. Сам ты не ведаеш і не гадаеш, анічога не баішся, а хтосьці ўжо ведае ўсё, ведае...”

І вось, напэўна, у тую самую хвіліну, калі дзед падаўся на кухню, калі злёгку хіснуўся, паварочваючы на сагнутых у каленях, пакрыўленых нагах, — у тую самую хвіліну ён пазайздросціў яму.

Ён пазайздросціў таму, што дзед увесь гэты час спакойна тупаў тут, сярод хатняга, ціхага зараз, як маленькая бухтачка, жыцця, дзе ў дальнім куце за дзвярыма ваннай заўсёды вісіць, утульна і нявінна, бляклa-зялёная, цесная ўжо майка, а з левага боку — ручнік, што памятае твае рукі, твар і пакуль не трапіў яшчэ ў імклівы вір хатняга мыцця бялізны. Маці яшчэ не ўстала. Старая твая адзежа па-ранейшаму вісіць на вешалцы і чакае, што ты яе апранеш; абутак паслухмяна, даверліва стаіць унізе і таксама чакае.

Не, дзед не пакідаў гэтага цяпла са звыклымі пахамі іхняга жыцця дзеля ўсяго таго, дзе спачатку аж займае дух ад захаплення, а пасля — уніз, і дух быццам выходзіць з цябе, і застаюцца адно сорам і горыч. Ён не чапляўся за гэтае кола шчасця, што ўздымае толькі для таго, каб апусціць, не болей. Дзед, пэўна, нешта такое ведаў, што засцерагае...

“А не папярэдзіў”, — хацелася ўпікнуць яго. Верылася ў тую хвіліну, што ўдалося б засцерагчыся, калі б дзед падказаў.

Але ні папроку, ні крыўды чамусьці не было.

З боку лётнага поля чуўся магутны глухі гул, і шкло ў акне глуха гудзела. У небе белымі халоднымі клубамі паволі плылі велізарныя аблокі. Калі гул самалёта адкаціўся і аслабеў, Карчэўскі ўстаў і прачыніў акно. Ранак быў ціхі, амаль без ветру. Густа пахла веснавой цёплай сырасцю, і ўнізе, уздоўж асфальтавай сцежкі, можна было згледзець жменькі ўспоратай чарвякамі зямлі.

— Тата, я выйду пагуляю, добра?

Ён не заўважыў, як дачка прачнулася.

— Я буду там, ля выхада, дзе самалёты бачныя — ведаеш?

— Ведаю, — адказаў ён і нечакана зноў прыгадаў, з нейкім новым і вінаватым пачуццём, як тады, у няпэўным, шэрым ранішнім святле, азірнуўшыся на парозе пакоя, раптам згледзеў за спіною дзеда: там, у паўзмроку ўжо не начнога калідора, нячутна выбраўшыся з пячоры свайго, як і раней, захламленага, недарэчнага, вычварнага жытла, — там дзед стаяў адзеты. Значыцца, ён у тую ноч так і не клаўся, не распранаўся. Чакаў і разумеў. І быў напагатове... Эх, Антэк млоды, Антэк млоды!..

Ізноў раскацістa загрукатала за акном.

дабрыню — заслугам уласнай жонкі, якая, як ён расказваў, зрабіла яго добрым і лагодным. Маю матку так кранaлі розныя анекдоты пра Строганава, што для яе не было большай прыемнасці, як зноў і зноў слухаць іх. Увесь збор гэтых апавяданняў кожная з нас запісвала ў свае сшыткі, але і без гэтага ўсе тыя эпізоды захаваліся ў памяці...

Аднаго разу паліцыя прывяла да яго студэнта, у якога знайшла кнігу Міцкевіча, што было ў той час дзяржаўным злачынствам. Бедны хлопец стаяў разгублены і спалоханы, не ведаючы, як апраўдацца. “Дзе ты гэта ўзяў?” — папытаў губернатар нібы строгім тонам. — Дзе?” Студэнт маўчаў. “Дык я ведаю, дзе, — казаў сам губернатар, — ты знайшоў кнігу на вуліцы. Другі раз помні, што падымаць з зямлі такія рэчы не можна”. І ён кінуў кнігу ў агонь, што палаў у каміне...

*(З раздзела “1831 год”)*

[1]*Корпія, ці корпіі — вышчыпаныя са старой палатнянай тканіны ніткі, якія выкарыстоўвалі як перавязачны матэрыял, замест ваты.*

[2]*Кабыляў — этнонім не высветлены.*

[3]*Цітус — відавочна, маецца на ўвазе Ціт Флавій Веспасіян (39—81) — рымскі імператар.*

# Мікола ТРУХАН

20 сакавіка 1999 г. перастала біцца сэрца Мікалая Мікалаевіча Трухана — выдатнага дзеяча беларускай культуры.

Мікалай Мікалаевіч Трухан нарадзіўся 18 жніўня 1947 года ў г. Плешчаніцы Лагойскага раёна Мінскай вобласці. У 1969 годзе скончыў акцёрскае аддзяленне тэатральнага факультэта (майстэрня Дзмітрыя Арлова). З 1969 па 1971 г. — артыст Віцебскага драматычнага тэатра імя Я. Коласа. Пасля службы ў войску працаваў акцёрам у Белдзяржфілармоніі (1972—1973), у Дзяржаўным рускім драматычным тэатры БССР імя М. Горкага (1973), Краснаярскім ТЮГу (1973—1974). Пасля скanчэння Вышэйшых рэжысёрскіх курсаў у майстэрні Анатоля Эфраса — стажыроўка ў якасці рэжысёра ў Маскоўскім тэатры на Малой Броннай. Працаваў рэжысёрам-пастаноўшчыкам у тэатрах рэспублікі: у Гомельскім драматычным тэатры (1980—1984), у Магілёўскім абласным драматычным тэатры (1984—1985), у Дзяржаўным маладзёжным тэатры БССР (1985), у Брэсцкім абласным драматычным тэатры імя ЛКСМБ (1986—1987). З 1988 года — арганізатар і мастацкі кіраўнік тэатра “Дзе-Я?”.

З тэатрам “Дзе-Я?” звязаны лёс Мікалая Трухана з самага пачатку заснавання тэатра-студыі. Аддаючы яму свой багаты мастакоўскі талент, М. Трухан мог бы з упэўненасцю сказаць: “Тэатр — гэта маё жыццё”. Тое, што тэатр “Дзе-Я?” адбыўся, заваяваў айчыннага і замежнага гледача, набыў высокае прызнанне крытыкі, шматлікія прэміі, — яго першапачатковая заслуга.

Для рэжысёрскага таленту Мікалая Трухана былі ўласцівыя смеласць і неардынарнасць мастацкага мыслення. Дзякуючы глыбокаму пранікненню ў чалавечыя характары, філасофскаму асэнсаванню загадкі чалавечага быцця, пастаноўкі тэатра сталі з’явай беларускай культуры. Разам з тым для гэтых спектакляў характэрны мяккі лірызм і асаблівая сардэчнасць, тая “душэўная цнатлівасць”, якая адразу выяўляла ў спектаклях адметнасць менавіта беларускай сцэнаграфіі, якой, на жаль, не заўсёды стае апошнім часам нашай культуры.

Прынцыповая рыса не толькі творчасці, але і жыцця Міколы Трухана — адкрытая грамадзянская пазіцыя. Выяўлялася гэта не толькі ў спектаклях, але і ў агромністай асветніцкай і дабрачыннай дзейнасці. Ён з годнасцю прапагандаваў беларускае мастацтва за межамі рэспублікі (Шатландыя, Італія, Румынія, Англія, Літва, Латвія...), з’яўляўся ініцыятарам дабрачынных спектакляў для дзяцей-сірот і дзяцей-інвалідаў, асаблівую ўвагу аддаючы Чарнобыльскай зоне.

Мікола Трухан з’яўляўся не мастакомаднаасобнікам, а цудоўным педагогам, які шчодра дзяліўся сакрэтамі свайго акцёрскага і рэжысёрскага таленту. За шчырыя парады і ўвагу яму ўдзячны не адзін дзесятак акцёраў, многія з якіх, дзякуючы яго клопатам, знайшлі сваё месца на сцэне.

У сваёй творчасці Мікола Трухан імкнуўся да ідэй высокага гуманізму праз вяртанне свайму народу яго гістарычнай спадчыны. Марай Мікалая Мікалаевіча быў тэатр-храм, які стаў бы асяродкам сапраўднай духоўнасці, — адвечная мара вялікага мастакатворцы, мастака-грамадзяніна.



Памяць аб ім, справа яго заўсёды будзе жыць у нашым сэрцы, у нашай працы.

**Тэатр “Дзе-Я?”**

# На паўдарозе

Мікалай Трухан увайшоў у маё творчае жыццё нечакана. Вучань Д. Арлова — аднаго з апошніх магікан мхатаўскай школы на Беларусі, вярнуўшыся з далёкіх сібірскіх тэатральных абшараў на Радзіму, ён бадзяўся ад аднаго тэатра да другога, шукаючы творчага прытулку. Спыніўся ў ТЮГу. Паспрабаваў сябе і як акцёр, і як рэжысёр. Сыграў выдатныя ролі: Трыгорын (“Чайка” А. Чэхава), Варанятнікаў (“Чатыры кроплі” В. Розава), Вартаўнік (“На ўсіх адна бяда” П. Макаля) і іншыя. Разам з В. Баркоўскім садзейнічаў адкрыццю малой сцэны ў тэатры. Іх эксперыментальныя спектаклі на тэму дзекабрыстаў і па творы В. Распуціна “Апошні тэрмін” сталі глебай, на якой нарадзілася і знакамітая тюгаўская “Эдзіт Піяф” Л. Цімафеевай.

Прыйшоў поспех у гледача. Закулiссе стала яшчэ адной пляцоўкай для тагачаснага ТЮГа менавіта дзякуючы Мікалаю Трухану. Настойліваму чалавеку і непакорнаму творцу.

Цяжкія выпрабаванні выпалі М. Трухану пасля стажыроўкі ў Маскве пад кіраўніцтвам А. Эфраса. Не ўпісваўся ў “тэатральную палітру часу”. Быў вымушаны выйсці з “карпаратыўна-творчага тэатральнага асяроддзя”. Бясхлебіца. Днём гандляваў цвікамі. Увесь астатні час аддаваў рэжысёрскай рабоце ў стварэным ім тэатры-студыі. Студыі, якую ён стварыў пад уплывам рэжысёрскіх ідэй свайго другога настаўніка — Анатоля Эфраса. Цяжкі шлях да прызнання. Яно прыйшло да яго, на жаль, не на Радзіме — на Украіне, у Прыбалтыцы, Расіі, Англіі... Дзякуючы фэстывалям у Львове і Кіеве, Маскве і Чэлябінску, Вільні і Дзвінску, Эдэнбургу... Яго зразумелі не свае, а суседзі і далёкія суайчыннікі — Вайткус, Някрошус, Дэмарка...

З часам пацяпленне да яго творчых намаганняў з’явілася і на Беларусі. На базе трухаўскай студыі адкрыўся муніцыпальны тэатр — непадалёк ад МАЗа. Вымушана прызнаны, але не адкрыты па-сапраўднаму для ўсіх тэатр для рабочай моладзі “Дзе-Я?”. У абрэвіятуры гэтай назвы закладзена ўсё — мары, пакуты, прызнанне, асабістая неўладкаванасць у жыцці, боль за нацыянальнае мастацтва і многае іншае.

Калі-нікалі я сустракаў яго на вуліцах Мінска або на рэжысёрскіх тусоўках. Віталіся. Раней ішлі побач. Жыццё. Многа разоў збіраўся паглядзець увесь рэпертуар трухаўскага тэатра. Не атрымлівалася. Будзённасць...

Пазваніў Анатоль Сабалеўскі — непрыемная навіна для вас — памёр Мікола Трухан. Нечакана. Знайшлі праз некалькі дзён у маладзечанскім гатэлі. Апошні фестываль настойлівага сцвярджальніка нацыянальнай тэатральнай ідэі, мастацкага кіраўніка тэатра “Дзе-Я?”. Не паспеў Мастак дайсці да вяршыні, каб сарваць кветку эдэльвейс і падарыць яе людзям. Прабач за ўсіх нас. Не дапамаглі.

На зялёным полі нашай Бацькаўшчыны расце мноства кветак. Усе яны розныя. Але ёсць ва ўсіх іх тое адметнае, што ўпрыгожвае нашу мясціну для назіральніка. Гэта іх рознакаляровасць: васілёк-сіні, рамонак-белы, званочак-ліловы, незабудка-блакітная...

Мікалай Трухан быў адной з іх на безмежнай прасторы беларускай духоўнасці.

**Рыгор БАРАВІК**

# Ліст наўздагон Міколу Трухану

*Згарэў, падпалены жыццём*
*Свайго кутка Айчыннага...*
*З узрушаным сэрцабіццём*
*Вёз наша ў свет адчынены...*

*Аб’ездзіў, абхадзіў свой край*
*І быў не раз аглушаны,*
*Хоць на дудзе жалобу грай*
*Купалавай, нязмушанай:*
*Як можна не любіць свайго,*
*Саромецца як роднага*

*І клопату — ні аднаго,*
*І болю — аніводнага?!*

*Дзе я? Усё шукаў адказ.*
*Дзе мы? Усе пытаемся.*
*І раптам абарваўся час!*
*Што ж, памаўчым, пакаемся...*

*А маці Беларусі сын*
*З яе няўцешнай доляю*
*Пайшоў заўчасна за лясы,*

*Каб там спаткацца з воляю*
*Не раз прыснёнага жыцця,*
*З гаворкаю тутэйшаю...*
*Адна спадзеўка — ёсць працяг,*
*І мужных душ не меншае.*

*Ёсць вера: не адно акцэнт*
*Нам застанецца ў спадчыну*
*Ад беларускіх нашых сцэн,*
*Ад слёз і словаў матчыных...*

**Раман ТАРМОЛА-МІРСКІ**

# Жывая душа

Мікалай Трухан памёр у ноч з 20 на 21 сакавіка ў гатэльным нумары на тэатральным фестывалі “Маладзечанская сакавіца”.

Раніцай 20-га ягоны тэатр “Дзе-Я?” іграў “Мёртвыя душы” паводле Гогаля, — дзіўнае ды ўразлівае відовішча. Ці не ўпершыню на тэатральнай сцэне класікавы мёртвыя душы... увасобіліся. Кожнага персанажа прадстаўлялі два выканаўцы: персанаж і “яго палавіна”, — душа. З гэтай палавінай персанажы змагаліся, барукаліся, спрачаліся. Хто як мог. Душы адказвалі словам і дзеяннем. Колькі маглі. А некаторым і не было чым адказваць...

Выбітная тэатральная ідэя Трухана вымагала акадэмічных магчымасцяў. Налаўчонай, высокапрафесійнай трупы. Пастановачных сродкаў. Работы з кампазітарам, сцэнографам, харэографам. Па самым дарагім рахунку. Маштаб таленту Трухана ніяк і ніколі не супадаў з рамкамі, у якія даводзілася штораз уціскаць гэты талент.

Ён ставіў забароненага колісь Аляхновіча, — адкрываў п’есу за п’есай. Перапрацоўваў, пераніцоўваў іх на свой капыл, шукаў “іншай сутнасці”. Прызнаваўся ў інтэрв’ю, як хоча знайсці адметныя выяўленчыя сродкі, адрозную, пэўную сцэнічную мову, — такую, якая б сведчыла адразу, перад гледачом — беларускі тэатр.

Разам з Віталём Баркоўскім першым паставіў спектаклі паводле твораў Валянціна Распуціна і Людмілы Петрушэўскай. Пастаноўкі зрабіліся легендарнымі.

Гісторыі расказвалі і пра ягоныя вандроўкі на знакаміты эдынбургскі тэатральны фестываль “Фрындж” з пастаноўкамі паводле нацыянальных драматургаў. Па дарозе ў Шатландыю ў аэрапорце яго перахоплівалі лонданскія беларусы і прасілі... спектакляў. “Дзе-Я?” на чале з Труханам не адмаўляла ні лонданцам, ні нясвіжцам, ні жыхарам родных Труханавых Плешчаніц...

Нагадаўшы пра тое, што з жывою душою здараецца, Мікалай Трухан пайшоў ад нас назаўжды.

**Жана ЛАШКЕВІЧ**

УГОДКІ

# "Чалавек — гэта вам не мумія..."

## Да 90-годдзя з дня нараджэння Валерыя МАРАКОВА

ДОЎГІ ЧАС імя Валерыя Маракова было забытае. Вершы яго, калі і друкаваліся, дык знявечаныя цэнзураю. І толькі цяпер у нас з'явілася магчымасць нарэшце пазнаёміцца сапраўднаю спадчынаю адметнага паэта. Падборкі яго вершаў, некранутых рукою цэнзуры, друкавалі ў "Маладосці", "Беларусі", "Родным слове", "Звяздзе", "ЛіМе"... А ў хуткім часе выйдзе збор твораў і жыццяпіс паэта, які загінуў такім маладым...

Нарадзіўся В. Маракоў 14 (27) сакавіка 1909 года.

Бацька паэта, Дзмітрый Маракоў, разам з маладой жонкай Вольгай (у дзявоцтве — Майсіевіч), мясцовай дзяўчынай, пасяліліся каля чыгуначнага прыпынку Козырава (на той час прыгарад Мінска). У час імперыялістычнай вайны В. Маракоў разам з сям'ёю жыў у Мцэнску (Расія) і ў Рамнах (Украіна) і толькі восенню 1920 г. (па звестках М. Гарэцкага — у 1919 г.) сям'я вярнулася ў Мінск.

У 1924 г. В. Маракоў скончыў 4-ую Мінскую ўзорную школу (сямігодку) і амаль да канца 1925 г. працаваў печнікам разам з бацькам. Але ў друку — з чэрвеня — пачалі ўжо з'яўляцца першыя вершы В. Маркова. І ў снежні па пастанове ЦБ юных піянераў В. Маракоў быў прызначаны сакратаром рэдакцыі часопіса "Піянер Беларусі". У пачатку 1926 г. В. Маракова прымаюць у літаратурнае аб'яднанне "Маладняк". Адначасова яго абіраюць членам рэдкалегіі літаратурна-мастацкага і грамадска-палітычнага часопіса "Маладняк".

5 снежня 1926 г. літаратурны дадатак да газеты "Савецкая Беларусь" — "Сталёвы ўзлёт" у кнігаспісе маладнякоўскіх твораў паведамляе аб выхадзе з друку першага паэтычнага зборніка 17-гадовага В. Маракова "Пялёсткі".

***І так пішу... ізноў пішу***
***з натхненнем.***
***Твой васілёк перада***
***мной ляжыць.***
***А за вакном снуюцца***
***і танцуюць цені,***
***Упаў срабрысты***
***месяц на калені,***
***Стаў цалаваць***
***магільныя крыжы.***

*"Дзяўчыне"*

Але раней, да выхаду "Пялёстак", "В. Маракоў падрыхтаваў зборнік новых вершаў пад назвай "На залатым пакосе" — паведамляе ў раздзеле "Хроніка беларускае культуры" "Полымя" (1926 г. N 8). Зборнік гэты выйдзе з друку толькі праз год, восенню 1927 г.

На зборнікі 18-гадовага Маракова амаль адразу пасля іх выхаду з'явілася больш за дзесяць рэцэнзій. М. Гарэцкі пісаў: "Найлепшымі... паэтамі ў сучасным складзе "Маладняка" ёсць: Маракоў, Моркаўка, Трус, Вечар, Фамін, Бандарына, Плаўнік, Хадыка і некаторыя іншыя... Маракоў вызначаецца лірычнасцю, эмацыянальнай напружанасцю, гучальнасцю сваіх вершаў. У яго шмат пачуцця, ён любіць яскравыя фарбы і гучанне...":

***І там, над рэчкай,***
***і над полем***
***Я вып'ю раніцы зару,***
***Каб песняй радасці***
***і волі***
***Праславіць свету***
***Беларусь!***

*"Цяпер ў грудзях*
*другія словы..."*

"Маракова заўважыў і акрыліў бацькоўскай ласкай і прыхільнасцю Янка Купала. Народны паэт не раз запрашаў да сябе юнака на сваю кватэру і цешыўся яго першымі творчымі крокамі, даў паэту не адну сваю кнігу з цёплым і шчырым аўтографам", — прыгадвае С. Шушкевіч.

У канцы 1927 г. аб'яднанне пісьменнікаў "Маладняк" і Наркамат асветы БССР накіравалі В. Маракова на вучобу ў Мінскі Белпедтэхнікум імя У. Ігнатоўскага, але пасля двух курсаў (у 1929 г.) яго адазвалі з вучобы і прызначылі загадчыкам літаратурнага аддзела газеты "Савецкая Беларусь", дзе ён і працаваў з невялікім перапынкам да канца 1930 года.

"З Мінскага Белпедтэхнікума выйшла шмат маладое беларускае інтэлігенцыі, тае эліты, якая пазней станавіла галоўную турботу органаў НКВД і амаль уся была высланая ў канцлагеры", — пісаў Уладзімір Сядура (Глыбінны).

У ліпені 1929 г. буйнейшы літаратурны часопіс "Маладняк" аддае большую частку сёмага нумара В. Маракову. (Тады ж паэт, нямала рызыкуючы, тайна прыязджае да А. Дудара ў ссылку ў Смаленск). У часопісе публікуецца і паэма 19-гадовага В. Маракова — "Муляр":

***Я ўспрымаю ўсё без краю.***
***Я рад за юных і жывых,***
***Яны і сэрцам не згараюць,***
***І на кастры чужога краю***
***Не хіляць гордай галавы!***

У гэтым жа "Маладняку" з "літаратурным партрэтам-рэцэнзіяй пра творчасць В. Маракова выступіў А. Кучар. Нягледзячы на некатарую суб'ектыўнасць артыкула, варта адзначыць, што А. Кучару ўдалося паказаць В. Маракова не толькі як паэта, але і як чалавека, хоць ідэйны ўплыў Л. Бэндэ на крытыку пачынаў ужо адчувацца.

28 мая 1930 г. В. Маракоў чытае свой новы верш "Янку Купалу" на вечары з нагоды 25-годдзя літаратурнай дзейнасці вялікага песняра.

Эдзі Агняцвет успамінала: "Хросным бацькам Валерыя Маракова быў Янка Купала. Помню цёплы, усхваляваны голас Маракова на Купалаўскім ушанаванні ў Доме асветы:

***За песні і думы***
***Мы любім паэтаў,***
***За кожнае слова,***
***За кожны радок,***
***Што нашым агнём***
***І трывогай сагрэты...***
***Купала,***
***Вам гэты вянок!***

*"Янку Купалу"*

Восенню 1930 г. выйшла з друку кніга паэзіі В. Маракова "Вяршыні жаданняў" (цытуем першы варыянт верша "Жыццё, як мора-акіян"):

***Шчаслівы я,***
***што тут жыву.***
***Й за гэты край***
***вясной вялікай,***
***Быць можа,***
***знімуць галаву,***
***Праколяць цела***
***вострай пікай.***

***Дзе песні новых***
***дзён гудуць***
***І сцяг праменіцца***
***саветаў —***
***Другія творцы***
***павядуць***
***Наш край***
***да ленінскае мэты...***

У N 8 "Узвышша" (1930) быў змешчаны вялікі артыкул М. Лужаніна "Думкі пра паэзію Валерыя Маракова..." У красавіку 1931 — чэрвені 1934 гг. В. Маракоў вучыцца (адначасова з працай у часопісе "Чырвоная Беларусь" і інш. выданнях) у Мінскім Вышэйшым Белпедінстытуце. Восенню 1933 г. з другой спробы выйшаў з друку (ужо знявечаны цэнзарамі) зборнік вершаў В. Маракова "Права на зброю". Нягледзячы на "працу" цэнзараў у зборніку ёсць і радкі, пра якія "ў свой час" успомняць у НКУС:

***Чалавек —***
***гэта вам не мумія, —***
***ўзяў са склепу***
***і выштурхнуў вон,***
***чалавек —***
***гэта сад***
***з залатымі думамі,***
***дзе па жылах праходзіць***
***блакітны агонь.***

*"Рахунак паэта,*
*пададзены да аплаты"*

У студзені 1934 г. у "ЛіМе" з'явілася рэцэнзія М. Клімковіча "Пра кніжку В. Маракова "Права на зброю". М. Клімковіч піша: "Некаторая частка вершаў носіць яскрава выражаны варожы характар нашай сапраўднасці... Асноўныя памылкі (...): прапаганда буржуазнай тэорыі надкласавасці мастацтва... Сцверджанне "права" паэта стаяць у баку ад практыкі сацыялістычнага будаўніцтва... няправільнае, скажонае адлюстраванне нашай рэчаіснасці, няправільныя рэцэпты выпраўлення недахопаў... Пасіўная роля наглядальніка прыводзіць паэта да хворага песімізму..."



У пачатку 1935 г. В. Маракоў паехаў у мястэчка Чарнеўка Барысаўскага р-на ў творчую камандзіроўку на лесараспрацоўкі і лесасплаў. У Барысаўскім раёне працаваў да 1 сакавіка 1935 г., а потым вярнуўся ў Мінск, дзе прыступіў да творчай працы па напісанні рамана "Вечная крыніца" і п'есы.

21 сакавіка 1935 г. В. Маракова ў першы раз арыштоўваюць. Па сведчанні М. Клімковіча, у той час у Беларусі з пісьменнікаў быў арыштаваны толькі адзін В. Маракоў. Сапраўды, 1935 год на арышты быў даволі "сціплы". Але тут М. Клімковіч памыляўся. Акрамя В. Маракова, у той год былі арыштаваны Сяргей Фамін, Юрка Гаўрук і, магчыма, Сяргей Дзяргай. Гэта быў год "зацішша перад бурай". Тады Валеры яшчэ не ведаў, што і бацьку свайго ён бачыць у апошні раз...

У маі 1935 г. за "обрабатывание в антисоветском духе населения города Минска и ближайших районов" былі арыштаваны "главари крупной антисоветской организации" — епіскап г. Мінска Н. А. Семяняка, настаяцель Козыраўскай царквы І. П. Зянюк, стараста Козыраўскай царквы Д. З. Маракоў, бацька паэта, і іх "дапамагатыя" (усяго 25 "ворагаў народа"). У жніўні 1935 г. у 55-гадовым узросце Д. Маракоў будзе асуджаны на пяць гадоў канцлагераў (у канцлагеры і ссылцы прабудзе больш за дзесяць гадоў; усе гады зняволення працаваў у шахтах). Апошні раз "объяснение" у НКУС (КДБ) Д. Маракоў напіша ў 80-гадовым узросце... Памёр Д. Маракоў 18 лістапада 1968 г. Ён так ні разу і не атрымае сумлення запрацаванай пенсіі, бо не меў дакументаў (НКУС іх "чамусьці" згубіў, як і асабовую справу), якія б пацвердзілі яго працоўны стаж (каля 70-ці гадоў)...

У маі 1935 г. на В. Маракова НКУС запросіць з СП Беларусі характарыстыку, якую старшыня Саюза пісьменнікаў М. Клімковіч даручыць зрабіць А. Кучару. Той напісаў характарыстыку, якая больш нагадвала абвінавачае заключэнне. Але 7 ліпеня справа В. Маракова была спынена, і ён быў выпушчаны з Мінскай турмы НКУС.

6 лістапада 1936 г. паэт быў зноў арыштаваны. Арышт быў праведзены супрацоўнікам НКУС БССР Авербухам згодна з ордэрам N 700, выдадзеным 3.11.1936 і сапраўдным адны суткі (арыштавалі В. Маракова, такім чынам па ўжо несапраўдным ордэры).

Дарэчы са слоў Тодара Кляшторнага, сказаных у верасні 1936 г. у Доме пісьменніка М. Багуну і П. Хатулеву, даведваемся, што "Маракоў, калі ад'язджаў з Мінска на раён, узяў з сабой наган і казаў, што ён будзе са зброяй у руках бараніць сябе..." Калі б В. Маракова арыштоўвалі не на Мінскім вакзале, а ў пакоі, які ён здымаў у Барысаве, і дзе, магчыма, прыхаваў так і не знойдзены "нкусаўцамі" наган, апошнія вымушаны былі б "браць" пісьменніка з боем...

Пасля года катаванняў ужо знявечанага В. Маракова выязная сесія ваеннай калегіі Вярхоўнага Суда СССР прыгаварыла да вышэйшай меры пакарання — расстрэлу з канфіскацыяй усёй маёмасці. Прыгавор у сілу Пастановы ЦВК СССР ад 1 снежня 1934 г. падлягаў неадкладнаму выкананню.

29 кастрычніка 1937 года В. Маракова расстралялі. Разам з ім былі расстраляны Якаў Бранштэйн, Анатоль Вольны, Платон Галавач, Алесь Дудар, Хацкель Дунец, Міхась Зарэцкі, Васіль Каваль, Майсей Кульбак, Зяма Півавараў, Васіль Сташэўскі, Ізі Харык, Пятро Хатулёў, Міхась Чарот, Пятро Шастакоў, Арон Юдэльсон.

Згадваючы пра той чорны для беларускай літаратуры дзень С. Грахоўскі пісаў: "Не магу ўявіць, у якога звера паднялася лапа, каб стрэліць у патыліцу аўтарам "Босых на вогнішчы", "Сполаху на загонах", "Сцежак-дарожак", вершаў, якія ён, напэўна, вучыў на памяць у школе. Уяўляю, каб у гушчары пушчы сустрэўся галодны воўк з блакітнавокім, залатавалосым Валерыем Мараковым, у яго апусцілася б хіжая лапа, ён саступіў бы сцежку паэту, абароненаму аўрай дабра і натхнення".

Рэабілітаваны В. Маракоў быў 10 верасня 1956 г.

**Валеры БОР**





ЗАСНАВАЛЬНІКІ

**Саюз беларускіх пісьменнікаў; рэдакцыя газеты "Літаратура і мастацтва"**

**ВЫХОДЗІЦЬ З 1932 ГОДА**

**Галоўны рэдактар**
**Алесь ПІСЬМЯНКОЎ**

**РЭДАКЦЫЙНАЯ РАДА:**
**Святлана БЕРАСЦЕНЬ,**
**Павел ВЕРАБ'ЁЎ** — *намеснік галоўнага рэдактара,*
**Мікола ГІЛЬ,**
**Галіна КАРЖАНЕЎСКАЯ,**
**Жана ЛАШКЕВІЧ,**
**Алесь МАРЦІНОВІЧ,**
**Барыс ПЯТРОВІЧ** — *першы намеснік галоўнага рэдактара,*
**Людміла РУБЛЕЎСКАЯ,**
**Віктар ШНІП** — *адказны сакратар*

**АДРАС РЭДАКЦЫІ:**
**220005, Мінск, вул. Захарава, 19**

**ТЭЛЕФОНЫ:**
прыёмная рэдакцыі — 284-8461
намеснікі галоўнага рэдактара — 284-8525, 284-7985
АДДЗЕЛЫ:
публіцыстыкі — 284-8204
пісьмаў і грамадскай думкі — 284-7985
літаратурнага жыцця — 284-8462
крытыкі і бібліяграфіі — 284-7985
паэзіі і прозы — 284-8204
музыкі — 284-8153
тэатра, кіно і тэлебачання — 284-8153
выяўленчага мастацтва, аховы помнікаў — 284-8462
навін — 284-8462
мастацкага афармлення — 284-8204
фотакарэспандэнт — 284-8462
бухгалтэрыя — 284-7965

*Пры перадруку просьба спасылацца на "ЛіМ".*
*Рукапісы рэдакцыя не вяртае і не рэцэнзуе.*
*Пазіцыя рэдакцыі можа не супадаць з меркаваннямі і думкамі аўтараў публікацый.*

**Набор і вёрстка камп'ютэрнага цэнтра тыднёвіка "ЛіМ"**

Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах

Друкарня "Беларускі Дом друку" (г. Мінск, пр. Ф. Скарыны, 77)

Індэкс 63856.
Наклад 3910.
Нумар падпісаны ў друк 25.3.1999 г. у 17.30.
Рэгістрацыйнае пасведчанне № 715
Заказ 1394/Г

Д 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12